## ПРАДЧУВАНЬНЕ КНІГІ

**У людзей, як даўно тымі ж людзьмі заўважана, памяць** кароткая. Больш-менш яна працяглая ў кожнага адносна самога сябе. А што да іншых людзей, якія жылі з табой побач, да падзей, якія здараліся зь імі, у якіх ты ня ўдзельнічаў, такая памяць мімалётная, як пралёт матылька. І вельмі мяне цешыць, што ёсьць людзі, якія гэта разумеюць і спрабуюць падоўжыць нашу кароткую памяць. Адным з такіх людзей зьяўляецца аўтар кнігі, які разумеў гэта яшчэ тады, калі вёў рубрыку «Забытыя адрасы» ў перадачы «Вострая Брама». Там якраз былі забытыя адрасы нашай памяці. Як добра вядома, памяць запісаная захоўваецца значна даўжэй. А калі яна запісаная добра, то захоўваецца навечна.

Уладзімір Някляеў, пісьменьнік

**Яшчэ ў канцы 1990-х, калі цыкль «Забытыя адрасы»** выходзіў у этэр на хвалях Радыё Свабода, яго назва выклікала ў мяне пытаньне: калі Зьміцер Бартосік адшукаў быў сталкераў да тых адрасоў, то ўжо не забытыя яны і ня будуць! Іншая рэч, што нехта дужа хацеў, каб мы забылі. Але цяпер зямныя каардынаты чыну Казімера Сваяка ды іншых нашых старэйшых духоўных сваякоў і родзічаў — ад Аляксандра Ўласава да Караткевіча — у кнізе. Тым больш каштоўнай, што Зьміцер засьпеў і выдатных праваднікоў па знакавых мясьцінах — Артур Вольскі, Валянцін Тарас, Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін, Міхась Герчык… Кніга — дзеля памяці і пра іх. «За старым

сваякоўскім сталом, перад сьвечкаю» адкрываецца Беларусь сапраўдная, нармальная, увасобленая ў выдатных людзях.

Вінцук Вячорка, мовазнаўца

**«Паралельныя сусьветы Зьмітра Бартосіка».** Такі падзагаловак я б даў для «Забытых адрасоў». Ты трапляеш у аўтарскую рэканструкцыю атмасфэры, у якой жылі і стваралі героі кнігі. Часта гэта творцы, якіх альбо зусім не называлі, альбо хуценька «прабягалі» ў савецкай школе, што прынцыпова не зьмяніліся за больш як чвэрць стагодзьдзя незалежнасьці. А таму разам з «адрасамі» нас чакае шмат цікавага, важнага, тонкага, што яшчэ паўплывае на будучыню краіны.

Севярын Квяткоўскі, журналіст

**Слухаючы «Забытыя адрасы», я зьдзіўляўся:** колькі яшчэ адкрыцьцяў захавала для нас Беларусь! Ня проста нямала, а — няма ў нас незнакамітых мясьцінаў: вёсак, мястэчак, гарадоў… І ня толькі тых, якія сталі адрасамі для вядомых асобаў — пісьменьнікаў, мастакоў, творцаў увогуле. Кожны куточак Беларусі ўнікальны па-свойму, трэба толькі ўмець разгледзець гэта. Што пераканаўча і робіць Зьміцер Бартосік. Пройдзе час і — ніколькі не сумняваюся — перадачы Радыё Свабода стануць шляхапаказальнымі, а забытыя сёньня адрасы ўвойдуць у турыстычныя маршруты. А таму «Забытыя адрасы» — гэта лісты зь мінулага ў будучыню. На жаль, ня нам, на шчасьце — ад нас. Бо важна ня толькі ведаць, але і перадаць веды. Важна ня толькі памятаць, але і захаваць памяць.

Барыс Пятровіч, пісьменьнік

**Згадваючы даволі далёкія ўжо, на жаль, гады, калі я** зь вялікім задавальненьнем і смакам слухаў перадачу «Вострая Брама», я смуткую. Бо даўно ня чую такой якасьці перадачаў. Настолькі яна была зьмястоўная і цікавая як у літаратурным пляне, так і ў энэргетычным. Я заўсёды чакаў новых перадач, бо ведаў, што аўтары ня схібяць. Ні ў інтэлектуальным пляне, ні ў душэўным. Што да рубрыкі «Забытыя адрасы», якую вёў Зьміцер Бартосік, гэта былі кожнага разу адкрыцьці. Можна было пачуць шмат новага пра тых людзей, якіх ты нібыта ведаў. Але ня ведаў. Бо тое, што мог расказаць Рыгор Барадулін пра Ўладзімера Караткевіча ці Валянцін Тарас пра тагачасную пісьменьніцкую грамаду… Ну дзе ж мы маглі тады пра гэта прачытаць? Гэта былі вясёлыя гісторыі, амаль анэкдатычныя. Тое, чаго не хапае. Цяпер няма ні Тараса, ні Вольскага, ні Барадуліна. І ўжо не запытаесься. Ужо фактычна не засталося людзей той пасьлясталінскай эпохі, таго рэнэсансу, які мы яшчэ не ацанілі. Таму вялікая пашана Бартосіку, што ён хадзіў па гэтых адрасах, зьбіраў гісторыі і рабіў усё, каб яны не былі забытыя.

Рыгор Сітніца, мастак

**Зьміцер Бартосік. Клініка кітайскага дантыста.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2018. 284 с.: +24 с. іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Рэдактар *Сяргей Дубавец*
Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Вінцук Вячорка*

Нястомны вандроўнік Радыё Свабода, аўтар адпраўляецца ў падарожжа па «забытых адрасах» культуры і чароўнай палачкай славутых імёнаў уваскрашае цэлыя эпохі, сюжэты і жарсьці зь нязьменным вынікам — адкрыцьцём! Ён знаходзіць сьляды француза Апалінэра ў Беларусі і беларуса Рыпінскага ў лёнданскім Тотэнгэме, распавядае кур'ёзныя, страшныя, сьмешныя гісторыі пра беларускіх пісьменьнікаў і галоўнага героя позьнесавецкай Беларусі Ўладзімера Караткевіча, а ў прыгадках пра «дачку Леніна» і Халодную сынагогу ажывае цэлы даўно зьніклы горад Менск. Заўтра ўсе гэтыя адрасы стануць аб'ектамі паломніцтва турыстаў. А пакуль пра гэта ведаеце толькі аўтар і Вы, чытач.
Фота аўтара. Фота на вокладцы: 1 с. — Shutterstock, 4 с. — Андранік Антанян.


FOL

ISBN 978-0-929849-21-8

# Зьмест

КАРАТКЕВІЧ І АСТАТНІЯ



МЕНСК І МІНСК

# Новая зямля

Усе маюць родны кут, а Зьміцер Бартосік мае ўсю Беларусь і ваколіцы, а таксама тую мінуўшчыну, якая не мінае. Якая сьмяецца зь сябе і плача па нас, уражвае і жыве.

Краявід без імёнаў мёртвы, замкі рассыпаюцца безь летапісца, даляглядаў няма без мастака.

Мы думалі, аўтар — актор, а ён драматург,
мы думалі — журналіст, а ён філёзаф,
мы думалі — бард, а ён паэт,
мы думалі — пісьменьнік, а ён падарожнік.

Калі не спыняцца, зямля заўсёды новая.

*Аляксандар Лукашук, Радыё Свабода*

# Праз могілкі

*Слова на дарогу*

Узімку 1998 году мы з паэтам Славамірам Адамовічам апынуліся ў вёсцы Траскоўшчыне. Дакладней, у санаторыі пад Менскам, дзе праходзіў нейкі журналісцкі сэмінар. Пяціразовае харчаваньне, масажы-саўны і кактэйлі-більярды суправаджаліся гарачымі дыскусіямі пра лёс нашай шматпакутнай Бацькаўшчыны. У вёску я не выходзіў. Тым часам Славамір апранаў свой шыкоўны набыты ў Варшаве строй і, рыхтык опэрная зорка, выпраўляўся ў паход, як ён казаў, па жывыя сюжэты.

Аднойчы ён прапанаваў мне скласьці яму кампанію. Ды не абы-куды, а на вясковыя могілкі. Ну ўжо там якія табе жывыя сюжэты? — заўпарціўся я. «Хачу знайсьці беларускія магілы». У адказе была інтрыга. Мы нават ледзь не паспрачаліся. Маўляў, бліжэйшая беларуская магіла — на Вайсковых кладах у сталіцы. Але ўпэўніцца ва ўласнай рацыі на свае вочы я адмовіць сабе ня мог і пайшоў разам зь ім. Хоць, шчыра кажучы, як жа мне хацелася памыліцца!

Я цалкам быў на ягоным баку. І ня менш за яго хацеў на самых звычайных беларускіх могілках убачыць беларускамоўную магілу не народнага паэта, ня сябра саюзу мастакоў, а надмагільле, зь якога можна было б зразумець, што пад ім спачывае ўсяго толькі Беларус.

Могілкі былі немалыя. Замшэлыя драўляныя крыжы стогадовае даўніны і пражавелыя, звараныя са звычайных водаправодных трубаў крыжы нашага часу. Уразіла мноства дзіцячых магіл. Каля адной я нават расхваляваўся. Хлопчык Валодзя прыйшоў на сьвет у адзін месяц і год са мною. Дата сьмерці — 1971 — якраз той год, да якога сягае мая ўласная памяць. З выцьвілага мэдальёну глядзеў занадта сур'ёзны для трохгадовага чалавека твар. Адчуваньня радасьці жыцьця ад тых лічбаў і таго погляду ў мяне не паболела.

Трапляліся й багатыя магілы, з гранітнымі помнікамі ды агароджамі зь нержавейкі. Але ўсе пахаваньні аб'ядноўвала (ці ўраўноўвала) расейская мова. Часам настолькі пачварна зарыфмаваная ў эпітафіях, што мяне брала крыўда за нябожчыка. Пакуль я курыў каля помніка 23-гадовай прывабнай Ірыне, спакой могілак быў парушаны праз меру жывым воклічам майго сябра.

Ён знайшоў беларускую магілу. Надпіс на ўрослым у зямлю камені паведамляў зь беларускім аканьнем, што тут спачывае «Раба божая Татяна Ляхава». Наступныя два помнікі былі

ўжо сьвядома беларускія. Ахайныя абэліскі Івана ды Эміліі Ляхаў. З чыёй ініцыятывы? Дзяцей ці самога Івана Паўлавіча, прыгожага савецкага афіцэра на здымку? Ды ці так гэта важна, калі двум падарожнікам па марозных кладах на душы стала цяплей.

Калі мы, задаволеныя, зьбіраліся сыходзіць, нам трапілася яшчэ адна беларуская магіла. Грунтоўная агароджа і ладны драўляны крыж, пафарбаваны сіняю фарбаю, на якім нажом былі няроўна надрапаныя словы «пагіб ад фашыскай рукі 1944 Пражыў 47. Кухарчык К.М.» Тут ужо быў сюжэт. Жывы й да сёньня.

Як мала, аказваецца, нам трэба, каб не пачувацца самотнымі ў сваёй мове, — знайсьці пару роднасных душ зусім невядомых, даўно зьніклых з гэтага сьвету людзей. Шчыра кажучы, я не магу ўявіць сабе вечнага жыцьця чалавечай душы. І ці ёсьць мовы там, куды зьнікаюць душы? Але драма і моц гэтае краіны ў тым, што нават душы памерлых, якія былі ёй адданыя, не зьнікаюць зь яе назаўжды і надпісамі на сваіх магілах ратуюць яе самабытнае аблічча.

Ці не тады, на вясковых могілках, узьнікла ў мяне ідэя наведаць забытыя адрасы тых, каго даўно няма сярод жывых, але чые думкі, эмоцыі, творы сфармавалі нас, цэлыя пакаленьні наступнікаў, без чаго наш лёс быў бы іншым. Прынамсі адзін радок знаёмай зь дзяцінства песьні ўвесь час круціўся ў маёй галаве: «Наши мёртвые нас не оставят в беде».

***

Я меў акурат тры гады, калі ўпершыню пачуў Высоцкага. Калі ж запрацавала памяць, першае, што вывучыў, — песьню «Кони привередливые». Магнітафона ў нас не было, таму я здавольваўся кружэлкамі з «дазволенымі» песьнямі. Недазволеныя далятталі да мяне толькі з адчыненых вокнаў на вуліцы. Куды б я ні сьпяшаўся, уставаў як укапаны ды слухаў. Разумеў мала, але голас і напятая да немагчымага манера выкананьня ўражвалі.

Магнітафон у хаце завёўся толькі пасьля сыходу артыста. Ягоная сьмерць у маёй сьвядомасьці быццам адцягнулася ў часе й прасторы дзякуючы майму няведаньню бальшыні напісанага ім. Недзе была Масква й Ваганькава зь ягонай магілай, але пакуль у мяне ў запасе заставаліся непраслуханыя стужкі й непачутыя песьні, мёртвае Ваганькава лёгка адцянялася жывым голасам. Толькі калі скончыліся стужкі, што я пазьбіраў ад усіх сяброў ды знаёмых, ягоны канчатковы сыход стаў для мяне рэальнасьцю. Ад раптоўнасьці зразуметага я, памятаю, тады плакаў.

Як гэта ні дзіўна, думаю, менавіта Высоцкі адкрыў мне дзьверы ў беларушчыну. У краіну, дзе ўсё самае цікавае і захапляльнае прыхавана ад вачэй. Як дэфіцытная кніга Караткевіча за бязьлікімі савецкімі тамамі на паліцы кнігарні. Альбо як колішні барочны касьцёл, што пазнаваўся з тыльнага боку будынку, фасад якога быў

аздоблены портыкамі і калёнамі сталінскага ампіру. Ці, наадварот, самае цікавае было на самым бачным месцы і таму заўважалася не адразу. Як старыя высокія дрэвы, што расьлі ў раёне зруйнаванай Нямігі, пазначаючы сваімі кронамі зьніклыя вулкі й двары найстарэйшых менскіх кварталаў. «Алісу ў краіне цудаў» я слухаў яшчэ ў Ніжнім Ноўгарадзе. Але асэнсаваньне прыйшло ўжо ў Беларусі.

Мне так бы хотелось, хотелось бы мне
Когда-нибудь как-нибудь выйти из дому
И вдруг оказаться вверху, в глубине,
Внутри и снаружи, — где всё по-другому!

Яшчэ ў 1979-м, будучы з тэатрам у Менску на гастролях, Высоцкі назваў Беларусь краінай, што было ў тыя часы незвычайна, а таму рызыкоўна. Усе казалі — рэспубліка. А тут… «Я вельмі добра ведаю гэтую краіну. Я шмат чым зьвязаны зь Беларусьсю, зь Менскам».

У яго тут былі свае памятныя мясьціны. Наваградчына, адкуль карані ягонай францускай жонкі, менскі раён Усход, дзе жыў ягоны сябра Віктар Тураў, Дом афіцэраў, дзе гастраляваў ягоны тэатар… Аднак беларускіх вобразаў у ягонай спадчыне ня так і шмат. Згадваецца:

В холода, в холода
От насиженных мест
Нас другие зовут города, —
Будь то Минск, будь то Брест.
В холода, в холода…

Таксама згадваюцца беларускія словы ў ягоных вершах. Напрыклад, «вяртайся» ў дарожным дзёньніку. Ён апісаў Курган Славы: «Два огромных штыка полоснули морозом по коже. Остриями по-мирному к верху, а не накренясь». І ці ня дзякуючы ягонаму ўдзелу нашы кінакрытыкі назвалі фільм Віктара Турава «Я родам зь дзяцінства» найлепшым творам за ўсю гісторыю беларускага кіно?

У 1982 годзе Гомельскі драматычны тэатар, дзе працавалі мае бацькі, гастраляваў у Горадні. Мы жылі ў гасьцініцы «Нёман». Пакуль мама і тата былі ў тэатры, я браў мапу Горадні ды ішоў на вывучэньне места. Я гэта рабіў у кожным горадзе, дзе мы гастралявалі. Да Горадні ўжо пасьпеў выхадзіць Крапіўніцкі і Марыюпаль ва Украіне, Алматы і Кастанай у Казахстане. Але толькі на гарадзенскіх вуліцах я адчуў тое таямнічае, непадобнае, несавецкае. «Где всё подругому». За той ліпень, што мы былі ў Горадні, у мяне зьявіліся тут свае ўлюбёныя мясьціны. Замак. Кляштар брыгітак. Езуіцкі касьцёл.

Памятаю, як адзін актор, тэатральны парторг, зайшоў у той касьцёл. Паглядзець на ўбранства. «Ну зайшоў. Прыстроіўся да нейкай групы людзей. Думаю — турысты. Стаю, гляджу на скульптуры. Разам з гэтымі турыстамі. А яны — раз! — і ўсе на калені! А я адзін вытыркаюся, як дурань». «І доўга ты так узвышаўся?» «Ды не, бачком, бачком і хутчэй да выхаду», — пад агульны рогат скончыў парторг.

«Я родам зь дзяцінства» я ўбачыў ужо дарослым. Калі мог захапіцца экраннымі цудамі Аляксандра Княжынскага, апэратара, чыёй вяршыняй стаў «Сталкер» Андрэя Таркоўскага. Калі ўжо змог ацаніць майстэрства Яўгена Глебава, які аранжаваў мэлёдыі Высоцкага. І калі ўжо адчуваў дыскамфорт ад літаратурнай расейскай мовы кінагерояў на фоне гарадзенскай сынагогі ды руінаў Ружанскага палаца. Калі Высоцкі выйшаў з брамы кляштару брыгітак, я ўсхваляваўся радасьцю пазнаваньня. Гэтая брама была адным з «маіх» месцаў.

Тады, у 1982-м, у нашай гасьцініцы жыла здымачная група кінакарціны «Чужая бацькаўшчына», самай беларускай стужкі з усіх зьнятых на «Беларусьфільме». Але тады мне, падлетку, імя аўтара аднайменнага раману Вячаслава Адамчыка нічога не казала. Як і імя рэжысэра Валерыя Рыбарава, які неяк убачыў мяне ў гасьцінічным калідоры. Прапанова зьняцца ў масоўцы ў якасьці вясковых хлапчукоў і дзяўчатак успрымалася намі, дзецьмі кулісаў, як цікавая прыгода. Ня больш.

У той вёсцы, куды прывезьлі нашу вясёлую кампанію, са мною адбылося нешта магічнае. Ня тое каб зьдзіўленьне маленькага месьціча вясковым бытам. Захапленьне было такое, нібы ад падарожжа ў часе.

Нас апранулі ў сапраўднае саматканае адзеньне. Нашыя гарадзкія фрызуры падкарэктавалі велізарнымі нажніцамі. Але найбольшы

эфэкт выпаданьня з сучаснасьці са мною рабілі пахі. Незнаёмыя, таму найвастрэй успрынятыя. Пахі сена, на якім мы дурэлі, пакуль дарослыя важдаліся са сваімі кінакамэрамі. Пахі старых хатаў. Пахі зямлі.

Самым яркім уражаньнем таго дня, самым таямнічым і загадкавым быў драўляны касьцёл. Ён стаяў насупраць аднапавярховай школы. Пачарнелы ад часу, высокі. Дзьверы былі на замку. Мы падцягнуліся да вакенца, якое было над дзьвярыма.

За мутным шклом я ўбачыў жывую дэкарацыю да гогалеўскага «Вія». Аздоба касьцёлу была некранутая. На абразах і скульптурах ляжаў таўшчэзны пласт пылу. Па кутах зьвісала векавое павучыньне. А галоўная таямніца — пасярод касьцёлу стаяў катафалк з драўлянай разьбянай дамавінай.

У той дзень я трапіў у іншую краіну. Канчаткова разбуралі звыклую савецкую рэальнасьць гукі жывой беларускай мовы, якая тут панавала паўсюль. Беларусь на імгненьне паказала свой сапраўдны твар. І ён быў чароўны.

У той вёсцы памочніца рэжысэра зірнула на мяне і ўзмахнула рукамі. «Ды гэта ж чысты Міця Корсак!» Я нічога не зразумеў. Але мяне тут жа павялі да Рыбарава. Так я затрымаўся ў гэтай карціне назаўжды.

Праз гады, пераглядаючы «Чужую бацькаўшчыну», я спрабаваў узгадаць, што ж гэта была за вёска. Але ніхто ня мог даць адказу. Рэжысэр

Валеры Рыбараў ня памятаў, апэратар Фэлікс Кучар памёр.

Апантаны ідэяй знайсьці тое месца, дзе зрабіў першы крок па жывой Беларусі, я кружляў над Горадзеншчынай пры дапамозе праграмы Wikimapia. І праз гадзіну «палёту» знайшоў-такі касьцёл насупраць школы. Патэлефанаваў у школу. І былая настаўніца мне пацьвердзіла, што сапраўды калісьці ў іх здымалася «Чужая бацькаўшчына». Вёска называецца Прывалкі.

***

Могілкі-магілы, труны-дамавіны… Колькі ж іх сустракаў я на маім шляху!

Улетку 2005 году, стоячы перад закрытай труной паэта Анатоля Сыса, я з іроніяй згадваў сваю зайздрасьць, зьвязаную зь ягонымі вершамі.

Зайздрасьць была да барда Андрэя Мельнікава, які на фэсьце «Аршанская бітва» ў 1992-м сьпяваў песьню «Ў гэтай краіне ня маю я дому». Я мусіў выступаць наступным і захоплена слухаў словы Андрэевай песьні. Гэта ж трэба так афарыстычна і трапна, бяз патасу і позы апісаць свой нацыянальны боль! Пасьля я даведаўся, што аўтар верша Анатоль Сыс. І зайздрасьць адпусьціла.

А пазнаёміўся я з Сысом на сваім уласным канцэрце на «Вольнай сцэне» ў 1997-м. Арганізатары былі ў жаху, калі пабачылі яго ў фае. Зьяўленьне Сыса звычайна абяцала, што вечар

сумным ня будзе. Але, на зьдзіўленьне арганізатараў, Анатоль быў ідэальным маім слухачом. Сядзеў ціха, слухаў засяроджана. Пасьля прайшоў за кулісы. Павіншаваў з добрым выступам і дастаў пляшку брэндзі. Да якой я з задавальненьнем прыклаўся.

Арганізатары глядзелі на мяне як на звышчалавека. «Чаму ён з табой так?» «Як такое магчыма?» «Вы што, сябры?» — пыталіся яны ў мяне. Ды не, — казаў я, — можа, яму проста песьні спадабаліся. Напрыклад, пра запой.

У той дзень, калі ў маім нататніку зьявіўся аўтограф Сыса, я, шукальнік «помнікаў на мове», патрапіў на абмеркаваньне «помніка мове». Яно адбывалася ў музэі Янкі Купалы на пасяджэньні клюбу «Спадчына».

Спачатку старшыня суполкі Анатоль Белы доўга распавядаў пра свой візыт да дачкі ў ЗША, з бацькоўскім гонарам паведамляючы, колькі ў новым доме дачкі прыбіральняў і душавых. Пасьля ўсе даведаліся, што Рада БНР жыве, абнаўляецца й яе ўплыў расьцякаецца па плянэце. За Эўропу адказвае спадар Навумчык. СНГ дасталася спадару Нюньку зь Вільні. «А Пазьняку трэба было б даць Афрыку. Так і падзялілі б увесь шарык», — адкамэнтаваў інтэлігентны дзядок, які сядзеў побач.

Затым пачалося самае цікавае — абмеркаваньне помніка. Найбольшую ўвагу прысутных прыцягнулі два праекты. Першы ўяўляў сабою аграменную чарніліцу з устаўленым у

яе пяром. Калі ўявіць маштаб чарніліцы 1 да 200, то пяро ператваралася ў вялізную стэлу на пастамэнце. Я чамусьці згадаў, што адзін мой знаёмы кожную воданапорную вежу называе помнікам гранаце. Другі праект быў больш клясычны. Жанчына (маці-Беларусь) трымала на руках дзяўчынку (мову), перадаючы ёй пяро (неўміручасьць нашага пісьменства). На пастамэнце — барэльефы змагароў за матчыну мову. Абодва праекты настолькі спадабаліся прысутным, што вырашана было «маці» ўсталяваць у Менску, а «чарніліцу» падараваць Полацку. Зь дзяржаўным фінансаваньнем, як высьветлілася, праблемаў быць не павінна. Як кажуць, хто хавае, той і заказвае надмагільле.

А пасьля прыйшоў Сыс. І прапанаваў пайсьці да яго ў госьці. У шэрую «маласямейку», што схавалася ў дварах на вуліцы Чарвякова.

Маленькая аднапакаёўка Сыса ўразіла, як ніводзін музэй. Гэта было жытло двухаблічнага чалавека. Кухня — месца жыхарства і загулаў халасьцяка і алькаголіка са сталом «пусьці-павалюся», з шыхтом пустых бутэлек пад ракавінай, з бруднымі сьценамі. А ў пакоі з рабочым сталом — ідэальны парадак. Кожная рэч, кожны аркуш паперы, кожная кніга на сваім месцы. Як гэтыя два памяшканьні суіснавалі разам? Так павінна выглядаць жытло доктара Джэкіла. Прыстойнага пана добрых манераў, які, пераходзячы парог кухні, імгненна ператвараўся ў містэра Гайда, злодзея і арангутанга.

Мы тады пілі на кухні. І я запомніў (ці мне здалося?), як захмялелы Сыс, падыходзячы да свайго пісьмовага стала, заўважна цьверазеў.

На кухні ён мацярыў латыскага паэта Улдыса Бэрзыньша. Чым яго дапёк калега, я так і ня ўцяміў. Але, сеўшы за стол, сур'ёзны і засяроджаны Сыс папрасіў у мяне нататнік. Узяў чырвоную асадку і зусім цьвярозым почыркам напісаў:

Латыская дывізія СС
З барадатым рыжым ахвіцэрам
Увайшла на досьвітку ў Пан Лес.
Я, каб выжыць, абярнуўся зьверам.
Бацьку — у луня ператварыў,
Маці — у нямую салаўіху…
Кніжку ў Рызе, дурань, ахвіцэру падарыў
Рыжаму. На ліха?
Штандартэнфюрэр Бэрзыньш, што
прыйшоў?
Паляваць паэтаў беларускіх?
Хіба табе мала латышоў?
Ці палякаў, ці жыдоў, ці рускіх?
На сьцяне сталёвы пісталет,
А на сэрцы пераплёт Абая.
Хто табе навёрз, што я паэт?
Што, як пан, свой лес блакадны маю?
Такі пан — каўтун у галаве,
На душы трывога: абы ціха —
Лунь, хавайся у сівой траве,
У лісьцы хавайся, салаўіха.

Некалі гэты менскі раён называлі Пярэспай — ад назвы ракі, прытоку Сьвіслачы. На беразе

гэтай ракі пасяліўся ці то волат, ці то вядзьмар Мянеск, які збудаваў вадзяны млын і такім чынам заснаваў горад Менск.

Ідучы зусім нядаўна празь Пярэспу, я зайшоў у двор, дзе стаіць тая шэрая Сысова «малясямейка». Вуліца Чарвякова, дом 2, корпус 3. Набраў на дамафоне лічбу 81. Але ў адказ мне былі толькі гудкі.

***

Сышоўшы таго памятнага разу з Купалаўскага музэю ў «дом-музэй» Анатоля Сыса, я ніяк ня мог прадбачыць, што далей мая дарожка дацягнецца і да «Коласавай хаты». На разьвітаньне Сыс выцягнуў фаліянт, які аказаўся нотным сшыткам нейкага выдатніка 1907 году зь Нясьвіскай настаўніцкай сэмінарыі, і абавязаў мяне аднесьці гэтую працу нікому не вядомага сэмінарыста ў дом бесьсьмяротнага вучня той самай установы.

«Вы сябры Сыса?» — асьцярожна запытала дырэктарка, з хваляваньнем прымаючы фаліянт і аглядаючы мяне й Славаміра Адамовіча, які склаў мне кампанію. Нам прапанавалі застацца, паабяцаўшы неўзабаве цікавую сустрэчу. І пакуль Славамір вывучаў улёткі часоў Другой усясьветнай, знаходзячы ў коласаўскіх радках на тэму «бі фашыста» сугучнасьць сёньняшняму дню, я добрасумленна бадзяўся па былым асабняку ў дарэмным намаганьні адчуць прысутнасьць таго, хто пражыў тут

сваеапошнія гады. Ці не адзінага вялікага «нашаніўца», які пайшоў з жыцьця сваёй сьмерцю, у сваім доме.

У адрозьненьне ад «Купалавага дому», гэтыя сьцены памятаюць голас свайго гаспадара. Ад чаго, асабліва калі ты блукаеш тут адзін, пачуваесься няпрошаным госьцем. Вялізныя пакоі ў заўсёдным паўзмроку шэрых штораў, загароджаныя стужкамі; ампірныя гадзіньнікі, якія ніхто не заводзіць; шыкоўныя фатэлі, да якіх нельга дакрануцца.

А дом патроху запаўняўся галасамі новых гасьцей. Паважныя навукоўцы, мітусьлівыя журналісты, разьняволеныя студэнты. У гушчы публікі я пазнаў Сакрата Яновіча. Аказалася, зусім нечакана для сябе мы са Славамірам трапілі на прэзэнтацыю новай кніжкі гэтага прызнанага аўтара, што выйшла ў «Мастацкай літаратуры». «Сьцяна» — прачытаў я на вокладцы не безь зьдзіўленьня. Гэта быў пачатак 1998 году. Набор кнігі з такой самай назвай летась рассыпалі ў той самай «Мастацкай літаратуры». Гэта была кніга Васіля Быкава.

Няма імпрэзы тужлівейшае на сьвеце, чым сустрэча зь беларускім пісьменьнікам. Менавіта такая думка валодала студэнцкай (што прыемна, найбольш шматлікай) часткай нашае аўдыторыі. У кожным разе, шаноўныя літаратуразнаўцы прафэсары Адам Мальдзіс і Ўладзімер Гніламёдаў хвілінаў сорак намагаліся даказаць гэтую гіпотэзу, распавядаючы пра ролю

Яновічавага слова. Мне ўзгадалася неўміручае шалкевіцкае: «І пры паваленым Яновічавым плоце мы станем ціхенька і будзем гаварыць».

Стаміўшыся чакаць выступу героя дня, я вырашыў зазірнуць у ягоную кнігу, сама назва якой правакавала на пэўныя пытаньні. Але дата напісаньня, 1977 год, гэтыя пытаньні мякка здымала. Прачытаўшы наўздагад выбраны абзац, я трохі зьбянтэжыўся. Мне трапілася наступнае: «Усё прышылі яму. Уляпілі Сумленевічу дзіўна нямнога, гадоў нешта паўтара. Нечуванае: без грашовай рэкампэнсацыі пацярпеламу!» Быццам учорашнюю газэту адгарнуў.

Нарэшце мы дачакаліся спадара Сакрата. Першае, чым ён парадаваў чытачоў, — сказаў прыкладна наступнае: «Калі вы будзеце чытаць мною напісанае й вам нешта не спадабаецца, то ведайце — мне ўсё роўна. Мяне гэта мала цікавіць, паколькі я пішу не для вас, а для сябе. Аднак калі мая лябараторыя цікавая й яшчэ некаму, мне, вядома ж, прыемна». Пасьля доўгіх развагаў «аб ролі» і да т. п. такое пяшчотнае стаўленьне да чытача многіх разьвесяліла.

Ён не казаў нечага новага. Але ўсім хацелася слухаць. Настолькі гэта артыстычна, раскаванаю несавецкаю моваю, рабіў былы пажарнік, баксэр, электрык. Сёньняшні першы аўтарытэт польскай беларушчыны. Ён казаў пра тое, што ў цяперашнім становішчы Беларусі нічога дзіўнага няма, таму што беларускі народ бедны. А ў беднага народу (беднага ў наўпраставым,

грашовым сэнсе) ня можа быць багатай культуры. Пра тое, што талент — гэта ўсяго толькі здольнасьць да працы. Безь якое нельга нават таленавіта сьпіцца. Пра тое, што надзеленасьць місіяй дае неверагодную здольнасьць выжываньня ў самых змрочных умовах. І шмат яшчэ вядомых ісьцінаў, якія іншым разам карысна паслухаць «выпадкам ад Сакрата». Лепш даходзяць. А некаторыя ягоныя пасажы агаломшвалі. Напрыклад, думка, што паэт павінен мець агнёвыя вочы й падабацца бабам, а графаманаў трэба расстрэльваць.

Слухаючы Яновіча, я сьмяяўся і пляскаў у ладкі разам з усімі. Але шмат пазьней прыйшла думка пра тое, што графаманства ў літаратуры лічыцца заганай, а ў жыцьці яно норма. Хоць чым нецікавае, банальнае, пазбаўленае яркіх учынкаў жыцьцё лепшае за такі самы неарыгінальны твор?

***

У сьнежні 1998-га зь Менску адлятаў рэйсавы самалёт на Захад. Амэрыканскія шпіёны вярталіся на радзіму, а беларускія буржуі сьпяшаліся на заморскія калядныя кірмашы. Але адно месца ў салёне засталося незанятым. Той, каму яно належала, наўрад ці ўпісаўся б у гэтую кампанію ўзбуджаных разнамоўных людзей.

Я пазнаёміўся зь ім у менскім доме на рагу Бабруйскай і Ўльянаўскай, дзе жыла сцэнарыстка Ірына Пісьменная, сяброўка майго

бацькі. Тут я часта спыняўся на начлег. І гэта быў першы жывы беларускі пісьменьнік у маім жыцьці.

Зімою 1991-га на кухні ў Пісьменнай сабралася невялікая кампанія: вядомы мне тэатральны рэжысэр, менш вядомы кампазытар і зусім невядомы дзядзечка з позіркам, зь якім звычайна просяць прабачэньня. Мяне перш-наперш зьдзівіў ягоны ўбор. Здавалася, ён даношваў гарнітур свайго юнацтва й чаравікі дзядулі. Ад бамжоўскага выгляду ратавала сьвежавымытасьць тканіны, хоць гузікі на пільчаку ўсё ж былі розныя. Гэта хто? — спытаўся я ў Ірыны. «Пісьменьнік», — адказала яна.

З аднаго боку, мне стала шчыра шкада беларускай літаратуры, прэзэнтаванай такім горкім чынам. Зь іншага боку, я разумеў, што мне пашанцавала. Я ўпершыню сустрэў творцу той літаратуры, якую тады толькі пачынаў асвойваць. Калі ён назваў сваё прозьвішча, я з прыкрасьцю адзначыў, што яно мне ні пра што ня кажа. Каб неяк выявіць павагу да чалавека беларускага слова, я наколькі мог пранікнёна спытаў: як Вы лічыце, ці загаворыць беларускі народ на сваёй роднай мове? Адказ быў імгненны: «Не, не загаворыць». Пасьля, трохі падумаўшы, ён дадаў: «Але ці варта праз гэта сумаваць?»

Наступным разам мы пабачыліся на прэм’еры ў менскай Опэры. Спэктакль распавядаў пра Вялікае Княства Літоўскае. Мой пісьменьнік

быў аўтарам лібрэта. Басавітыя мужыкі на сцэне ўдавалі князёў, партэр зьзяў тварамі апазыцыі. Як толькі з рыштаваньня апускалася аграмадная фанерная Пагоня, нашчадкі ВКЛ з партэру пачыналі скандаваць: «Жыве Беларусь!» Такое непасрэднае ўспрыняцьце мастацтва мяне проста зачаравала. У антракце я заўважыў пісьменьніка. На ім быў усё той жа патрапаны векам гарнітурчык. Мне здалося, што ён расчараваны пастаноўкаю, і я пасьпяшаўся рассыпацца ў кампліментах. Маўляў, музыка так сабе, але вось сюжэтная канва, дынаміка кампазыцыі, касьцюмы… Ён толькі сумна мне пасьміхнуўся…

Апошні раз я сустрэў яго неяк улетку. Я нават не адразу пазнаў свайго пісьменьніка. Ён быў у белых штанах, загарэлы і выглядаў зусім рэспэктабэльна. Толькі ягоная прабачлівая ўсьмешка нікуды не падзелася. Ну, у вас няйначай выйшла нешта новенькае, — сказаў я. «Сёе-тое выйшла».

Пра тое, што ў яго выйшла, я даведаўся ад агульных сяброў…

Вам ніколі не хацелася пажыць нарэшце так, як падабаецца? Калі заўгодна ўставаць, куды заўгодна зьехаць, спыніцца ў самым нечаканым гатэлі, замовіць у рэстарацыі самую неверагодную страву. І хоць у гэтым малым адчуць свабоду. Наведаць у Парыжы Люўр і абысьці бокам Манмартар. Бо «не пацягнула». Заснуць у вечным горадзе на лаве каля Калізэю,

каб упэўніцца, што зоркі над Рымам ня больш вечныя за небасхіл над Менскам. Вам ніколі не было страшна не пасьпець?

Менавіта страхам спазьніцца я тлумачыў хуткае рашэньне пісьменьніка прадаць сваю трохпакаёўку ды кінуцца ў сьвет белы — Рым, Парыж, Нью-Ёрк… А што яшчэ магло стаць паважнаю прычынаю для адпачынку ад папярэдняга жыцьця?

Памёр ён перад Калядамі, акурат калі зьбіраўся пераляцець Атлянтыку. Памёр ціха, як і жыў. Радні ў яго не засталося, нешматлікія чытачы наўрад ці заўважылі ягоны сыход. Чалавек пяць сяброў праводзілі яго ў апошні шлях.

Зусім нядаўна ў букіністычнай кнігарні я набыў кніжку Леаніда Пракопчыка «Дрэмле памятка дзён». Яна была ладна патрапаная. Як гарнітур яе аўтара. Пракопчык апісвае свае падарожжы па забытых адрасах беларушчыны, і я зь вялікай нацяжкай магу залічыць сябе ў ягоныя пераемнікі. Бо ён настолькі спрычынена распавядае пра тое, чым жыў Крэўскі замак, як руйнаваліся Гальшаны, хто будаваў Варшаўскі гасьцінец, што хочацца зараз жа паўтарыць ягоныя шляхі. Уяўляю, як гэтыя нарысы ўспрымаліся за савецкім часам, калі Вітаўт, Орда ці Манюшка афіцыйна былі яшчэ «ня нашымі» героямі.

Леанід Пракопчык быў рэканструктарам чужых шляхоў, ішоў праз помнікі, знаходзячы тое, чаго ня бачылі іншыя. Так аднойчы і мяне

шляхі Максіма Багдановіча прывялі на вуліцу майго ўласнага дзяцінства, у Ніжні Ноўгарад. Мне падабаецца ўсьведамляць, што я крыху родам і зь ягонага, Багдановічавага, дзяцінства.

***

Неяк расейская пісьменьніца Тацьцяна Талстая назвала незалежнасьць краін, што выйшлі з СССР, шляхам у ліліпуцію. Я нарэшце зразумеў, пра што яна. Якія беларусы дробныя людзі, асабліва востра адчуваеш у Расеі. Вы толькі прыслухайцеся, пра што гамоняць жыхары Менску ці Гомля. У чэргах, у цягніках, у кавярнях. Альбо залатыя зубы трэба памяняць на кераміку. Альбо дачцэ-студэнтцы знайсьці таньнейшую кватэру ў сталіцы. Альбо раздабыць гадавую візу стрыечнай пляменьніцы. Карацей, што ні праблема, то нейкая бздура. Маленькія праблемы маленькіх людзей маленькай краіны.

Іншая рэч — у Расеі. Дастаткова прыехаць на пару дзён да сваякоў у Ніжні, каб зьдзівіцца, наколькі маштабныя чалавечышчы насяляюць Расею. Пэнсіянэркі ваююць з Абамам, маладыя айцішнікі рухаюць франты на Блізкім Усходзе, алкашы ў піўной даюць п…лей хахлам. Расейскі чалавек ня можа ў сваіх вачах быць невялікім. Нават ад абасцанага бамжа, што прылёг адпачыць каля Канавінскага рынку, цягне веліччу. Уся ягоная іставая пастава, запракінутая барада мовяць мінакам — цішэй! Рускі чалавек сьпіць!

У 1993-м да мяне ў Беларусь зь Ніжняга прыехаў братан Вовачка. Каб разам са мной праехацца па нябачанай дагэтуль, мною таксама, краіне. Мы праз Мір, Нясьвіж, Слонім і Горадню цягнікамі ды аўтобусамі даехалі да Вільні. І ўсю дарогу не пераставалі зьдзіўляцца эўрапейскаму краявіду. Яшчэ не адрэстаўраваны Мірскі замак сваімі чорнымі расколінамі ў вежах быў здольны хваляваць. Яшчэ над Слонімам не лунаді вычварныя цыбуліны. На нясьвіскім рынку братан пачуў і, да ягонага зьдзіву, не зразумеў (!) беларускую мову. «Гуркі смачныя! Мо цэлы слоік возьмеце?» — спыталася ў нас цётка. А перад гмахам Горадзенскай фары мой зьнішчаны братан стаяў і прысьвістваў. «Них…ясе! Во гдеевропта!» Дахаты Вовачка зьехаў з гіпсавай Пагоняй, зь бел-чырвона-белым сьцяжком і касэтаю надта ўпадабанай ім «Крамы».

З тае пары я вельмі спакойна ставіўся да «пагрозы з Усходу». Бо ў мяне была свая лякмусавая паперка. У Ніжнім жыве братан, сьлесар дэпо «Горкі-Маскоўскі», які слухае «Краму», глядзіць на Пагоню і ведае, дзе «европта». І вось я разам зь сям'ёю адправіўся ў Ніжні.

Мы ня бачыліся дваццаць гадоў. Што я чакаў пачуць пры сустрэчы? Пытаньні пра дзяцей. Пра работу. Як там у нас? Але першае, што пачуў, — «А нету никакой Белоруссии! Выдумки всё!». Прычым сказана гэта было з «крайним восторгом». Як быццам братан доўга рыхтаваў

дарагі сюрпрыз. І вось праз дваццаць гадоў нарэшце ўручыў.

Я дастаў з кішэні пашпарт. Маўляў, на, глядзі, як павінен выглядаць пашпарт нармальнай краіны. Ня ўнутраны, не замежны, не падпольны. А звычайны беларускі пашпарт. Затым я дастаў з гаманца нашы новыя грошы. Ведаеш, колькі каштуе адзін ваш рубель? Тры нашы капейкі. Пасьля паўзы дадаў: у базарны дзень. Пасьля я гукнуў малодшую дачку. Ты хто? «Юця». А па нацыянальнасьці? «Беларуска». А што б ты адказала, калі нехта скажа, што няма ніякай Беларусі? «Не знаю… Дурак какой-та». Пашпарт можна спаліць. Грошы можна адабраць. А што рабіць зь Юцяй?

Калі шчыра, я быў агаломшаны братэрскай сустрэчай. Як удар пад дых атрымаў. Задушэўнай размовы не атрымалася. Сьлесарам, дарэчы, былы машыніст Вовачка працуе вымушана. У 1989-м яго страшэнна, да страсеньня мазгоў зьбілі ў Сормаве, куды ён праводзіў барышню. Зьбілі, вядома, не хахлы з амэрыканцамі. А мілыя рускія людзі. Веліка Расія, а каб знайсьці «смертушку», хадзіць «недалечко».

На наступны дзень я пайшоў на былую Канатную вуліцу, сёньняшнюю Караленкі, дзе калісьці жыла сям’я Адама Багдановіча.

Нямецкія захопнікі не дайшлі да Ніжняга. І таму драўляны цэнтар застаўся стаяць некранутым. Дакладней, кранае яго толькі час. Пасярод мэгаполісу, за два крокі ад станцыі

мэтро «Горкаўская», захаваўся аграмадны масіў былых купецкіх, некалі шыкоўных, асабнякоў. З мэзанінамі і бальконамі. Мяркуючы з надпісаў на сьценах дамоў, тут людзям не да Абамы. «Дайте нормальное жилье!» «Тут живут люди, а не крысы». Сьцены за прамінулы час «паплылі» па рацэ часу. Разам з аконнымі рамамі. Асабліва пікантна глядзіцца рэкляма студыі інтэр'ернага дызайну. На такім экстэр'еры.

Балькон дому, дзе некалі жыла сям'я Максіма Горкага, падпёрты зьнізу драўлянымі палямі. Я б не рызыкнуў выйсьці на такі гаўбец. Дом, дзе жыў Караленка, а пасьля яго Багдановічы, выглядае ледзь ня самым дагледжаным. Менавіта ў гэтым доме Максім пачаў вучыць беларускую мову. Менавіта сюды ён выпісваў «Нашу Ніву». І менавіта тут атрымаў нумар са сваімі вершамі, якія ўпершыню пабачыў надрукаванымі. Каля гэтага дому міжволі адчуваеш ягоную радасьць і хваляваньне.

Ад тых часоў прамінулі нейкія сто гадоў. Беларусь, як ні круці, за мяжой. І яна ёсьць. Але каля Максімавага дому ня стала спакайней. І не таму, што раён гарадзкія ўлады асудзілі на знос. Сын братана Вовачкі, якога я некалі гушкаў на руках, глядзіць на мяне нядобрым позіркам. Як на здрадніка. А што будзе рабіць унук і праўнук? Той, які бязьлітасна зруйнуе старыя дамы. Ці не захочацца яму на танку давесьці нам, што «нету никакой Белоруссии»?

Зрэшты, у той дзень, калі ў гэты дом прыйшоў паштальён, які прынёс «Нашу Ніву» з упершыню надрукаванымі вершамі Максіма Багдановіча, Беларусь выглядала для паэтавых сваякоў і сяброў-гімназістаў не краінай, ня нацыяй, не культурай. А ў лепшым разе хлапечым захапленьнем. Бздурай дзіцячай.

Я прыклаў руку да цёплай сьцяны старога дому. Сто гадоў не прайшлі дарэмна.

***

«Праз могілкі». Так называўся першы фільм Віктара Турава. Дыплёмная праца будучага рэжысэра ўвайшла ў сьпіс ста найлепшых стужак пра вайну ўсіх часоў і народаў, складзены UNESCO. Але сэнс назвы глыбейшы, чым «пра вайну». Падарожжа герояў пралягае ня толькі празь сьмерці іншых людзей, праз разбураныя паселішчы, згубленыя рэчы, але і праз страчаныя мары, ідэі, ілюзіі, колішні сьмех і давер…

З усіх забытых адрасоў на могілках мінулых эпох, якія я наведаў і пра якія распавядаю ў гэтай кнізе, мне найчасьцей успамінаецца круты бераг Дняпра ў вёсцы Азярышча, дзе расла Караткевічава груша і зь якой пачынаецца раман «Каласы пад сярпом тваім». «Груша цьвіла апошні год». На тым месцы цяпер ляжыць валун з мэталічнай шыльдаю. На шыльдзе выбіты першы абзац раману. Побач з валуном лавачка.

Зь берагу Караткевіча можна бясконца глядзець на раку. Асабліва на захадзе сонца. Дня-

про тут утварае велізарную лукавіну, ад чаго становіцца падобным да мора, а супрацьлеглы бераг здаецца востравам.

Ужо памёр стары бакеншчык Васіль Кірэйшын, які распавядаў мне, што Караткевіч любіў спыняцца ў яго на начлег. І былыя бакены на рацэ ўжо адышлі ў вечнасьць. Люстраную паверхню ракі ўжо не трывожыць ні баржа, ні пасажырскі параход. Дняпро вярнуўся ў спрадвечны спакой.

А ці мог эфэкт беларускага матылька не адбыцца? Вось узяў бы і не прыдумаў у Лёндане літару Ў Аляксандар Рыпінскі. Не напісаўся б «Тарас на Парнасе». Не адбылося б у Менскім тэатры прэм’еры «Сялянкі». Засталося б толькі ў пыльных архівах імя адваката Багушэвіча. А прозьвішча Багдановіч было б вядомае толькі расейскім знаўцам этнаграфіі пачатку XX стагодзьдзя. І абласны горад Расеі Менск… Не. Далей прыдумляць ня хочацца. Не магло быць інакш. Ні ў Караткевічавым Азярышчы, ні ў Лучынавай Мархачоўшчыне, ні ў Марцінкевічавай Люцынцы.

Маё сузіраньне Дняпра было парушана маладой парай. Хлопец і дзяўчына, гледзячы па ўсім, ведалі, куды і навошта яны прыехалі. Груша працягвае цьвісьці.

## Хто, дзе й калі стварыў беларускую ідылію

*Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Люцынка, 1840*

У 1840 годзе ў жыцьці Беларусі адбыліся дзьве знакавыя падзеі. Пра адну скажу крыху пазьней. А вось другая паклікала мяне ў дарогу. Менскі чыноўнік, калескі рэгістратар Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч набыў сабе фальварак Люцынку ў Пяршайскай воласьці Менскага павету. Каб скончыць сваю канцылярскую кар'еру і аддацца прыгожаму пісьменству.

Едучы ў Малую Люцінку, я не настройваў сябе на адкрыцьці. Усё ж мінула паўтара стагодзьдзя. Але, аказалася, не настройваў дарэмна.

Цуд пачаўся адразу ж на пагорку, дзе стаяў дом клясыка. Уявіце сабе каменныя прыступкі, што абрываюцца на падмурку, ад чаго ўзьнікае пачуцьцё таямнічасьці. Чым ня месца для скарбу? Вось што пісаў сам Дунін-Марцінкевіч:

«Калі я набыў маленькі фальварак Люцынку, пры аглядзе яго зацікавіла мяне перш за ўсё мясцовасьць, — дзеля гэтага стараўся я ад старых людзей, якія здаўна тут жывуць, дапытацца, ці ня мае яна гістарычных паданьняў, — і амаль у адзін голас мне расказвалі, што тут менавіта знаходзіўся калісьці, у старажытныя часы, езуіцкі кляштар з храмам Божым і што ў час нашэсьця швэдаў, за Карлам XII, кляштар гэты разам з касьцёлам ператвораны быў у груд друзу, а манахі былі замучаныя адзіна за тое, што не хацелі паказаць месца, дзе імі былі схаваныя касьцельныя скарбы, — і так тыя скарбы і дагэтуль яшчэ знаходзяцца недзе ў зямлі».

Пакуль я пранікаўся таямніцай, перад мною вырас міліцэйскі маёр з кабурой. І чалавечым голасам на чалавечай мове запытаўся: «Што гэта вы тут, малады чалавек, робіця?» Сапраўды, нейкая зачараваная мясьціна, — падумаў я, разглядаючы ласкавага беларускамоўнага міліцыянта. Той між тым крыкнуў убок: «Марцінкевіч, хадзі сюды!» Цяпер я ўжо нічому б не зьдзівіўся.

Марцінкевіч аказаўся насупленым мужчынам, гаспадаром суседняй хаты. На маё «арыгінальнае» пытаньне, ці ня родзіч ён Вінцэнту Іванавічу, адказаў няпэўна. Пераканаўшыся, што я ня злодзей, маёр зь сябрам пайшлі ў сваіх люцінскіх справах. А я колькі часу стаяў, гледзячы на маляўнічы пэйзаж, які мала зьмяніўся ад часу напісаньня гэтых радкоў:

Дом стаіць на пагорку — лес вокал, алешнік,
Сад за домам, а ў садзе — ігрушы, чарэшні.
З ганку ступіш і бачыш — лес воддаль, яліны…
Дзеліць лес напалам стужка сіняй Люцыны…
Невялічкая рэчка, ды рыбы ў ёй поўна,
А пры рэчцы — крыніца з вадою цудоўнай.
Зьлева, быццам дыван, луг стракаты квітнее,
А на лузе бярозка там-сям зелянее…

Лес, натуральна, адступіў, крынічка зарасла травою, перакрытая грэбляю Люцына стала возерам. Але не парушаная ідылія. Якім празорцам быў гэты чалавек, што прамяняў Менск на Люцынку! І застаўся тут назаўжды.

На падмурках старой сядзібы, каля вялізнага пня, што застаўся ад колішняй ліпы (ёсьць паданьне, што пад ёю была напісаная «Пінская шляхта»), такімі далёкімі й дробнымі выглядаюць нашы сёньняшнія праблемы. Усё пройдзепрамільгне, а тут па-ранейшаму будзе той самы ідылічны беларускі краявід. Агучаны крыкамі пеўня ды сьмехам хлопчыкаў, што ловяць рыбу ў Люцыне. Нават блакітны камуфляж маёра, што ідзе па дарозе са сваім сябрам, нікольні не псуе ідыліі. І як тут, скажыце, ня жыць вечнасьцю? І ня быць аптымістам?

У вёсцы я пазнаёміўся са старажылкай Малой Люцінкі Ядвігай Кужоўнік. Яна яшчэ памятае той стары фальварак, калі тут не было ніякай вёскі. Малая Люцінка зьявілася за саветамі, калі сялян з хутароў гвалтам перасялялі ў новастворaны калгас. Тады ж, са словаў

жанчыны, і нарадзіўся новы тапонім, а разам зь ім пачалася блытаніна ў назьве фальварку: Люцінка — Люцынка. Да вайны землі спадарыні Ядвігі межавалі зь землямі нашчадкаў пісьменьніка. А сама яна хадзіла вучыцца польскай грамаце да пісьменьнікавых унучак.

— Ну чаму ж я ня памятаю гэтага дому? Усіх дзяўчат помню. Былі гэта Асіповічышкі. Брат быў Казік. Асіповіч таксама. Ванда самая меншая. Дзеці Камілы Марцінкевіч, у шлюбе Асіповічыхі. Жылі яны, панкí, фальварак мелі. Іхная зямля з нашай сыходзілася. Надта нікога парабкаў у іх не было. Калі пастух, можа, быў. Мяне Вандачка вучыла. Гэта цяпер Дунін-Марцінкевіча ўспамінаюць. А ім нават дажыць не далі ў гэтым доме. Выгналі гэтых паненак з дому. Яны, бедныя гэтыя бабулькі, сабраліся і паехалі на Польшчу.

Я спытаў: што ж сталася з Марцінкевічавай двухсотгадовай ліпай, пад якой пісьменьнік любіў працаваць і якую Леанід Пракопчык назваў у сваёй кнізе галоўнай прыкметай Люцынкі? Каму яна замінала? Як высьветлілася, чарговы раз прыгажосьць пала ахвяраю сквапнасьці ды дурасьці.

— Яна моцна была таўстая, агромная такая. Але ўжо ўсярэдзіне было дупло. І завяліся пчолы. Ну і што ж? Рой там быў. Мёд быў. А быў сквапны старшыня. Узяў, у гэту дзірку кінуў з бэнзынай нейкі клак. Наліў, падпаліў. Пчолы выскачылі. Ён думаў, што ён мёд зьбярэ. А як

разгарэлася! І згарэла ўся датла. Насілі ваду, палівалі, але…

Паказаць тое, што засталося ад старой ліпы, ласкава пагадзіліся дочкі спадарыні Ядвігі — Ядвіга і Ганна. Ядвіга малодшая, хударлявая кабета бальзакаўскага веку, у капялюшыку. Настаўніца беларускай мовы ў суседніх Пяршаях. Мы сталі на пляцоўцы над сажалкай, непадалёк ад падмуркаў.

— Тут во станем. Цень ад ліпы падаў аж дагэтуль, — паказала Ядвіга. — Уяўляеце, якая была ліпа? А калі мы былі малыя, ушасьцярых абняць не маглі. Дзяцей было многа ў вёсцы. Гэта цяпер — адзін-два і амінь. У гэтай хаце было пяцёра, у той шасьцёра, у той пяцёра. Гара гудзела. Наагул гэта была такая дзіцячая пляцоўка. Калі якое вясельле, усе тут адзначаліся. Як першы раз дунінскае сьвята праводзілі, там падлогу зрабілі капітальную. На ёй надта ж добра, пакуль не згніла, вясельле было адзначаць.

— А яно было адзін раз, сьвята дунінскае?

— Першы раз — гэта ў 1986 годзе. Мальдзіс вельмі многа працаваў. Першы раз рабілі грандыёзна. Аж ліпу спалілі, што вы! А тады ўсё цішэй і цішэй.

На маё звычайнае пытаньне, што мусіць паўстаць у Люцынцы ў ідэале, сымпатычная кабета раптам ператварылася ў строгую цёцю-настаўніцу. І накінулася на мяне са сваімі пытаньнямі:

— Лухту нейкую вы гаворыце. Дзякуй Богу, што яго ўспомнілі! І хоць дзе-небудзь прагучала, што ён зорка беларускай літаратуры! У Беларусі экзамэну па літаратуры няма! Прач-ні-це-ся! Вы адкуль прыехалі? Га? Колькі засталося беларускамоўных клясаў у Менску? Га? Колькі гімназіяў у Менску? Га? Я «гаўназіі» гэта называю. Што вы ў мяне пытаецеся, калі ўрок беларускай мовы ў 11 клясе раз на тыдзень? Га? Урокаў фізкультуры — тры. У нас жа аб'яўлены год здароўя! Вось і аздараўляйцеся! Здаровыя дэбілы — гэта таксама цудоўна!

Яе сястра Ганна — таксама настаўніца беларускай мовы. Але не такая калючая:

— Пачытайце творы Дунін-Марцінкевіча. Люцынка — гэта яго радзіма. Так спадабаўся яму фальварак, што ён называў яго сваёй радзімай. «Больш за ўсё я радзімаму краю адданы». Ён гаварыў гэта не пра Панюшкавічы, дзе нарадзіўся. Надта добра яму было тут. Чаму, калі ён памёр, не завезьлі ў Панюшкавічы? У чужой зямельцы пахавалі. Значыць, не чужая яна для яго.

Дзіўна мне было пачуць ад Ганны, што жыхары вёскі да нядаўняга часу нават не здагадваліся пра тое, хто валодаў тым фальваркам. Нават мае суразмоўніцы, будучы школьніцамі, ня ведалі, што за пісьменьнік тут жыў.

Памяць пра Дунін-Марцінкевіча пачала вяртацца ў Малую Люцінку ўсяго трыццаць гадоў назад. Тады паўстаў помнік на падмурках ся-

дзібы. Было сьвята паэзіі. Мроіліся грандыёзныя пляны.

— Усе тры хаты, што за барэльефам, зьбіраліся вывозіць, даваць кватэры, а там будаваць дом. А ў парку за возерам гасьцініцу плянавалі, а ўнізе нейкі бар. І ўсё. Пачалі чакаць. А ў 1987 годзе ізноў прагучала, што сьвята будзе. Мы ўжо настаўніцамі былі і казалі дзецям, што Дунін нарадзіўся ў сёмым годзе. Пасьля навукоўцы адкапалі новыя дакумэнты. Аказалася, ужо ў восьмым! Было 23 студзеня, зараз ужо 4 лютага. Вось так памятаюць Марцінкевіча ў нас. Каровы, сьвіньні хадзілі па падмурках ягонага дому. Пойдзеш, пачысьціш, кветкі ўскладзеш. Аддзел культуры пытае: «Ганна Зыгмунтаўна, скажыце, як там?» Значыць, нехта едзе. Што, кветкі паставіць? Добра. Сваю вазу з гарышча сьцягваю, кветкі пастаўлю.

Ганну раздражнёна перарвала Ядвіга малодшая. Ёй надакучылі мае размовы пра высокае, і яна вярнула мяне на зямлю. Зь Люцынкі ў Люцінку.

— Ведаеш, як бабы газ праводзяць, га? Ці ведаеш, колькі муфтачкі каштуюць? Га? Трубачкі каштуюць? Га? Пра што мы гаворым? Які Дунін, к чорту! Праз колькі гадоў нас ня будзе! Колькі нам Бог адмераў? Такіх прыдуркаў, як мы, больш ня будзе! «Навучы роднай мове сына і ўнука»! — перадражніла яна. — Усё закончыцца…

Але вернемся ў 1840 год, той, калі не было ніякіх школ, калі не было нават беларускай літаратуры ў яе сучасным разуменьні, калі найвышэйшым указам была забароненая для афіцыйнага ўжытку сама назва краю — Беларусь. А цяпер параўнайце дзьве гэтыя падзеі. Указ імпэратара і пераезд з гораду ў вёску калескага рэгістратара. Мікалай I і Дунін-Марцінкевіч. Іх даўно няма на сьвеце. Але іх барацьба працягваецца.

Колькі, дарэчы, ні гляджу на фотапартрэт люцынскага драматурга, заўжды лаўлю сябе на думцы, што гэтага чалавека лёгка ўявіць у сёньняшнім часе — замяні жупан паўстанца на звычайны швэдар ці які пінжак. Дунін-Марцінкевіч — рыхтык вось гэты пяршайскі гаспадар, які корпаецца ў сваім гародзе і каля якога я спыніўся на зваротным шляху. Але містыка толькі пачыналася.

Мікола Ганчарык, як адрэкамэндаваўся мне двайнік, — былы настаўнік. Сёньня ён на пэнсіі і займаецца творчасьцю. Стварыў у Пяршаях тэатар, дзе ставіць Марцінкевічавы ды свае ўласныя п’есы, з посьпехам гастралюе па навакольлі.

Увайшоўшы ў хату, я аслупянеў. За сьціплым мурам непрыкметнага дому хаваліся шляхоцкія пакоі. Старадаўні раяль, камінны бронзавы гадзіньнік, мармуровае бюро, дубовыя разьбяныя шафы, поўныя фаліянтаў, і безьліч карцін. «Зьбіраю сёе-тое цікавае», — адказаў гаспадар

на мой нямы запыт. І з жалем паведаў пра сваю страту.

У адной вёсцы разьбіралі калгаснае гумно. І ў тым гумне знайшлася старая тэчка з дакумэнтамі. Судовыя справы мясцовай шляхты аб пацьверджаньні свайго дваранства.

— Суседзі судзіліся. Марцінкевіч назваў сваю камэдыю «Пінская шляхта», а насамрэч гаворка была пра менскую. Усё ягоныя суседзі ў тых дакумэнтах. Цымэрманы, Сапоцькі, Крэйчманы… Усё судзіліся паміж сабой. Вельмі цікавы матэрыял. І дзе ён дзеўся? Гэта была б сэнсацыя ў літаратуры…

Калі зь Люцынкі паехаць у бок Ракава, дык за вёскаю Падневічы можна заўважыць каля самай дарогі парослы лесам пагорак. Праз зеляніну дрэваў прагляне каплічка. Падымецеся да яе. Побач зь ёю вы знойдзеце магілу Вінцэнта Дунін-Марцінкевіча. Я шмат бачыў магіл, але такой не прыгадаю. Ніводнага чалавека навокал, толькі дарога, што хаваецца ў лесе, ды неба над каплічнымі крыжамі. Зірнеце на краявід, што адкрываецца з пагорку. Калі вы чалавек не абыякавы да гэтай зямлі, вас ня будзе болей мучыць пытаньне — у чым жа сэнс жыцьця й сьмерці. Далібог, не ў схаваных стагодзьдзе таму і скрадзеных учора доказах вашага «дваранства».

*2000, чэрвень, 2008, люты*

P. S. Пісьменьнік Віктар Марціновіч у адным інтэрвію сказаў, што галоўная карысьць ад чытаньня кніг у тым, што ў цябе становіцца шмат сяброў, частка зь якіх сышла з жыцьця. Прычым шмат гадоў таму.

У праўдзівасьці ягоных словаў я перакана́ўся ў 1995-м. Патэлефанаваў мой маскоўскі таварыш, тэатральны рэжысэр. «Слухай, — кажа, — а што гэта ў вас за драматург такі зь дзіўным прозьвішчам Дунін?». А што такое? Адкуль ты яго ведаеш? — зьдзівіўся я. «Дык ваш Купалаўскі тэатар гастраляваў нядаўна на сцэне нашага Малага, і „Ідылія“ гэтага Дуніна проста фурор зрабіла. Самы сапраўдны фурор! Размоваў было на тыдзень. І пра Дуніна гэтага, і пра рэжысуру Пінігіна. Мяне клікалі, але ня змог. Дык цяпер шкадую». Ня ведаю, кажу, ці пабачу Пінігіна, але Дуніну тваё захапленьне перадам абавязкова.

Тады я яшчэ ня ведаў, што прыдомак «Дунін» — арыстакратычны, і зусім не ад Дуні, а ад Даніі. Але ў астатнім ня схлусіў.

# Клініка кітайскага дантыста

*Аляксандар Рыпінскі, Лёндан, 1853*

Едучы ў лёнданскім мэтро сярод рознакаляровага натоўпу і разнамоўных гутарак, я трымаў у руцэ невялікую брашуру Аляксандра Рыпінскага «Нячысьцік», на вокладцы якой стаялі год і месца выданьня: 1853, Тотэнгэм.

Пачуцьцё, зь якім у вагоне андэрграўнду чытаецца беларуская кніжка, выдадзеная паўтара стагодзьдзя таму ў сталіцы сьвету, даволі дзіўнае. Нескладаныя вершыкі пра п’яніцу Мікіту менавіта тут, дзе яны былі напісаныя і надрукаваныя, выклікаюць адчуваньне непарушнай пэўнасьці, абсалютнай трываласьці таго, што называецца беларускім прыгожым пісьменствам. Цягнік вязе мяне і майго сябра, тэоляга і сьвятара Ігара Лабацэвіча, у той самы Тотэнгэм, дзе, як сказаў нам знаўца лёнданскай беларушчыны Гай Пікарда, захаваўся будынак друкарні Рыпінскага. Нават даў жалезную падказку: «Там цяпер клініка кітайскага дантыста».

Танюсенькая брашурка памерам з далонь. Цікава, як яна глядзелася ў 1853-м? На фоне пазалочаных фаліянтаў лёнданскіх бібліятэк? Сьціпла? Убога? Бедна? Спрабую выклікаць у сабе жаласьць да гэтага «Нячысьціка». Як да беларускай сялянкі-жабрачкі на пляцы Пікадылі. А не атрымліваецца. Бо не бывае беларускіх

жабрачак у Лёндане. «Нячысьцік» глядзіцца годна. Як небагаты шляхціч, што не сваёй воляй апынуўся на чужыне. У славянскага джэнтэльмэна праблемы з грашыма. Але якая прага да жыцьця! Ці мог уявіць сам аўтар, трымаючы ў руках сваю кніжку, што з гэтага ўсяго атрымаецца? Наўрад ці. Мяркуючы зь ягонай біяграфіі, яму было не да гэткіх далёкіх мараў.

— Няўжо ты думаеш, што на тым доме так і будзе напісана «Кітайскі дантыст»? — усьміхнуўся Ігар.

Мы выйшлі з мэтро Seven Sisters і, прайшоўшы літаральна мэтраў сто па High Road на поўнач, пабачылі на левым баку вуліцы шпіталь з чырвонай цэглы, пабудаваны ў Віктарыянскую эпоху.

Галоўнае, да чаго я адчуваў сябе зусім не падрыхтаваным, — гэта амаль поўная адсутнасьць белых твараў навокал. А чарнаскурыя мінакі на пытаньне пра кітайскага дантыста толькі расьсеяна ўсьміхаліся ў адказ.

Вырашылі пытацца ў нешматлікіх белых. Спачатку дзяўчына гадоў дваццаці не магла зразумець Ігараву ангельскую. Яе роднай мовай была польская. Пасьля мы натрапілі на апівоху, які, седзячы проста на броўцы, жлукціў партвайн. Я глядзеў на яго зачаравана. Як на прапраўнука капітана Джона Сыльвэра. Вось ён! Сапраўдны стары лёнданец. Апошні з магікан, які не пакінуў вуліцу сваіх продкаў пад напорам глябалізацыі. Я гатовы быў зараз

жа зьбегаць у бліжэйшы гастраном, набыць такую самую пляшку і далучыцца да лёнданца, падсеўшы да яго на броўку. Але і тут нас чакаў сюрпрыз. Нецьвярозы прадстаўнік «старога добрага Лёндану» доўга на нас таропіўся, пакуль Ігар нэрвова ня выгукнуў: «Можэ пан муві по-польску?». І атрымаў радаснае: «Очывісьце, пане!».

Мы паглядзелі на супрацьлеглы бок вуліцы і ўбачылі на белым двухпавярховіку з высокім ганкам шыльду: «Dental Practice».

Вось што пісаў пра Рыпінскага дасьледнік Аўген Калубовіч у артыкуле «Нашы папярэднікі» (1974):

«Пераехаўшы ў Лёндан, ён дзесь каля 1852 году разам зь сябрам з Наваградчыны Ігнатам Яцкоўскім (які ў кнізе сваіх успамінаў захаваў для гісторыі беларускай літаратуры весткі пра паэта Паўлюка Багрыма й апублікаваў адзіны ведамы нам дагэтуль ягоны верш „Зайграй, зайграй, хлопча малы…“) залажыў ва ўласным доме на Grove Place, 5 (дом гэты стаіць яшчэ й цяпер) невялікую ўласную друкарню. У ёй у 1853 годзе асобнымі кніжачкамі трыма выданьнямі ён выдаў напісаную ім у Лёндане баляду „Нячысьцік“. У музэі на Bruce Castle захоўваюцца дзьве гравюры зь ягоных малюнкаў Eagle House School, падпісаных ім і датаваных 1854 годам».

Адрасу Grove Place, 5 даўно няма ў прыродзе. Старыя дамы аднесеныя цяпер да High Road.

І наш дом пазначаны нумарам 256. Гэта і высьветліў у свой час Гай Пікарда.

Менавіта тут эмігрант зь Віцебшчыны, былы паручнік паўстанцкага аддзелу, лёнданскі прадпрымальнік, гаспадар фатастудыі Рыпінскі выдаваў беларускія кнігі. Гэта і сёньня гучыць фантастычна. А тады? Што такое свая фатастудыя? Колькі каштуе друк? І няўжо камусьці патрэбныя гэтыя беларускія кніжкі? Лёнданскі дасьледнік беларускай спадчыны Мікола Пачкаеў лічыць заслугай Рыпінскага тое, што ў той час ён увогуле друкаваў штосьці па-беларуску. Бо гэтая дзейнасьць ня толькі не прыносіла яму прыбытку і славы, але разглядалася як дзівацтва нават у ягоным уласным сацыяльным коле. Але галоўная заслуга Рыпінскага, на думку Пачкаева, у тым, што той замацаваў фанэтычны прынцып беларускага правапісу. Між іншым, увёў нескладовае Ŭ.

У 1859 годзе, як толькі ў Расейскай імпэрыі абʼявілі амністыю ўдзельнікам паўстаньня 1831 году, Рыпінскі вяртаецца на радзіму, дзе пад паліцэйскім наглядам піша гісторыю беларускай літаратуры. Апошнія гады ён жыў у родзічаў, у маёнтку Страганы, у ваколіцах якіх працягваў зьбіраць паданьні і казкі.

У 1982 годзе Генадзь Каханоўскі шукаў сьляды Рыпінскага ў навакольлі Страганоў. Тады яшчэ жылі людзі, што памяталі Ксавэрыю Аляксандраўну Рыпінскую, якая ў 1930-я працавала рахункаводам у калгасе. Пасьля яе

сьмерці архіў Рыпінскага быў зьнішчаны. Не захаваўся і рукапіс «Гісторыі беларускай літаратуры». Дата сьмерці нашага героя невядомая. Як і месца пахаваньня. Кажуць, ён пасьпеў яшчэ пабачыць пачатак XX стагодзьдзя.

У вёсцы Страганы, дзе апошнія гады жыў Рыпінскі і дзе памёр, ужо няма жыхароў. Знаходзіцца яна на самай беларуска-расейскай мяжы, у Лёзьненскім раёне. Мясцовыя краязнаўцы адмыслова правялі там аднойчы раённае Купальле. Толькі з адной мэтай. Выбіць зь бюджэту сродкі і паставіць камень у гонар Рыпінскага каля падмуркаў сядзібы. Хаты і калгасныя кароўнікі разваляцца. Падмуркі зарастуць. Але камень Рыпінскага не спарахнее.

Мы зь Ігарам прайшлі яшчэ крыху на поўнач і апынуліся перад мэмарыялам памяці палеглых у дзьвюх усясьветных войнах. Адразу за помнікам вуліцы High Road і Town Hall Approach Road разьбягаюцца, утвараючы ростань. Калі ў гэтым месцы стаць тварам да мэмарыялу, дык зьлева будзе сучасны будынак каледжу. На ягоным месцы і знаходзілася Eagle House School, дзе беларускі эмігрант Рыпінскі выкладаў францускую мову і маляваньне.

Пасьля, праз сквэр, мы выйшлі да старога гатычнага касьцёлу Сьвятой Тройцы. Амаль насупраць храму, на рагу High Road і Philip Line мы пабачылі стары паб з шыльдаю «Swan». Колішнія бальшакі ператварыліся ў шумныя вуліцы, Тотэнгэм ужо даўно ніякая ня вёска, а

недалёкі ад цэнтру раён. А памаляваны цёмназялёнай фарбай паб так і выглядае старадаўняй карчмой на раздарожжы.

Калісьці Адам Мальдзіс распавёў мне, як у 1982 годзе наведваў гэтую ўстанову разам з Гаем Пікардам. Тады Мальдзіс прапанаваў гаспадару пабу павесіць шыльду ў гонар беларускага паэта Рыпінскага. Энтузіязму гэтая бліскучая ідэя ў карчмара ня выклікала. Але беларускі навуковец выклаў самы пераканаўчы аргумэнт: «Калі б была шыльда, дык кожны беларус пакінуў бы ў гэтым пабе не адзін фунт». «А колькі ж тых беларусаў?» — зацікавіўся карчмар. «Дзесяць мільёнаў», — з гонарам адказаў Мальдзіс.

Мы адчынілі цяжкія дзьверы і зайшлі ўсярэдзіну. Колькі хвілінаў мы былі тут зусім адны. Ні наведнікаў, ні абслугі. Пры пэўнай долі фантазіі можна было ўявіць сябе ў тых далёкіх часах, калі тут зьбіралася літоўская шляхта. Нават сучасная музыка з дынамікаў не перашкаджала мне адчуць сябе закінутым у XIX стагодзьдзе. Пацёртая мэбля, абшарпаныя сьцены і карціны зь відамі старога Тотэнгэму. Неўзабаве за барнай стойкай зьявіўся мажны мурын у акулярах. Сёньняшні гаспадар карчмы. Наліўшы нам піва, карчмар з гонарам паведаміў, што ягоная ўстанова вядомая з 1763 году як самае папулярнае сярод рыбакоў месца для выпіўкі па дарозе на раку Лі.

— Гэта ўжо не ангельскі паб, — з сумам сказаў мой непаліткарэктны сябар, глынуўшы піва

і закурыўшы. — Шляхта тут больш не балюе. Сюды прыходзяць афрыканскія працоўныя, каб прапіць у пятніцу свае апошнія грошы. Можа, часам бойкі ўчыняюць. Гнятлівае ўражаньне. Але ж калісьці тут зьбіраліся з падціснутай верхняй губай ангельцы. Выпівалі па куфлю піва. Гутарылі пра палітыку, пра Крымскую вайну. Але гэтага, на вялікі жаль, ужо няма. Памятаеш «Пятнаццацігадовага капітана» Жуля Вэрна? «Гэтая краіна не Амэрыка, гэта Афрыка!»

У мяне ж не было ніякага гнятлівага ўражаньня. Чарнаскурая кампанія, што зьявілася за суседнім сталом, ніякай цікавасьці да нас не выяўляла. Я піў цудоўнае піва, пускаў дым ў старую столь і разглядаў малюнкі на сьценах. Я слухаў Ігара і радаваўся, што гэты аскепак старога лёнданскага прадмесьця ўвогуле захаваўся. Раптам я павярнуўся, зірнуў у вакно і аслупянеў. З вакна на мяне глядзелі шэрыя гатычныя сьцены старога касьцёлу і старыя дрэвы сквэру. Ня ведаю, як выглядаў у сярэдзіне пазамінулага стагодзьдзя дом дантыста, які быў інтэр'ер гэтага пабу. Але выгляд з вакна мог быць толькі такім! Я бачыў той самы від, што і Рыпінскі 150 гадоў таму. 1853 год быў перад маімі вачыма. Як і старая кніжка, што ляжала побач з куфлем.

*2003, сакавік*

P. S. Блукаючы днямі па Лёндане з дапамогаю Google Maps, я зазірнуў у знаёмы квартал. Якое ж было маё расчараваньне, калі я не знайшоў старога пабу. Сам будынак застаўся. Але цяпер там кебабня «Alamut». Паб «Swan», які існаваў ад 1763 году, не пераўжыў апошняга дзесяцігодзьдзя. Што будзе зь ім далей? Якая мова будзе гучаць у той кебабні? Ці застанецца нязьменным выгляд зь яе вакна? Ня ведаю. А вось літара Ў застанецца. І ня толькі яна адна.

# Народжаны паэтам «з матэрыялу дзядоў»

*Гіём Апалінэр, Дарожкавічы, 1863*

Пра тое, што продкі французскага паэта Гіёма Апалінэра паходзяць зь Беларусі, я даведаўся ад Уладзімера Караткевіча, зь ягонай «Зямлі пад белымі крыламі»: «Вальтэр як Вальтэр, Мальер як Мальер, тут я нічога не скажу, а вось вялікі французскі паэт Гіём Апалінэр быў... беларусам па крыві».

Крыніцай для Караткевіча магла служыць кніжка Апалінэра па-беларуску ў перакладах Эдзі Агняцьвет, якая выйшла ў 1973 годзе. У прадмове перакладніца пісала: «Цікавая радаслоўная паэта. Яго продкі — Кастравіцкія па лініі маці — паходзілі зь Беларусі. Жылі яны ў маёнтку Дарашковічы пад Навагрудкам і сябравалі зь сям'ёй вялікага польскага паэта Адама Міцкевіча. Прабабцы Апалінэра — Людвісі Кастравіцкай — Міцкевіч прысьвяціў верш «Матрос», дзе ёсьць радкі: «Загінуць ня можа краіна, дзе жонкі і дзевы такія!».

Яшчэ раней, у 1969-м, артыкул Эдзі Агняцьвет пра беларускія карані французскага авангардыста зьявіўся ў зборніку «Дзень паэзіі». І ў тым самым годзе пра парадненьне з Апалінэрам афіцыйна заявіла салідная Беларуская савецкая

энцыкляпэдыя, якая ў першым жа сваім томе ў артыкуле «Апалінэр» паведамляла, што сапраўднае імя паэта — Гіём Альбэр Апалінары Кастравіцкі і што «Кастравіцкія паходзілі зь Беларусі. Іх маёнтак Дарашковічы (пад Навагрудкам) канфіскаваны пасьля паўстаньня 1863 году. Дзед Апалінэра эміграваў у Італію, дзе прайшло дзяцінства і юнацтва паэта». Гэтыя ж зьвесткі мы можам пабачыць і ў першым томе Беларускай энцыкляпэдыі, які выйшаў у 1996 годзе.

Але ніякіх Дарашковічаў пад Навагрудкам няма. Стары польскі «Слоўнік геаграфічны», які апісвае ўсе паселішчы Беларусі ў XIX стагодзьдзі, падае іншы адрас: Дарожкавічы пад Дзісной.

Туды мы і паехалі разам з полацкім паэтам Алесем Аркушам. Што праўда, вялікіх спадзяваньняў на падарожжа не ўскладалі. Ну сапраўды, што магло застацца ад шляхоцкай сядзібы на колішняй савецка-польскай мяжы пасьля віхураў XX стагодзьдзя?

Але адкрыцьці пачаліся ўжо на ўезьдзе ў Дзісну. Першы ж сустрэты намі дзісенец ахвотна распавёў пра родны горад, Магдэбурскае права, Стэфана Баторага і Вялікае Княства. На маё пытаньне, ці ўсе тут у Дзісьне такія краязнаўцы, мужчына паглядзеў на мяне зьдзіўлена. Маўляў, як можна ня ведаць месца, дзе жывеш. Мы з Алесем пераглянуліся. Але пра Гіёма Апалінэра наш дзісенец нічога ня чуў.

Ёсьць такія гарады, у гісторыі якіх нібы ў кроплі вады адбілася ўся гісторыя вялікай краіны. Дзісна — гэта той рэдкі выпадак, дзе стагодзьдзі пакінулі па сабе шматлікія матэрыяльныя сьведчаньні. Некалі вялікі павятовы горад той літоўскай Дзісеншчыны, дзе Глыбокае і Мёры былі адно мястэчкамі, — сёньня нават не райцэнтар. Абыйдзеная чыгункамі і вялікімі аўтатрасамі, Дзісна схавалася да лепшых часоў. Нават помнік Леніну, гэты абавязковы атрыбут ледзь ня кожнага калгасу, тут зьнесьлі самі ўлады. Затое на замкавай высьпе можна ўбачыць і памацаць валы фартэцыі Сьцяпана Батуры. У зьнявечаных мурах францішканскага касьцёлу захрасьлі савецкія снарады, выпушчаныя па цэлі ў верасьні 1939-га. А ва Ўваскрасенскай царкве, пабудаванай у часы Мураўёва-вешальніка, знаходзіцца ўнікальны абраз Смаленскай Божай маці. Непадалёк школа, дзе вучыўся Язэп Драздовіч. Праз дарогу былы купецкі клюб, дзе гастралявала трупа Ігната Буйніцкага. А яшчэ музэй з унікальнай дзісенскай керамікай. І старой забудовы захавалася тут пасьля ўсіх войнаў болей, чым у сталіцы. Якую будучыню прыхавала гэтаму гораду заўтрашняя гісторыя? Калі ўлічыць яшчэ адно імя — Гіём Апалінэр…

Вёска Дарожкавічы пачынаецца адразу за горадам. За старымі каталіцкімі могілкамі. Калі, не даяжджаючы да вёскі, кінуць погляд управа, у бок Дзьвіны, дык першае, што бачыцца, —

маляўнічыя барвовыя руіны былой павятовай лякарні. Гэтыя муры — ілюстрацыя таго, які тут быў горад. А калі пайсьці ўздоўж дарогі, што заглыбляецца ў лес, у якім яшчэ можна пазнаць рысы колішняга парку, дык неўзабаве з-за дрэваў адкрыецца… Не, не рамантычная руіна. А трохпавярховы палацык. Атынкаваны, але яшчэ не пафарбаваны. Бачна, што будаўніцтва ці рэстаўрацыя вядзецца нясьпешна і грунтоўна. Шэры колер сьвежага тынку кантрастуе з навакольным запусьценьнем.

Патаптаўшыся каля дому, мы вярнуліся ў Дзісну. Шукаючы сьлядоў паэта французскага, мы натрапілі на мясцовага вершаскладальніка, вельмі абаяльнага і гаманкога вэтэрана НКВД і МГБ Генадзя Дзямешку, які адразу асыпаў гасьцей паэзіяй, прачытаў сьвежую, толькі з-пад пяра, оду роднаму краю.

Мяне сьвятыя клічуць зь неба:
«Пакінь Дзісну, жыві ў раю!»
А я ў адказ: «Мне рай ня трэба.
Люблю, як сын, Дзісну маю!»

Пачынаў сваю міліцэйскую кар’еру гэты вясёлы дзядок у паваенных лясах, дзе лавіў былых паліцаяў, акаўцаў ды іншых ворагаў савецкай улады.

— На маім участку адзін былы паліцай хаваўся 23 гады. І мне прыйшлося яго выцягнуць з падвалу. Ён зрабіў сабе схovішча зь печы. І ў гэтым сховішчы ён 23 гады адбыў. Адседзеў

тэрмін, які ў два разы болей, чым яму суд вызначыў бы. Больш за 10 гадоў не давалі, а ён 23 адседзеў. Усякіх было цудаў…

Пра свае подзьвігі дзядуля расказвае з такім бляскам у вачах, што міжволі радуесься за свой год нараджэньня. Дзякуй Богу, ня выпадзе спаткацца з гэтым паэтам на ягонай эмгэбэшнай сьцяжыне.

Дзісна над берагам віруе.
Сады аздобіла вясна.
Нічога ў неба не прашу я.
Зямны ёсьць рай — мая Дзісна!

Пясьняр Дзісны падказаў нам, дзе знайсьці найстарэйшую жыхарку Дарожкавічаў, Зінаіду Казлоўскую. Нягледзячы на позьні час, кабета адразу запрасіла ў хату. Зінаідзе за 80, яна выдатна памятае пару, калі сядзіба яшчэ жыла і дыхала. За часамі панскае Польшчы. Перад вайной тут гаспадарыў расейскі памешчык Капылоў.

— Тут і памятнік быў Кастравіцкага. У садзе, у Капыловых. Памятнік стаяў такі жалезны, вузенькі. А цяпер няма. Як прыйшлі рускія, тады ўсё ўністожылася. Дом быў багаты, мэблі былі. Раяля была, і барыня сядзіць! Мы ідзем каля гэтага пакою, а яна сядзіць. Глядзім праз вакно, як яна на раялі грае. Барыня. Прыгожы быў дом. Галава бычыная, як уваходзіш у пакой. Адразу на сьценцы вялікая бычыная галава. Прыгожа было ў доме. Карціны былі.

Мы вярнуліся да сядзібы у той час, калі велізарнае чырвонае сонца сядала за далягляд. Жывая карціна зачароўвала кожным імгненьнем. Лясісты супрацьлеглы бераг нябачнай адсюль, з высокага берагу, Дзьвіны ўжо акунаўся ў змрок, а далёкі далягляд палымнеў чырвонымі промнямі. Невыпадкова Кастравіцкія пабудавалі свой дом фасаднымі вокнамі на захад. Назіраць, як сядае за Дзьвіною сонца, — сапраўдная раскоша. Алесь зьвярнуў увагу на дрэвы перад домам:

— Гэта ўсё, што засталося ад парку. Бачна, што ёсьць такія дрэвы, незвычайныя для нашага лесу, для нашых савецкіх паркаў. Прыгожае месца. Прычым рака тут ня проста ідзе. Яна разгаліноўваецца. Тут нейкія паўвыспы ёсьць. Ляндшафт унікальны. Я думаю, што тут і мог нарадзіцца паэт. Гадуючыся ў гэтай прыгажосьці.

— Ён тут не нарадзіўся.

— У сэнсе — усё роўна чалавек, які нараджаецца, ён нараджаецца з матэрыялу бацькоў і дзядоў. Гэта перадаецца, нікуды не зьнікае. Таму ў дзядах і прадзедах адбываецца нараджэньне некага. Ідзе, ідзе, пакуль не настае нейкі спрыяльны момант, тады адбудзецца такі цуд — нараджэньне паэта.

— Шкада, што аматары паэзіі ў Францыі ня ведаюць, дзе тое месца, каб прыйсьці і…

— І паглядзець, з чаго пачынаўся Апалінэр. Таму што ён пачынаўся менавіта з бацькоў і

прадзедаў. Пачынаўся з той геннай памяці, якая ў яго была. А я думаю, што ў геннай памяці захаваўся і гэты ляндшафт, і гэтая Дзьвіна, і гэтыя мясьціны. І гэтыя людзі. Ты заўваж, як прыгожа нас сустрэлі. Мы проста прыехалі, як зваліліся зь неба сюды. І людзі тут ходзяць вакол нас. І паказваюць, і расказваюць, і возяць нас па гэтым мястэчку. Я наагул зьдзівіўся такой гасьціннасьці зусім незнаёмых людзей.

— Давай кінем апошні позірк на шляхоцкія руіны. Усё, што павінна памерці, абавязкова памрэ…

— Я не ўспрымаю гэтыя руіны як могілкі. Таму што кожнаму часу адпавядае сваё. Эгіпецкія піраміды адпавядаюць свайму часу, Калоская царква свайму, а Сафійскі сабор — свайму. Гэта хутчэй мне нагадвае археалягічныя знаходкі. Нейкі артэфакт. Як капаюць археолягі і знайшлі там кавалак збана ці нейкую сякеру.

— Руіны працягваюць жыць?

— Яны ня столькі працягваюць. Яны засталіся і існуюць. Яны — як фатаздымак у альбоме. Яны зачапіліся за гэтую зямлю. І калі хтосьці сюды прыяжджае, нейкі турыст, яго сюды павязуць. Пра міт гэтай сядзібы можна напісаць цэлую кнігу. Каб турыст прыехаў сюды, аматар паэзіі. Не абавязкова гэта можа быць паломнік францускі. Можа быць і менскі студэнт, які любіць францускую паэзію, Апалінэра. Прыехаць сюды і дакрануцца да сапраўднага. І зразумець, што беларуская

зямля выгадавала таксама і такога паэта. Самае каштоўнае ў гэтым разуменьні — што мы ўвязаныя ў сусьветнае жыцьцё. Мы ўвязаныя ў эўрапейскі культурны міт. І адна з гэтых нітачак — Гіём Апалінэр. І гэтых нітачак вельмі шмат. На жаль, мы яшчэ ня маем пра гэта поўнага ўяўленьня. Гэта праца і нашых літаратараў, і нашых гісторыкаў. І я думаю, што гэта якраз праца XXI стагодзьдзя.

На фоне старога парку паказаўся калгасны трактар, вельмі арганічны ў гэтым краявідзе. Магчыма, і таму яшчэ, што, як высьветлілася, быў ён не калгасным. За рулём сядзеў праваслаўны бацюшка. На тле пакінутага маёнтку поп на трактары выглядаў больш нечакана за прывід колішніх гаспадароў. Айцец Генадзь прыехаў на сваю будоўлю, занепакоены візытам чужынцаў. Цяпер сядзіба Кастравіцкіх належыць яму, Генадзю Каранеўскаму. Трэба адзначыць, густ у сьвятара някепскі. Мы напрасіліся да айца ў госьці.

— Як Вам прыйшла ў галаву ідэя ўзяць гэтыя…

— …разваліны? Нічога не было ўвогуле. Дзесяць гадоў аднаўляю. Аднаўляю на тым фундамэнце, што быў. Такія ж сьцены раблю. З той самай цэглы. Спадзяюся, што гэта будзе сядзіба роду Каранеўскіх. Некаторыя сьмяяліся зь мяне. Вось, узяў развaліну, звалку такую. А цяпер ходзяць — дзівяцца.

Ня ведаю чаму, але мне было крыху сумна ад таго, што ў старой сядзібы ўжо ёсьць гаспадар. Гаспадар дзейны, энэргічны. Які ня дасьць ужо заняпасьці сьценам. Ясна, што сядзіба Кастравіцкіх скончылася яшчэ ў 1863-м. Але ўсё роўна было крыху сумна. Як быццам у гісторыі, якой яшчэ працягвацца, разгортвацца і інтрыгаваць, паставілі кропку.

*2005, кастрычнік*

# Хто, дзе й калі закапаў панскае золата

*Ядвігін Ш., Карпілаўка, 1920*

Як ні намагалася ўлада бальшавікоў учыніць вайну палацам ды зьнішчыць дазваньня шляхоцкія сядзібы, а яны ўсё роўна працягваюць жыць. І хоць ад будынкаў не засталося і знаку, але палацы існуюць у краявідах. То па-над калгаснымі хатамі раскіне старыя галіны магутны дуб, пасаджаны ледзь не за Ягайлам. То перад сельсаветам намалюецца акуратная сажалка, зладжаная яўна не камбедаўцамі. То мільгануць сярод поля былыя прысады. Такімі прысадамі з высокіх лістоўніц зьвяртае на сябе ўвагу вёска Малыя Бясяды. Гэта старая дарога зь Менску на Радашкавічы.

Але давайце падымемся на пагорак, дзе стаяць разбураныя бунгала колішняй базы адпачынку трактарнага заводу. Сёньня тут, акрамя тых лістоўніц, нічога не нагадвае пра панскі двор. Але, магчыма, якраз тут нікому не вядомы чалавек Ясь Луцэвіч пачаў ператварацца ў паэта Янку Купалу. Тут стаяла сядзіба паўстанца 1863 году Зыгмунта Чаховіча, чыю бібліятэку наведваў будучы беларускі клясык, які праз гады напіша: «Вось тут мне і адкрыўся, што называецца, скарб!..» За тры кілямэтры на поўдзень па Даўгінаўскім тракце ў Лагойскім раёне знаходзіцца вёска Карпілаўка, дзе калісьці была

сядзіба Купалавага сябра Антона Лявіцкага, больш вядомага як Ядвігін Ш.

Празь невялічкую, на дзесяць двароў, вёску пралёг белы шлях, ахайна выкладзены бэтоннымі плітамі. Старыя жылыя хаты абапал гэтай узьлётнай паласы глядзеліся амаль недарэчна. Узьнікалі асацыяцыі з Хатыньню.

Невысокая худзенькая жанчына, некага нягучна праклінаючы, палола гарод. Гэта найстарэйшая жыхарка Карпілаўкі, 90-гадовая Надзея Левандоўская. Да яе я й зьвярнуўся са сваім трывіяльным пытаньнем: чым славутая ваша вёска? На што старая адразу ж выдала вычарпальны адказ: «Дык вунь, хлопча, ліпы бачыш? Там Лявіцкія жылі».

Творы Ядвігіна Ш. — Антона Лявіцкага — я чытаў. Невялікія вясёлыя байкі, у якіх няхітрыя беларускія дзядзькі становяцца ахвярамі анэкдатычных махлярстваў. Асабліва запомнілася мова гэтых анэкдотаў, яшчэ не ўнармаваная правіламі, жывая.

Спадарыня Надзея паскардзілася мне на нейкую менскую прайдзісьветку, што пад выглядам чагосьці каштоўнага за вялікія грошы прадала ёй амэрыканскае насеньне. А яно прарасло нянаскай прыгажосьці жоўтымі кветкамі заморскага пустазельля, над якім бабка ўжо трэція суткі гнула сьпіну, праклінаючы тую Амэрыку, што спачатку абдаравала нас каларадзкімі жукамі, а цяпер «гэтай жоўтай трасцай». Я ж, удаючы спачуваньне, з насалодаю слухаў

яе мову, дзівячыся, што першая пачутая мной карпілаўская гісторыя была нібы зь ядвігінскага рэпэртуару.

«А дому даўно, хлопец, няма. Як удаву ягоную з сынамі НКВД забрала, так і стаяў. Пакуль калхоз некуды яго не прадаў. А дом прыгожы быў, з бальконам і рознакаляровымі вакенцамі. А пасьля яшчэ доўга нашы мужыкі падмуркі рылі. Усё нейкае золата шукалі», — распавядала бабулька. А я чарговы раз схамянуўся ад супадзеньня. «Золата». Менавіта так называўся першы беларускі раман, напісаны гаспадаром зруйнаванай сядзібы ў 1920 годзе. І што, няўжо знайшлі? — пацікавіўся я. — «А, — махнула яна рукой, — ня там, відаць, шукалі».

— Яе выслалі, і два сыны былі, Славік і Казік, — працягвала старая Надзея. — Я помню іх. Высокія. Бачыце, стаяць дрэвы? Гэта ліпы стаяць. Гэта іхны сад быў. Яблыкаў было! Такія прыгожыя! Папяроўкі. Кіслых зімовых у іх не было. Ігрушы былі. Яшчэ мой бацька вартаваў. Вазілі гэтыя яблыкі ў Менск прадаваць. Я езьдзіла. Вялікія-вялікія, салодкія. А ў 1939 годзе мароз як даў, сады ўсе памерзьлі. Ні ў кога не засталося.

Старая раптам зьмяніла тэму:

— А Паўлінка гэтая, купалаўская, жыла пад Сухой гарой. Яна звалася Ядвіся. Гэты Янка Купала хадзіў да яе. Ну вось і склалі гэту пастаноўку. Купала некрасівы быў. Статуя стаіць у Менску. Выліты. Некрасівы. А яна была красі-

вая. А ён жа, кажуць, Янка Купала, у Маскве напіўся, зь лесьвіцы зваліўся і забіўся. Праўда ці не? П'яны забіўся. У нас так кажуць.

Пасьля такіх словаў міжволі адлятаеш кудысьці ў 1950 год, калі па навакольлі была пушчаная гэтая плётка пра п'янога Купалу, які скаціўся зь лесьвіцы.

Нічога не мяняецца на гэтай зямлі, — думаў я, вырульваючы ў стары парк былой сядзібы Лявіцкіх. Але карціна, убачаная там, уразіла й пераканала ў адваротным. Сярод зьдзічэлых яблыняў і ружовага кустоўя закінутага саду зеўрала залітая застаялай зялёнай вадою яма, абкладзеная вялікімі шэрымі валунамі. Непадалёк мірна застыў бэтонны дот першай абарончай лініі савецкай мяжы 1939 году. Самае месца задумацца пра марнасьць чалавечага лёсу ў гэтай краіне.

Нарадзіцца празь пяць гадоў пасьля вялікага паўстаньня, вучыцца ў нелегальнай люцынскай школцы адной з дачок Дунін-Марцінкевіча, доўгімі завейнымі вечарамі слухаць дзіўныя гісторыі з вуснаў легендарнага гаспадара, паступіць у Маскоўскі ўнівэрсытэт і быць адлічаным за палітыку, пачаць пісаць па-беларуску ў Бутырскай турме, вярнуцца дахаты на папялішча згарэлага дому да аўдавелай маці. Ажаніцца, пабудаваць паводле ўласнага праекту новы дом з мансардаю і камінам, абсадзіць яго ружамі і садам, прайсьці пешшу ад Вільні да Карпілаўкі, зьбіраючы й друкуючы ў «Нашай

Ніве» непрыдуманыя байкі яшчэ вясёлага люду, пачаць пісаць першы нацыянальны раман, увайсьці ў Раду БНР, паўдзельнічаць у паўднёвым паходзе генэрала Булак-Балаховіча, адпачыць пасьля баёў у Варшаве, выдаць кніжку ўспамінаў і легчы на вечны спачын на віленскіх могілках Росы.

Як не вязаліся з такім шляхам ні гэтая брыдкая зялёная яма, ні гэты дот, які так нікому ніколі й не спатрэбіўся. Але пачуцьцё вяртаньня дадому, выказанае Ядвігіным Ш. у нашаніўскіх «Лістах з дарогі», ажыўляла пакінутую сядзібу.

«Ну, але годзе ўжо гэтай гутаркі: годзе гутаркі на сягоньня, а цяганіны на сёлета. Вось бо ўзгорак, а там — у долі векавыя дубы, ліпы стаяць — мае дубы, мае ліпы! Сад відаць — мой сад! А ўжо пры самым лесе паміж розных дрэў выглядае дамок — мой дамок! Мой! Апісаць вам яго? Як жа я апішу, калі ён мой?! Бягу, ляту да яго!.. Бывайце здаровы!!»

*2008, студзень*

P. S. Едучы нядаўна каля Карпілаўкі, я захацеў збочыць, паглядзець на былыя краявіды. Колішнюю вёску ўжо не пазнаць. На месцы старых хат вырасьлі мураваныя катэджы.

Велізарны валун з прымацаванай шыльдай на ўзбочыне вуліцы я заўважыў яшчэ здалёку. І зьдзівіўся. Каму ж магла прыйсьці ў галаву ідэя такім чынам ушанаваць памяць Ядвігіна Ш.? Ён жа ня ў вёсцы гэтай жыў. І вёскі тады

ніякай не было. Я падышоў да каменя і аслупянеў. На мэталічнай шыльдзе быў выбіты наступны тэкст: «Здесь проживала долгожительница и последняя жительница д. Карпиловка ЛЕВАНДОВСКАЯ Надежда Михайловна. 1920 г. р. умерла 19.05.2011 г.».

Я такое бачыў упершыню. Каб новыя жыхары, каляністы з гораду, ставілі помнік апошняму карэннаму жыхару. Тое, што ўшанавальнікі не абралі для памяткі мову шанаванага магіканіна, выглядае сымбалічна. Атрымаўся помнік той, для каго беларуская мова была матчынай і адзінай. Манумэнт апошняй сьведцы былога, дзе Паўлінка была не пэрсанажам, а суседкай. Чалавеку, безь якога навакольны краявід згубіў свой натуральны голас.

# Сынтэз паганства і хрысьціянства ў беларускую веру

*Казімер Сваяк, Клюшчаны, 1920*

Гэтая гісторыя пачыналася для мяне зь непрыемнасьці. Улетку 1998-га, едучы на сваім «Запарожцы» зь Вільні ў Менск, я перасякаў мяжу ў Каменным Лагу. Акуратна запоўніўшы мытную дэклярацыю на мове арыгіналу, я аддаў яе самавітаму маладому інспэктару ў сінім кіцелі. Прыгажун-мужчына ўзяў маю паперку, але пячатку ставіць не сьпяшаўся. «Вы Бартосік?» — зь ледзь прыхаванай усьмешкай спытаў ён. — Так, — раздражнёна адказаў я. — І я ня маю ні лішніх грошай, ні зброі, ні наркатычных рэчываў. — «Вы той самы Зьміцер Бартосік, які ў „Нашай Ніве“ і на Радыё Свабода апантана змагаецца за беларушчыну?» — Т-так, — мой адказ прагучаў ужо ня так звонка. — «А гэта ваша дэклярацыя?» — Так, — упалым голасам двоечніка, які ня вывучыў уроку, прамямліў я.

Я не ўпершыню быў злоўлены сваім чытачом і слухачом на «моўнай няшчырасьці». Аднойчы мне ўжо прыходзілася чырванець у кабінэце акуліста. Іншым разам у аўтамайстэрні я клікаў на дапамогу сваіх расейскіх продкаў. Але з чытачом у форме сутыкнуўся ўпершыню. «Колькі ж нас многа», — думаў я, перапісваючы дэкля-

рацыю і ўнутрана даючы ўрачыстае абяцаньне больш ніколі не запляміць сваё сьветлае беларускае імя.

Так я пазнаёміўся з Алесем Юркойцем. Краязнаўцам ды ініцыятарам шматлікіх культурных імпрэзаў на Астравеччыне. Менавіта Алесь распавёў мне пра яшчэ адзін забыты адрас нашай культуры — капліцу Казімера Сваяка.

Недзе ў памежным лесе, удалечыні ад асноўных трасаў і буйных паселішчаў, там, куды немагчыма дабрацца аўтамабілем, стаіць разбураная шляхоцкая сядзіба з радавой капліцай. Падчас Першай усясьветнай вайны яна належала да парахвіі Клюшчаны, і служыў у ёй ксёндз Кастусь Стаповіч. Паэт Казімер Сваяк.

У Клюшчаны мы з Алесем выправіліся сьнежным адвячоркам. Да ягонага сябра й цёзкі лесьніка Алеся Марозіка, які згадзіўся давесьці нас да той закінутай у лесе капліцы.

Дарога на Клюшчаны з кожным кілямэтрам губляе прыкметы цывілізацыі. Асфальт саступае месца грунтоўцы. Вёскі драбнеюць. Сустрэчных машын няма. Кожны ўбачаны чалавек на глухой дарозе становіцца выразным, быццам кінагерой, узяты буйным плянам. Клюшчаны — апошні населены пункт. Далей дарогі няма. Тупік. Мяжа. Лес. У лесе цяпер разьбіраюць чыгунку, што ледзь ня сто гадоў зьвязвала Вільню з Полацкам.

Лясьнік Марозік прыватызаваў палову колішняй школы, адкрытай за Пілсудзкім і за-

крытай за Лукашэнкам, ды некалькі гектараў зямлі навокал. Грунтоўны драўляны будынак рупнасьцю гаспадараператвараецца ў сапраўдны маёнтак з усімі выгодамі. Былая школа стаіць на ўзвышшы, і краявіды зь яе вокнаў такія, што не прысьніш. А яшчэ — гаспадарка: ад казьлянятаў да машын. Ці ня гэта нараджэньне новых арыстакратычных дамоў? Зьдзейсьненая мара аб Новай зямлі? Адказ дадуць лесьніковыя дзеці, Адась і Наста, якія ўжо ведаюць пра сваю зямлю болей за дарослых дзядзькоў у далёкім Менску.

Шпацыруючы па вёсцы, Марозік паказаў насупраць утульнага касьцёлу, дзе маліўся ксёндз і паэт Стаповіч-Сваяк, руіны немалой сядзібы. Менавіта тут, у хаце Віктара Смаленскага, зьбіраўся колішні «Хаўрус сваякоў», слава пра які йшла па навакольлі. Зараз шмат хто вам давядзе, што менавіта тут адбылася першая пастаноўка Купалавай «Паўлінкі». Сам Сваяк пісаў пра гэта наступнае:

*«Новы 1916 год. Адбыўся сягоньня так званы „літаратурны вечар“ нашага хору. Усе дэклямацыі павяліся як найлепей. Найвыбітнейшыя песьняры Беларусі знайшлі тут дастойнае месца. Найболей падабаецца ўсім наш стары Багушэвіч. Яго „Праўда“ пакінула на ўсіх тварах сьлед глыбокага задуменьня. „Ой, цяжка, цяжка!“ — словы гэтыя ўзятыя з-пад сэрца беларуса».*

Вайна, тыфус, сьмерць. Бясконцыя службы за супакой душы, перадсьмяротныя споведзі, пахаваньні дзяцей… І ў той самы час — літаратурныя вечары. Каб гэта зразумець, напэўна, трэба добра ўсьведамляць сэнс таго «Ой, цяжка, цяжка». Каб мець права казаць тое беларускае «цяжка»…

На Клюшчанскіх могілках усё, як у Сваяковых запісах:

*«Адчыніў я шырокую браму магільніка. Простая палісада дзеліць яго напал. На ўзгорку статуя Маткі Божай з скрыжаванымі рукамі на грудзёх. Дрэў і дрэўцаў галіны прысланяюць рады крыжоў, драўляных, простых. З мокрых пажаўцелых лістоў спадаюць каплі нябеснай расы. Між дрэў найстаршы — клён, пасярэдзіне магільніка. Пад ім яшчэ ніхто не ляжыць. Там месца для мяне…»*

Мае праваднікі зьвярнулі ўвагу на адно надмагільле. «Інжынер Адольф Клімовіч. 1900–1970. Беларускі дзяяч-патрыёт. У Табе Божа паклаў я надзею. Хай ня буду адкінуты навекі. Te Deum laudamus». Як патлумачылі мае спадарожнікі, рэдагаваны Клімовічам агранамічны часопіс «Самапомач» да гэтае пары ў пашане сярод старых людзей…

Мы ехалі ў лес да таямнічай капліцы. Конь Чучмек бег па мокрым сьнезе, зь цяжкасьцю цягнучы нашыя санкі. Лежачы на сене ды аглядаючы палі і пагоркі, блізкі лес, я, гарадзкі жыхар, пачуваўся быццам на здымках пры-

годніцкага кіно пра партызанаў. Пад шоргат палазоў я слухаў сваіх новых сяброў. Гаварыў Алесь Юркойць:

— Пад'яжджаем да месца, якое называецца Шайкуны. Некалі было ўладаньне паноў Сволькенаў, дальнія родзічы якіх паходзяць са Швэцыі. Мы праехалі палісаду, каля трох кілямэтраў прыблізна, яна злучала некалі Клюшчаны, парахвіяльны касьцёл зь сядзібай Сволькенаў. Ад маёнтку нічога не засталося. Засталіся толькі рэшткі ад парку, рэшткі ад сажалкаў, ад мастоў, ад гаспадарчых пабудоваў. І рэшткі ад адной студні. Усё. Ад палацу нават падмуркаў няма на сёньняшні дзень. Толькі ў лесе фамільная капліца Сволькенаў. У той час, як Казімер Сваяк быў пробашчам у Клюшчанскім касьцёле, ён быў парахвіяльным ксяндзом, і ў той капліцы таксама адпраўляў імшу. Сёньня капліца разрабаваная, знаходзіцца ў вельмі непрыглядным стане, бяз столі, бяз даху. Толькі сьцены стаяць і рэшткі ад надмагільляў застаўшыся. Некалі за савецкім часам, распавядалі мясцовыя жыхары, прыяжджалі савецкія вайскоўцы на бульбакапаньне. Разрабавалі фамільны склеп, павыцягвалі грабы, і такі жарт яшчэ ў іх быў вельмі папулярны. Дасталі маладога пана з дамавіны. У яго рудыя валасы былі. Ставілі да дрэва. Увечары хто-небудзь па дарозе ішоў, тут якраз дарога праходзіла, і так палохалі. Многія жыхары яшчэ памяталі і на-

ват пазнавалі паніча маладога. І здавалася — як здань стаіць гэтая ягоная мумія…

— Ці засталася памяць ад дзейнасьці «Хаўрусу сваякоў»? — спытаўся я.

— Старыя людзі памятаюць, — адказаў Алесь-мытнік. — Той жа Хадорскі. Хадорскі расказваў, што іх вучылі беларускія песьні касьцельныя сьпяваць. Але ён згадваў не Сваяка, а Клімовіча. Ён, відаць, з гэтай моладзьдзю болей працаваў… З такога маленькага кутка, пара хутароў, — дзясятак дзеячоў агульнабеларускага маштабу. Толькі «Сваякоў» былі чатыры ці пяць братоў. Затым Янка Быліна, псэўданім Івана Семашкевіча, ксяндза. Пасьля Адольф Клімовіч… Гэта ўсё з маленькага кутка Клюшчанскага. Яны сюды багата літаратуры прывозілі. Прывозілі кніжкі, лацінкай друкаваныя, якіх я нават у Нацыянальнай бібліятэцы ня бачыў… Ну вось і капліца. Др-р-р-р.

Схаваная сярод ялін руіна паказваецца з дарогі нечакана. І здаецца ў гэтым глухім атачэньні вяршыняй архітэктурнай зграбнасьці. Пабудова аскетычная, сьціплая. Атынкаваныя сьцены вышынёй мэтраў пяць, гатычныя вокны, столь абваленая. Пазіраючы на капліцу з розных бакоў, я злавіў сябе на думцы, што ледзь не ва ўсіх беларускіх руінах не знаходжу прыгажосьці заняпаду. Усе нашыя разбураныя помнікі карціць прывесьці ў першапачатковы выгляд. У тым ліку і гэтую капліцу.

Пражыў Казімер Сваяк 35 гадоў. Выдаў некалькі кніг у розных жанрах. Доўга хварэў на сухоты. Памёр у Вільні. Пахаваны на славутых могілках Росы, на Літарацкай горцы, побач з Сыракомлем, Ядвігіным Ш., Аляхновічам…

Сяргей Дубавец выказаў думку, што ў часы нашаніўства, калі ўсё ў беларушчыне імкліва ствАралася, калі Дубейкаўскі выпрацоўваў нацыянальны стыль у архітэктуры, калі Тарашкевіч складаў беларускую граматыку, а Ластоўскі рабіў канцэпцыю нацыянальнае гісторыі, рэлігіятворчасьцю выпала займацца Сваяку. Разумеючы патрэбу беларускага хрысьціянства, Сваяк інтуітыўна прыйшоў да сынтэзу яго з дахрысьціянскімі народнымі традыцыямі. Сваяк выступіў як архітэктар беларускае веры.

Сутнасьць ягонае ідэі ў тым, што Бог — адзін, а Дажбог, Сварог, Стрыбог — гэта ягоныя каляндарныя іпастасі. Праграмны верш зьявіўся ў «Нашай Ніве» 1 лістапада 1920 году.

Задушкі йдуць, самлела ўжо прырода,
Абмыў ўжо дошч васенну дамавіну,
Стрыбог узяў у рукі ўсё ад Рода,
А Мокша атрасла апошнюю галіну.
Чакае ўсё, калі Дажбог ўладарны
Задзержыць рэкі ў сковы лядаваты,
Калі Пятро у небе гаспадарны
Для бедных душ зачыніць божы хаты.
Спачыне й сьмерць у зімку у марозну,
Заціхне зьвер, заглохне ў лесе птушка,

У цемру воўк завые так трывожна,
Як бы сканала гдзе ягоная дачушка.
На голас той Сварог пашлець прадвесьне
І першым Перуном разваліць моц Стрыбога:
Скрушэе лёд, зямлі пялёнка счэзьне,
І ўсё жывое зноў пагорнецца да Бога.

Гледзячы на двух моцных мужчын каля капліцы Сваяка, я раптам зразумеў, чаму беларусаў называюць нацыяй паэтаў. Не вялікіх палітыкаў ды вайскаводаў, не навукоўцаў і не спартоўцаў. Яны, спартоўцы з палкаводцамі, безумоўна, былі, ёсьць і будуць. Але так выйшла, што калі па-сапраўднаму «цяжка», толькі на паэтаў апошняя беларуская надзея.

*Сакавік 2002 г.*

P. S. Тады, у 2002-м, Алесь Юркойць прасіў, каб у этэры Радыё Свабода не гучала ягонае імя. І каб ніякім чынам не фігуравала ягонае месца працы. Алесь перастрахоўваўся. Я разумеў, што пастаўленыя помнікі, адкрытыя музэі, зладжаныя пленэры, літаратурныя выступы ў школах ня могуць не прыцягваць увагі «органаў». У 2013-м Юркойць задумаў Касінерскі фэст да 150-х угодкаў паўстаньня Каліноўскага. Раённы кагэбіст Аляксандар Сухоцкі зрабіў усё, каб фэст не адбыўся. А праз два гады грымнула інсьпіраваная сталічным КГБ справа «арганізаванай злачыннай групы» мытнікаў, якія на Каменным Лагу нібыта атрымлівалі незаконныя даляры. Сярод 58 фігурантаў гэтай справы

Юркойць вылучаўся ня толькі беларускай дзейнасьцю. Аляксандар Міхайлавіч Сухоцкі канваяваў яго ў сталіцу асабіста. Ня змог адмовіць сабе ў задавальненьні. Суд ня выявіў доказаў Алесевай віны. Толькі зацьвердзіў абвінавачаньне КГБ. Такі суд. Юркойцю далі сем гадоў турмы.

Калісьці расейскі пісьменьнік Варлам Шаламаў, згадваючы «свой» ГУЛАГ, сьцьвярджаў, што выпадковых людзей у лягерах не было. Абвінавачаньні маглі быць самымі абсурднымі. Але толькі не фігуранты. Вязень сумленьня Алесь Юркойць гадамі сваёй справы і сваёй нявол пацьвярджае шаламаўскаю праўду.

У чэрвені 2017-га драўляны Клюшчанскі касьцёл Сьвятога Яўхіма згарэў дашчэнту. Ён прастаяў блізу 300 гадоў — ад 1726-га. Казімер Сваяк, які служыў у гэтым касьцёле, пісаў:

*«Для Бога няма прошласьці ані будучыні, ёсьць толькі цяперщчына, што цягам сваім абымае тры эпохі часу… Чым жа ёсьць час, у каторым мы трываем? Гэта моманты, пералётныя для нас, нерухомыя для Бога… Чым жа ёсьць само жыцьцё чалавека? Гэта хвіліна нязначная ў вечнасьці… Пашто думаць аб мінуўшчыне або аб будучыні? Карыстай з тэй ласкі Божае, каторую цяперака маеш».*

Але цяперака я маю калядную паштоўку, дасланую мне Алесем Юркойцем з «казачнага Пішчалаўскага замку». Ён і там не губляе гумору.

# Голы волат на дрэве

*Аляксандар Уласаў, Мігаўка, 1939*

Ёсьць такі рэдкі тып людзей, да якіх пранікаесься сымпатыяй ужо завочна. Дастаткова нейкай гісторыі з жыцьця альбо аднаго фаtаздымку, і ўжо ніякая розьніца ў эпохах не адыгрывае ролі. Няхай сымпатычны табе чалавек сышоў задоўга да твайго нараджэньня, цябе ўсё адно прываблiваюць тыя мясьціны, дзе ён жыў. І дзе дзякуючы ягонай колішняй прысутнасьці ўсё павінна быць крыху ня так, як паўсюль. Рукапісы гараць, людзкая памяць сьціраецца, але нешта ня можа не застацца. Лягчэй за ўсё назваць гэтае «нешта» аўрай. Мне здаецца, у нашым выпадку гэта — Беларусь, пра якую мы марым, працягваючы мары й справы тых, хто верыў у яе задоўга да нашага прыходу.

Пра асобу першага рэдактара «Нашай Нівы», пасьля — сэнатара польскага сэйму і заснавальніка Радашкавіцкай беларускай гімназіі я ўпершыню даведаўся са старонак раману Якуба Коласа «На ростанях». З той кніжкі шмат чаго пасьпеў забыць, але толькі не эпізод зьяўленьня Аляксандра Уласава, у Коласавым варыянце — Мікіты Ўласюка.

*«Якраз у самы разгар Ясевага ўзьнёслага красамоўства з другіх дзьвярэй высунуўся Мікіта Аляксандравіч, босы, у адной толькі ніжняй ка-*

*роценькай сарочцы. Уся яго постаць нагадвала дзябёлую чыгунную тумбу. Нельга было бязь сьмеху глядзець на гэтую амаль зусім голую фігуру. Пад носам Уласюка красаваліся навусьнікі, канцы якіх былі завязаныя на патыліцы. Такі „ўрачысты“ выхад рэдактара абразіў эстэтычны густ Яся Ліскоўскага. Нічога ня кажучы, ён шпарка выйшаў у свой пакой, зьняў са сьцяны адну са старасьвецкіх шабель. Не вымаючы клінка, пляснуў разоў пару ножнамі па рэдактарскаму заду. Рэдактар ніколечкі не пакрыўдзіўся і толькі сказаў: — Не паненкі ж тут сядзяць! — павярнуўся і пайшоў у свой пакой. Там у яго былі гіры і штанга, і ён прыступіў да гімнастычных практыкаваньняў, а потым заняўся туалетам».*

Гэта эпізод зь віленскага пэрыяду жыцьця Ўласава. Колькі пасьля я ні чытаў пра гэтага вусатага велікана, які з усьмешкай у вачах пазірае з кожнага фатаздымку, сымпатыі да яго толькі большала. Вось што ўспамінае пра Ўласава ягоная пляменьніца Вера Ніжанкоўская. Тут ужо дзея адбываецца ў фальварку Мігаўка ў тагачаснай Заходняй Беларусі, з польскага боку польска-савецкай мяжы:

*«Калі было горача, дзядзька хадзіў у адных шортах (тады гэта была рэдкасьць), а такі волат, як ён, выглядаў досыць арыгінальна. Нават здараліся зь ім анэкдоты. Прыехаў неяк зь Вільні да яго нейкі дзяяч беларускі, пагаварыць па справах. Пайшлі яны зь дзядзькам у сад. Тым*

*часам прыйшоў мясцовы селянін па раду. Яго накіравалі ў сад. Неўзабаве ён вярнуўся перапалоханы ды кажа: „Там нейкі голы вар'ят ходзіць, а каля яго, мусі, фэльчар круціцца і ўсё яго ўгаворвае!“ Аднаго разу прыйшла нейкая дзяўчына, і яе паслалі ў сад. Яна пайшла й паклікала: „Пане сэнатар!“ І раптам пачула аднекуль з гары: „Гоп, гоп!“ Узьняла галаву, а на дрэве нейкае вялізнае праве голае цела. Ад нечаканасьці амаль не самлела».*

Вёска Мігаўка, дзе прайшлі апошнія гады жыцьця Аляксандра Ўласава, месьціцца адразу за Радашкавічамі. Ад Віленскай шашы да яе вядзе грунтоўка, шляхотна абсаджаная таполямі. На гэтыя прысады міжволі зьвяртаеш увагу як на жывую прыкмету колішняй несавецкай тэрыторыі.

Я вельмі шкадую, што ня збочыў на Мігаўку выпадкова. Напрыклад, напіцца вады ці набыць малака. Я б усё роўна пагрукаў у самую старую хату. А насустрач мне выйшаў бы стары хутаранін, твар, пастава і гаворка якога ўсё роўна прымусілі б затрымацца ў Мігаўцы крыху даўжэй, чым толькі каб напіць. Карэнная беларуская шляхотнасьць, не прыдбаная з кніжак, а перададзеная з крывёй, адклікалася ў кожным позірку, жэсьце ды слове прыгожага чалавека зь нямецкім прозьвішчам Шнэйдэр і беларускім імем Міхал. «У Беларусі, — сказаў ён, — ня прынята па отчаству».

— Уласава? Вядома, памятаю. Росту прыкладна мэтар дзевяноста. Сама яго рука — даланю ўзяць — дык нармальнага чалавека слажыць дзьве далані. Сілішчы быў незвычайнай. Памятаю, рэзалі бярвеньне на дошкі. Козлы былі высачэнныя. І калі трох парабкоў не маглі калоду падняць туды, дык ён кажа: «Вы адыйдзіцеся, хлопцы». І адзін закінуў тую калодку. Жыў ён вунь на тым узгорку. Хата была прыкладна дзесяць на чатырнаццаць. Але на ўласны конт эканамічаскі ня быў заінтарасаваны. За свае крэўныя ладзіў вечарыны, пастаноўкі. Каб, ну як гэта сказаць, мець задавальненьне сабе й сялянам. Прама на ўласным падворку. Як апранаўся? Ён не любіў гальштучка. Кашуля там прырасшпіленая ці жакетка. Яго за гэта не любілі некаторыя памешчыкі, за гэтую «паказуху». За гэты стыль адзежы сялянскі.

Арышт Уласава, кажа Шнэйдэр, усе перажывалі цяжка. Але ўсе маўчалі. «Мы й да іх прыходу ведалі, чым пахне сталінская свабода. А як яны перайшлі граніцу, мы ўсе былі падаўленыя маральна. Хто хадзіў пад гальштукам, дык пачалі скідаць».

Я слухаў колішняга сына арандатара, колішняга варшаўскага студэнта, падпісанта «Лё Фігаро», стажыста ў гітлераўскай Нямеччыне. Колішняга сталінскага вязьня, колішняга пчаляра. Беларуса зь незвычайным беларускім лёсам.

— Вы не сумуеце па тым шчасьлівым часе?

— Па часох сумуюць толькі няверуючыя.

Аднаго я зразумець ня мог. Стары мне расказваў, што ў Мігаўцы цудоўна ведалі пра парадкі па той бок мяжы. Уцекачоў са сталінскага раю з кожным годам большала. Дык няўжо Ўласаў не даваў ім веры? Ці, можа, хавацца й панікаваць было не ў ягоных правілах? Вось як выглядае фатальны верасень ва ўспамінах Веры Ніжанкоўскай:

*«17 верасьня 1939-га, калі ў Радашкавічы прыйшла Красная армія, ён прыйшоў да мяне поўны энтузіязму, маўляў, вось калі ён будзе пісаць і друкавацца як эканаміст! Аляксандар Мікітавіч паехаў у Маладэчна прапанаваць свае паслугі ў рэдакцыю тамтэйшай газэты. Стуль яго накіравалі ў НКВД на зацьверджаньне як супрацоўніка. У НКВД яго папрасілі напісаць аўтабіяграфію. Дзядзька на 17 старонках апісаў усе свае заслугі ў беларускім і рэвалюцыйным руху… З НКВД ён ужо ня выйшаў, і, здаецца, напісаная ім аўтабіяграфія фігуравала як акт абвінавачаньня… Калі жонка вазіла яму ў Маладэчна падаянкі й пыталася ў турэмнага вартаўніка, ці здаровы ейны муж, той адказваў: „Такі вялікі, вусаты? Дык жа ад ягоных расказаў рагоча ўся камэра!“».*

Я ўзьняўся на пагорак, дзе ўжо нічога не нагадвае пра сядзібу заснавальніка «Нашай Нівы». Але адна карціна прамінулага часу намалявалася маёй фантазіяй так ярка, нібы я быў сьведкам. Летняе зьмярканьне. Ружовае

беларускае сонца паволі хаваецца ў заходніх лясах. Зь вялікага падворку пана сэнатара ва ўсе бакі разносіцца «Чаму ж мне ня пець». Падтрыманая гаспадаром дому, песьня сьпяваецца лёгка, на поўны голас. Каб песьню гэтай зямлі на гэтай зямлі чуваць было як мага далей па абодва бакі мяжы. Польскія стражнікі на хвілю адарваліся ад прэфэрансу, расейскія пагранічнікі, парушаючы правілы маскіроўкі, закурылі папяросы. Да верасьня засталося ня так і шмат часу. Але ўсім здаецца, што песьня будзе гучаць бясконца. «Калі ў нашай хатачцы парадак ідзець»…

Чаму Аляксандар Уласаў радасна вітаў Чырвоную армію ў 1939-м? Ускосны адказ на гэтае пытаньне я знайшоў ва ўспамінах жонкі Ўласава, якія запісаў Сяргей Дубавец у сярэдзіне 1980-х у Гомлі, дзе яна жыла. У гутарках зь сялянамі, згадвала спадарыня Аляксандра, Уласаў перакананa казаў, што «Польшча хутка здохне, і палі будуць араць трактары. Будуць калгасы, саўгасы. Адкрыецца праклятая мяжа, і будзем жыць у адной сям'і». Проста нейкая ілюстрацыя да любімай сталінскай песьні «Над страной весенний ветер веет, С каждым днем всё радостнее жить». Напэўна, уявіць сабе рэальную карціну таго пекла, якое несьлі з сабой бальшавікі, былы рэдактар «Нашай Нівы» ня мог. Альбо сам сябе спрабаваў пераканаць у адваротным.

*1999, жнівень*

P. S. Кожнага разу, праяжджаючы каля ўказальніка на Мігаўку, я ўяўляю на даляглядзе постаць высокага чалавека, які выйшаў насустрач Чырвонай арміі. Адзін з тых многіх, хто зьвязаў яе прыход з узьяднаньнем Беларусі. І адзін з тых многіх, чыімі жыцьцямі было аплачана тое ўзьяднаньне.

# Гадаваўся ў манапольцы, «пры гарэлцы»

*Уладзімер Жылка, Макашы, 1900*

Удзячная гэта справа — знаёміцца з паэтам завочна. Не тады, калі бярэш кніжку з гучным прозьвішчам аўтара, а тады, калі даведваесься пра аўтарства ўпадабанага раней твору. Менавіта такое знаёмства адбылося ў мяне з творчасьцю Ўладзімера Жылкі. У пачатку 1990-х я пачаў слухаць беларускае. Слухаў усё запар — ад афіцыйнай эстрады да андэрграўнду. Але найбольшае задавальненьне прыносіла мне перазапісаная дзясяткі разоў аўтарская песьня. І неяк прывязалася да душы адна прыгожая песенька Вольгі Цярэшчанкі — «Шлях да Бога». Я міжволі вывучыў яе на памяць. Як пазьней высьветлілася, я вывучыў верш Уладзімера Жылкі.

Напяваючы гэтую песьню, я ехаў у вёску Макашы Нясьвіскага раёну, дзе сто гадоў таму нарадзіўся паэт. Ехаў па банальны сюжэт «да сотых угодкаў». Я не спадзяваўся знайсьці людзей, што маглі ўспомніць равесьніка стагодзьдзя, які пакінуў родную вёску яшчэ ў 1914 годзе. Адно думаў пабачыць родны дом паэта і, магчыма, запытацца ў тамтэйшых дзяцей, ці кажа ім нешта гэтае прозьвішча — Жылка.

Макашоў у дарожным атлясе няма. Можа там калі што й засталося, дык якія два-тры

двары? Насамрэч паміж прыгожым лесам і рэчкаю Ўшой раскінулася даволі вялікае сяло. Старыя драўляныя дамкі перамяжоўваюцца з дыхтоўнымі мураванкамі. Сумным сымбалем прамінулага стагодзьдзя глядзяцца руіны калгаснага мэхдвара з іржавымі шкілетамі камбайнаў. Некалькі вузкіх вулачак зьбягаюцца да немалога пляцу. На ўзгорку разьлегліся вясковыя могілкі, а ў самым цэнтры гэтай зялёнай плошчы — ахайна абгароджаная пляцоўка зь невялічкім помнікам. На мармуровай пліце выгравэраваны знаёмы партрэт. Надпіс паведамляе, што тут, у вёсцы Макашы, нарадзіўся «беларускі савецкі паэт Уладзімір Жылка».

Пакуль я вывучаў помнік, да мяне падышла сямейная пара. Ён, п'янтос гадоў 30 у брудная цяльняшцы й з дурнаватай усьмешкай на малінавым твары; яна, кабета з хітраватым позіркам і памятым абліччам. На руках у яе — замурзанае трохгадовае дзяўчо. «А вы дзедам інцярасуецеся?» — запыталася кабета. — Як вы яго назвалі? — перапытаў я. — «Ну, гэтым, Жылко, пісацелем». Далей маёй асьветаю заняўся муж. Ён паведаміў, што Жылко «напісаў нейкі вершык, за што яго пасадзілі ў Сібір». А дом паэта, як высьветлілася, купіў нейкі дачнік зь Менску. Дом, дарэчы, дзякуючы таму загадкаваму дачніку выглядае як нядаўна пабудаваны. Новая шалёўка, новая бляха.

«А вунь там, — паведаміла кабета, — жыве стары дзед, які хрысьціў таго паэта». Можа, я

чаго не дачуў, але да паказанага кабетаю дому пайшоў зь вялікай цікавасьцю.

У даволі яшчэ моцнай, але недагледжанай хаце, на кухні, за сталом сядзелі трое дзядоў і пілі мутны самагон з клясычнай здаравеннай бутлі. Вызначыць узрост найстарэйшага было амаль немагчыма. Сказалі б «сто сямнаццаць», паверыў бы. Але гэты маленькі ўсохлы дзядок быў у кампаніі за камандзера. Другі стары, рахманы й памяркоўны, ціхенька прытуліўся ў куточку. Трэці на тле астатніх двух выглядаў проста маладзёнам. Як высьветлілася, сын (гэта той, што маладзейшы) з бацькам (гэта той, што найстарэйшы) прыехалі з Баранавічаў адведаць свайго дзядзьку й брата (таго, што сядзеў ціхенька). Выпіта, мяркуючы з ажыўленай гамонкі, было нямала. Не пасьпеў я адрэкамэндавацца й дастаць мікрафон, як перада мною ўжо стаяў напоўнены кілішак. Я зьвярнуўся да самага старога, Івана Абрамовіча, народжанага ў Макашах праз два гады пасьля зьяўленьня на сьвет знакамітага земляка — у 1902-м, і пачуў у адказ трасянку мовы і фактаў:

— Он с тысяча дзевяцьсотага года. Я с тысяча дзевяцьсот утарога. Ацец яго хрысьціў мяне. А ацец яго родам з-пад Слуцка. А он у нашай дзярэўні… пры царызьме былі манаполькі созданы… Вы гэтага ўжо ня помніце… І он пры Польшчы быў у Вільнюсе рэдактарам газэты «Зьвязда». Гэты Жылка рэдактарам быў. Патом яго пры… ня буду гаварыць, пры дык-

татары, проста скажу… Паскольку я панімаю, што сказаць…

Я ўжо ведаў, што бацька паэта сапраўды быў сядзельцам манапалькі, якая стаяла каля самага млына, дзе ўвесь час у чарзе нудзіліся завозьнікі — надзейныя кліенты ў «бары» Адама Жылкі. Дасьледнік Уладзімер Калесьнік пісаў:

«Казённая хата Жылкі была вялікая, на два канцы, з ганкам і белымі аканіцамі, зацененымі шырокім саламяным капяжом. У пярэднім канцы сядзелец кватараваўся, у заднім — гандляваў. Вось у такой з выгляду сялянскай, ды не сялянскай хаце давялося прыйсьці на сьвет і правесьці дзяцінства будучаму паэту».

Гэта значыць, што нарадзіўся паэт фактычна ў манапольцы, «пры гарэлцы». У антуражы, падобным на той, у якім цяпер успамінаюць пра яго землякі.

Я ведаў таксама, што «Зьвязда» выходзіла ня ў Вільні, а ў Менску, Жылка сапраўды быў там супрацоўнікам, але не рэдактарам, калі ў 1926 годзе вярнуўся з Прагі ў Менск. Але ўсе гэтыя дакладныя і недакладныя факты падаваліся мне мала істотнымі на цяперашнім застольлі. Да мяне пакрысе пачынала даходзіць, што перад мною бяз двух гадоў раўналетак толькі што прамінулага стагодзьдзя. Але ўсьвядоміць гэта цалкам на цьвярозую маю галаву было цяжкавата. Пагатоў дзядуля, як я зразумеў, толькі пачынаў хмялець.

— Мікалай, брацішка ты мой, мне ня трэба займацца балталогіяй. Я должан гаварыць праўду. Чэсна і благародна! Сягоньня, можа быць, адна мінута, і канец маей жызьні! Дай мне сказаць, а ты потым будзеш гаварыць!.. Далі яму пяць гадоў турэмнага заключэньня. За што, я не магу вам сказаць. Потым ён папаў у Прагу. Прага вы знаеце чыя сталіца… Як ён памёр, якая яго апошняя судзьба пасьцігла — я не магу вам сказаць. Патрыёт быў родзіны! А вместа отдыха далі яму пяць лет турмы. Во як! Жылі яны небагата. Памятнік яму ў нашай дзярэўні пастаўлены два-тры гады таму. (Скрозь плач.) Жаль мне яго! Жаль мне яго! Жаль мне яго!.. Стары Абрамовіч закурыў «Прыму» й зайшоўся такімі рыданьнямі, быццам пахаваў самага блізкага сябра. Пару дзён таму. Зрэшты, з вышыні дзевяноста васьмі гадоў, напэўна, кожная пражытая эпоха бачыцца як нешта зусім нядаўняе.

Я ня стаў болей турбаваць старых людзей, пакінуўшы іх далей расьпіваць сваю пляшку. Няцяжка нават уявіць, як гэтая тройца п’е на працягу стагодзьдзя. Ад самага нараджэньня. За пыльным акном мяняюцца рэжымы і ўлады. Па дарозе на Ішкалдзь праходзяць арміі ў самых разнастайных уніформах. Радыё балбоча на розных мовах. А тут усё той жа стол. Усё той жа самагон. І ўсё тыя ж тосты за здароўе й доўгае жыцьцё! Там Расейская імпэрыя і Другая Польская рэспубліка, Трэці райх і СССР! І як тут не

дапіцца да беларускай незалежнасьці! Уявіць за гэтым сталом Жылку я ня здолеў. Ня тое што ў якой віленскай кавярні ці на вуліцы ў Празе. Адкуль, зрэшты, малады невылечна хворы і незвычайна таленавіты чалавек вырашыў ехаць у чырвоны Менск. Абмяняць жыхарства ў Чэхіі на савецкі пашпарт сталінскага ўзору. Які неразумны ўчынак зь сёньняшняга гледзішча! Калі ўсё часьцей мяняюцца пашпарты незалежнай Беларусі ў адваротным кірунку.

*2000, травень*

P. S. Дзед Жылкі па маці, Анупрэй, пражыў 112 гадоў. З такой моцнай генэтыкай і сам паэт мог сядзець за тым адвечным сталом амаль што да нашых дзён. І не было б сухотаў, на якія захварэў у Менску, не было б Вільні і Прагі. І сьмерці на чужыне. Але не было б і вершаў. Пытаньне пра тое, які б варыянт уласнага жыцьця выбраў ён сам, надоўга заглыбіла мяне ў філязофскі роздум…

# Бацька Аляксей і невядомая Надзея

*Натальля Арсеньнева, Вільня, 1926*

Я гэты горад знаю з даўных дзён.
І каб ня хвойны пах бацькоўскай хаты,
І каб не нарачанскай хвалі звон
Ля курганоў, ля сосен расахатых, —
Хацеў бы я, каб мой апошні сьпеў
Тут, сярод гэтых незабыўных вулак,
Дзе ўпершыню ён гулка празьвінеў,
Знайшоў спакой і вечны свой прытулак.

Аўтар гэтых радкоў урэшце знайшоў свой спачын «ля курганоў, ля сосен расахатых». Але жаданьне быць пахаваным у Вільні выказваў ня толькі Максім Танк. Гэты матыў гучыць у вершах Натальлі Арсеньневай. Пра вечную Вільню мроіў і Ўладзімер Жылка. Толькі ўва ўсіх выйшла па-іншаму. Жылка ляжыць у далёкім Прыўральлі, а Арсеньнева ўвогуле за акіянам.

І што нам, чытачам, рабіць са сваёю патрэбаю наведаць магілу паэта? Каб успомніць, пачытаць вершы, ушанаваць. У арсеньнеўскай Вільні такая магіла ёсьць.

Як тут люблю я ўсё:
чырвоны вулак брук
і залатым пяском асыпаныя дахі…
Манюся тут сваю апошнюю зару
я сустракаць,
адсюль —
пайсьці адвечным шляхам.

Ва ўспамінах паэтка згадвае свайго бацьку Аляксея Арсеньнева, які памёр у Вільні ў 1926 годзе. Дадам, што сям'я была праваслаўнай. Гэтых зьвестак мне было дастаткова, каб адправіцца на віленскую Ліпоўку — старыя праваслаўныя могілкі паміж Вострай Брамай і Менскай шашой.

Ліпоўскія могілкі — месца, калі можна так сказаць, вельмі ўтульнае для вечнага спачыну. Узгоркі, парослыя векавымі дрэвамі, у нізінах акуратныя сьцежкі. На самай высокай гары пануе невялікая, але вельмі зграбная ратонда — храм Эўфрасіньні Полацкай. Сярод багатых чорнамармуровых надмагільляў расейскага чынавенства і сьціплых крыжоў тутэйшага люду вока парадавалі некалькі помнікаў зь беларускімі надпісамі. Рэха міжваеннай Вільні. Але магіла Арсеньневых нідзе не сустракалася.

Дагараюць, таюць сьвечкі ліпаў… Восень.
Кроплі воску — лісьце — ўслалі мох.
Хоць тугі у госьці мы ня просім,
тут яна…
і тужыцца само.
Зараз зноў рудое зрэб'е змроку
лістапад пачне вакол сьпяліць,
зноў успомнім мы (ня зьняць урокаў)
змагароў, што зьleglі у зямлі.

Па дапамогу я зьвярнуўся да настаяцеля царквы айца Ўладзімера. Сьвятар, дарэчы, беларус з Мастоў, да маёй справы паставіўся

паважна. Адклаў свае гаспадарчыя клопаты і адшукаў кнігі з вопісам міжваенных пахаваньняў. Праглядаючы разам старонку за старонкай, мы ў разьдзеле, прысьвечаным 24-му ўчастку, неўзабаве знайшлі наступны запіс: *«Алексей Арсеньев, 1926 год, Надежда Арсеньева, 1913 год»*. Побач давалася апісаньне магілы: «Камень, высокі мармуровы крыж, жалезная агароджа». Невядома, праўда, было, хто гэтая жанчына. Надзея. Калі гэта маці, дык 1913 год — памылка, бо маці Натальлі Арсеньневай памерла ў 1939-м, пра што піша сама паэтка. А калі дата сьмерці сапраўдная?.. Можа бабка?

Яшчэ загадка заключалася ў тым, што ўчасткі з тых часоў даўно зьмянілі як нумарацыю, так і канфігурацыю. Але айцец Уладзімер загарэўся маёй ідэяй. Праз колькі хвілінаў перада мною ляжаў стары, царскіх часоў плян Ліпоўскіх могілак, зь якога вынікала, што ўчастак 24 знаходзіцца недзе паміж Лысаю гарой і Шкаплернай вуліцай. Сёньня гэта вуліца Дзуку. Захапіўшы з сабою той могілкавы фаліянт, сьвятар вырашыў асабіста паўдзельнічаць у пошуку магілы.

Недзе каля гадзіны мы з айцом Уладзімерам абыходзілі той колішні 24-ы ўчастак. Я, прызнацца, ужо згубіў надзею. Бо занадта шмат там было магілаў, пазначаных другой паловай мінулага стагодзьдзя. Былі нават нейкія Арсеньневы, пахаваныя ў 1970-х. Але сьвятар абнадзеіў тым, што нават калі самая магіла не захавалася, дык месца яе ўсё адно высьветліць

удасца. Бо складальнік той кнігі натаваў усё, ідучы роўненька па радах, магіла за магілай. І арыентыраў пакінуў дастаткова.

І сапраўды, праз колькі часу мы пабачылі магілу Марыі Рыбнікавай, а поруч магілы сям'і Дзехцеравых. Згодна з кнігай, побач мела быць агароджа арсеньнеўскага помніка. І вось ён, зарослы травою грудок і камень пры самай сьцяжыне. На камені — сьлед ад крыжа, шыльда таксама сарваная. Але сумневаў у нас не было.

— Арсеньнева Надзея і Алексій. Год пахаваньня 1913, Аляксея — 1926. І што на гэтым месцы пахаваньня — камень плюс высокі марmуровы крыж, жалезная агароджа. Ну вось. Захавалася што? Захаваўся толькі камень. І бачна, што крыж тут быў. Месца для крыжа ёсьць, месца для шыльды ёсьць. Але крыжа і шыльды ўжо няма. І агароджы няма.

Зацерлі золь, слата
няўзнак
імёны, год.
Із наспай роўнае ўзьнялося пустазельле.
Ды запыні, спытай абы-каго.
«Жывыя, — скажа ён, — хай целы і
сатлелі!»
…Ці йшлі яны у бой ізь песьняй маладой,
ці доўга несьлі боль, аж палі гэтта ніцма,
ці на Дзяды мядзяныя, увосені,
зь бядой
прыходзіць хто па іх паплакаць,
памаліцца?

Айцец Уладзімер пайшоў у сваіх справах, а я застаўся каля сямейнай магілы Арсеньневых. Той самай, дзе, павярніся гісторыя па-іншаму, магла б знайсьці свой спачын і паэтка. Гэта значыць, зьявіўся яшчэ адзін віленскі адрас. І тым, каму дарагая творчасьць Натальлі Арсеньневай, цяпер ёсьць куды прыйсьці, каб пакласьці кветкі.

*2003, кастрычнік*

P. S. Шукаючы выяву таго каменя ў сеціве, я з радасьцю даведаўся, што ў лістападзе 2015 году на магіле Аляксея Арсеньнева адбылося адкрыцьцё абноўленага помніка. З удзелам Зянона Пазьняка і Аляксея Марачкіна. На новым камені зьявіўся надпіс: «Арсеньеў Аляксей, сын Аляксандра. Начальнік управы Віленскай мытнай акругі, сапраўдны штацкі дараднік. Бацька беларускай паэткі Натальлі Арсеньневай-Кушаль. Памёр у Вільні ў 1926 годзе». Стваральнікі БНФ схілілі галовы над магілай расейскага мытніка, які аднойчы аддаў дачку ў беларускую гімназію.

# Дом творчасьці часоў Вялікага тэрору

*«Падблонь», 1930-я*

На гэты забыты адрас я наўмысна зьбіраўся паехаць прыгожым летнім дзяньком. Каб сонца асьвятляла навакольле, нібы на засьвечаных старых фатаздымках. Каб абавязкова на аўтамабілі з адкрытым вакном. І каб з магнітафону лілася неверагодна прыгожая музыка тых часоў, калі слова «Падблонь» для кожнага беларускага пісьменьніка было напоўненае глыбокім сэнсам. У гэтым слове чулася афіцыйнае прызнаньне, блізкая рэальнасьць вялікіх прэміяў, магчымасьць увайсьці ў абранае кола савецкіх клясыкаў ды мала яшчэ што…

Якая яркая й жыцьцярадасная музыка стваралася ў самыя страшныя часы чалавецтва! Нібы нейкая адмысловая калыханка для соннага розуму. Тым часам у Амэрыцы ўзнаўляе сваю дзейнасьць Ку-Клукс-Клан, Італія ў захапленьні ад сваёй палітычнай навінкі — фашызму, Гішпанія гатовая ўзарвацца грамадзянскаю вайною, Нямеччына зьвязвае сваю будучыню з нацыянал-сацыялістамі, сталінскі Саюз ужо дасьпеў да новых ахвярапрынашэньняў, а ўсясьветны этэр напоўнены чароўнымі гукамі мажорных факстротаў. За якімі сапраўды можна не пачуць стрэлаў ды стогнаў.

Колькі ні чытаў пра тую эпоху, колькі ні слухаў аповедаў сьведкаў, так і ня здолеў адчуць яе смаку. Мне так і не зразумець, як гэта можна жывога чалавека пасадзіць на вядро з пацуком. Што можна адчуваць, бязьдзейна назіраючы, як адзін за адным зьнікаюць у невараць твае сябры і сваякі, зь якімі яшчэ ўчора браў чарку й марыў пра грандыёзныя пляны? Кім трэба пачувацца, падпісваючы калектыўны паклёп на калегу?

Якое ж, іншым разам думаеш, шчасьце, што гэтая жудасьць цябе абмінула. І сёньня можна адно гуляць у адгрымелую вайнушку. Надзеўшы белыя штаны, паехаць у даваенны Дом творчасьці й адпачынку Саюзу пісьменьнікаў з гэтай вось ужо амаль нікому не вядомаю назвай «Падблонь».

Сёньня тых, хто адпачываў тут у пэнатах, засталіся адзінкі. А тых, чый адпачынак у сонечнай «Падблоні» перарвалі доўгімі катаваньнямі й тэрмінамі, бадай, не засталося зусім. Яе добра памятаюць тыя, хто напрыканцы трыццатых гадоў быў дзіцём. Дзецьмі пісьменьнікаў. Сам я ўпершыню пачуў пра «Падблонь» ад братоў Вольскіх, Гаральда й Артура, для якіх яна была неад'емнаю часткаю дзяцінства.

З Гаральдам Вольскім я сустрэўся летнім пагодным вечарам у Аляксандраўскім сквэры ў Менску. Гутарка ішла пад плёскат вады ў старадаўнім фантане ды лёгкую гаману моладзі, што апанавала сквэр. Бесклапотная атмасфэра

нагадвала даваеннае кіно. Не хапала толькі духавога аркестру.

— Гэта паўтара кіламетра ад станцыі Пухавічы, «Падблонь», — пачаў свой расповед спадар Гаральд. — Былы маёнтак міністра шляхоў зносін у царскім урадзе. Двухпавярховы дом. На першым паверсе сталовая, падсобныя памяшканьні. На другім — заля танцавальная, раяль стаяў. Быў яшчэ летні флігель. Там таксама жылі пісьменьнікі. Яшчэ быў дзіцячы корпус. Апошнія гады мы былі асобна — дзеці ад бацькоў. Зь пісьменьнікаў там жылі Чарот, Крапіва, Броўка, Чорны, бацька мой, Кучар, Маўр, Цішка Гартны, многа было каго там…

Як цяжка спалучаюцца шчасьлівыя твары на кадрах даваеннай кінахронікі зь іншымі карцінкамі той эпохі, якіх не здымалі на стужку. У 1921 годзе Янка Купала пераклаў «Інтэрнацыянал»:

Стары парадак мы зруйнуем
Магутным выбухам сваім
І сьвет на новы лад збудуем:
Хто быў нічым — той будзе ўсім!

Што гэта значыць? Быць усім? Гэта ж не пра белыя штаны. Быць усім — гэта быць богам. Не адчуць у сабе бога дабра, а стаць усемагутным вяршыцелем чужых лёсаў. Прычым, каб выкрасьліць свайго «ворага» з гэтага жыцьця, ня трэба самому нават «марацца». Дастаткова

аднаго «допісу» ў НКВД. На старых кінастужках крочаць тыя, хто сталі ўсім.

— Быў такі эпізод, зьвязаны з Барысёнкам, — згадаў спадар Гаральд будучага акадэміка Васіля Барысенку, рэцэнзіі якога былі сапраўднымі даносамі. — У яго сын быў — Гарык. Мы зь Ігарам Крапівой яго пабілі добра, — а гэта ўжо пра сына Кандрата Крапівы. — Ён нам нашкодзіў ці што. А потым прывязалі яго да дрэва й падпалілі касьцёр. Каб папужаць. У гэты час міма ішлі Броўка з Кучарам. Убачылі ўсё й пачалі нас лупасіць. А Крапіва толькі ляўрэата палучыў Сталінскай прэміі. Дык Броўка Ігару пад зад нагой улупіў і кажа: «У-ух ты, няшчасны ляўрэат-т-т». Так яму зайздросна было. Ну мы адступілі, наламалі пруцьеў там у бярэзьніку, падышлі ззаду й добра адлупцавалі пруцьямі іх. І за забор удралі. Вось такая была гісторыя перад самай вайной.

Пятрусь Броўка, паэт, стваральнік Беларускай энцыкляпэдыі. Чалавек з тварам плякатнага савецкага інтэлігента. Пралетарская сківіца, высокі інтэлектуальны лоб і добрыя вочы з мудрых акуляраў. Адлівай у бэтоне з кнігаю ў руках і стаў у выглядзе помніка ў кожным савецкім парку культуры. Такі жывы помнік можа стаяць за трыбунай зьезду. Можа ўглядацца ў сьветлыя далі. Можа прыціскаць партбілет да сэрца. Можа нават «шырокім праспэктам» ісьці са шчасьлівай усьмешкай і палаючым значком сталінскага ляўрэата на

штрыфэлі. Але ўявіць, як гэты ажылы плякат у савецкім касьцюме з шырачэзнымі штанінамі разганяецца і з усяго размаху дае падсрачніка шчасьліваму сталінскаму піянэру… Пасьля чаго савецкі піянэр, не здымаючы чырвонага гальштука, бярэ дубца, падкрадаецца ззаду да будучага сталінскага ляўрэата і з размаху лупцуе ляўрэацкую задніцу. Намалюй такі вясёлы комікс у час, калі адбылася гэтая сцэнка, і «дзесяць гадоў бяз права перапіскі» табе гарантаваныя.

Неяк ня вяжацца гэты эпізод зь бесклапотным «шчасьлівым дзяцінствам». А яшчэ менш вяжацца з «дарослясьцю» шчасьлівых дарослых. У сваіх паводзінах яны такія самыя дзеці, толькі больш жорсткія і падступныя. Бо заўжды можна паскардзіцца «бацьку і настаўніку». І ўсім вядома, чым сканчаецца «бацькавае» а-та-та. На сёньняшні погляд тое плякатнае «шчасьце» было прымітыўным і ўбогім. Для спадара Гаральда яно скончылася пасьля арышту Кузьмы Чорнага:

— Я неяк прыйшоў у трыццаць восьмым годзе дамоў, і мне сказалі, што Кузьму Чорнага арыштавалі. Я бацьку кажу: «Во, Кузьма, дзядзька Кузьма вораг народа». І тады бацька пашчочыну мне даў. «Заўтра я такім жа ж ворагам народа буду». І сказаў, хто такі Сталін, што за рэжым. Усё гэта ён мне ў трыццаць восьмым годзе сказаў. Ён тады таксама быў выключаны з партыі, зьняты з усіх пасад. І яго, наверна, спа-

сло тое, што ён у гады маладосьці быў калісьці сам чэкістам. Так жылі… усе баяліся друг друга.

Артурам Вольскім я любаваўся. Рымскі профіль, высакародная сівізна, глыбокі позірк. Апрані хоць у мундзір з эпалетамі, хоць у шляхоцкі жупан — усё будзе дарэчы. Без маскараду. Мы размаўлялі ў залітым сонцам фае Тэатру юнага гледача, дзе пісьменьнік працаваў загадчыкам літаратурнай часткі:

— Усё вельмі сьветла было. І рыбалкі, і каля вогнішчаў. Я памятаю, там непадалёк ёсьць такі гаёк. І пойдуць туды Крапіва, Броўка, Глебка, яшчэ хто. Пляшку з сабой прыхопяць, разьвядуць вогнішча і на ражэнчыках сала смажаць. І хлеб падстаўляюць, каб капала на хлеб. І мне дадуць кавалачак, і я з такім задавальненьнем еў. Такая рамантыка. Вядома, гарэлку мне не давалі.

Пагладжваючы свае боцманскія вусы, стары Артур нібы вярнуўся ў тую эпоху і, здавалася, ужо зусім не зважае на мяне і на дыктафон, уваскрашаючы ў памяці сваю «Падблонь»:

— Патэфон быў. Раяль быў. Вельмі хораша сьпявала Эдзі Агняцьвет. Там такія вечары наладжваліся. Нехта чытаў вершы. Мы, дзеці, «пірамíды» рабілі (тады гэта модна было) такія спартыўныя. Більярдны стол вялізны быў. Я страшэнна ганарыўся, што аднойчы выйграў у Крапівы. У вялікі сапраўдны більярд. Крапіва вельмі добра гуляў. У яго вока было. Я памятаю — прыкладзецца так. Ён сам высокі.

І памятаю, як кій кладзе паміж пальцаў, і вока такое… шэрае такое… ну, як бы сказаць, пільнае такое… Р-р-р-аз, і шар у лузе.

Не было ў іх ніякага «шчасьлівага дзяцінства». І ўсе кінахронікі з усьмешкамі і «пірамідамі» хлусяць. І чым далей пераносіўся ў сваё дзяцінства Артур Вольскі, тым больш старэчым і зьбянтэжаным рабіўся ягоны твар:

— Я памятаю нават яшчэ Цішку Гартнага! Ён там на другім паверсе займаў пакой з сынам Алегам і з дачкой. Алесь Дудар там праводзіў сваё апошняе лета перад апошнім арыштам. Сумны быў такі, гуляў трохі ў валейбол. Але адчуваў, што вось-вось яго зноў пацягнуць. Старэйшыя гаварылі, я чуў, ён спадзяваўся ў «Падблоні» адседзецца. Але забіралі адтуль непасрэдна. Я ня памятаю, каго раней, каго пазьней. Непасрэдна адтуль забралі Андрэя Александровіча. Гэта было на маіх вачах. Там рэчка невялікая, Цітаўка. І затока была на тэрыторыі Дому творчасьці. І пісьменьнікі, яны былі даволі маладыя яшчэ, наважыліся рыбу сеткай лавіць. І вось Андрэй Александровіч хадзіў па тваністай заточцы і, як я памятаю, на нагах у яго былі летнія парусінавыя пантофлі. Парашком зубным іх чысьцілі. Ён проста ў іх хадзіў, каб не параніць ногі. І тут яго паклікалі. І ён зьнік. А пазьней адтуль быў узяты Мікола Хведаровіч. Дзеці, падлеткі, мы ўжо ведалі, што гэта такое — Ёсіф Вісарыёнавіч. Мы ўжо ведалі. Бо на нашых вачах гэта ўсё рабілася.

Таму нічога мы ня верылі. Проста прыстасоўваліся. І маё пакаленьне — гэта амаль цалкам пакаленьне прыстасаванцаў.

На маё наіўнае пытаньне, ці можна было за каго-небудзь заступіцца, стары Артур паглядзеў на мяне крыху зьбянтэжана. І стомлена вымавіў: «Ты нават не ўяўляеш, які гэта быў страх».

Я насамрэч не ўяўляю. Толькі ведаю. І ня з кніжак. А ад роднай бабулі. Мая бабуля па бацькавай лініі, Кацярына, у канцы 1930-х жыла ў Крамлі. Нават на адной лесьвічнай пляцоўцы зь Міхаілам Калініным. Яе першы муж быў чырвоным камандзірам. Калі ў войску пачаліся чысткі і ўсьлед за Тухачэўскім ды Ўбарэвічам пачалі зьнікаць ніжэйшыя камандзіры, баба Каця працягвала сябраваць зь яшчэ ня высланымі жонкамі «ворагаў народа». І была неаднойчы бітая за гэта сваім мужам. «Каб пераходзіла тут жа на іншы бок вуліцы! Ня ўздумала нават павітацца! Нават у вочы не глядзі! Інакш пагубіш і мяне, і сябе». І ён-такі дамогся свайго. Пры сустрэчы зь сяброўкай, зь якой яшчэ ўчора хадзілі ў кіно на «Весёлых ребят», бабуля адварочвалася, ішла ў іншым кірунку, рабіла выгляд, што не заўважыла. І гэта адзінае, што не давала ёй спакою да самай сьмерці.

Мая, дачка паэта Міхася Клімковіча, аўтара тэксту да гімну БССР, таксама ў той час адпачывала з бацькамі ў «Падблоні». Паўтараючы фразу пра «харошыя часы», яна, наколькі я

зразумеў, спрабавала пераканаць не мяне, а толькі сябе. Спадарыня Мая прыняла мяне ў сябе дома:

— Прыяжджае машына з энкавэдыстамі ў штацкім. А людзі сядзяць там на лавачцы. Пытаюцца: а дзе Александровіч? Жанчыны кажуць: Славік, дзе папа? — А папа пайшоў рыбу лавіць. — Ну пазаві папу. — Прыходзіць папа, босы, у закатаных штанах. З вудай, з рыбай. А яму кажуць: прайдзёмце. Выводзяць яго, садзяць у машыну. І ўсё. Чалавека няма. У нас было дома, што бацька таксама сабе горла перарэзаў. І я таксама ня ведала. Папа ў бальніцы, — мама сказала. А я сястру гляджу, і ўсё гэта… Так што, вядома… такі ўзрост, то ня надта што й запомнілася. Потым ужо вайна запомнілася. Калі прайшлі празь яе. А там… Там харошыя былі… часы. Кожную нядзелю прыяжджалі пісьменьнікі. А так жонкі зь дзецьмі гулялі. Харошыя былі… часы. Калі ня ведаць усяго гэтага страху, які тады быў.

Той дзень, калі я ехаў у «Падблонь», быў пахмурны. Не да белых штаноў. Мая машына нібы наўмысна не завялася. У электрычцы з магнітафону суседняй кампаніі гучала брыдкая расейская папса дня сёньняшняга. Але й без дадатковага маскараду «Падблонь» захавала для мяне, пасьля ўсяго пачутага, сваю страшнаватую аўру. Дарма што былая сядзіба расейскага чыноўніка цяпер увайшла ў межы гораду Мар’іна Горка. Дарма што яе галоўны дом

злучаны сылікатнаю прыбудоваю з асноўным санаторскім корпусам (тут цяпер дзіцячы рэабілітацыйны санаторый). За высокім берагам рэчкі Цітаўкі, парослым векавечнымі дрэвамі старога парку, чырвоны фасад з нэагатычнымі вежамі прымусіць спыніцца кожнага выпадковага падарожніка. Былая дача расейскага міністра шляхоў зносін Макеева пасьля шэрых райцэнтраўскіх пабудоваў выглядае ледзь не старадаўнім замкам. Нават паўразбураныя скульптуры піянэраў і школьніц пасярод пляцовак можна было сьпісаць на няўдалы густ яго благародзія.

У «Падблоні» мяне чакала радасьць пазнаваньня. Усё засталося такім, як у расповедзе колішніх дзяцей 1930-х. І парк, і прыгожая затока, і ўтульны стук колаў на чыгуначным мосьце праз Цітаўку. Адсюль, з-за дрэваў, ня бачна, што там робіцца па-за раем.

Я прысеў на лаву пад старою ліпаю. І назіраў, як гуляюць дзеці з паталёгіяй апорна-рухальнай сыстэмы. Хворыя на цэрэбральны параліч, поліяміеліт ды розныя скаліёзы. Сярод падобных сабе, такіх самых небаракаў, яны не адчуваюць сваёй інакшасьці. Дурэюць, сьмяюцца. Яны шчасьлівыя. Як былі шчасьлівыя і тыя дзеці, што жылі ў гэтых мурах да вайны. Тым самым дзіцячым шчасьцем, якое не залежыць ад эпохі за плотам ці ад хваробы.

Паўзь мяне прайшоў задуменны хлопчык гадоў дзесяці на мыліцах. Пацыент санаторыю,

былой дачы расейскага міністра, былога інтэрнату мар’інагорскага тэхнікуму, былога Дому творчасьці пісьменьнікаў, былога вайсковага шпіталя. Наўрад ці гэты хлопчык ведае, што на месцы ягонага ложка, магчыма, тварыў Пятрусь Броўка. Ці Глебка. Ці Крапіва.

*2000, ліпень*

P. S. Здрада не давала спакою маёй бабулі да самай сьмерці. А ці магу я такое сказаць пра нешматлікіх падблонскіх пісьменьнікаў, якім удалося перажыць увесь той сталінскі жах? Ці спрабавалі яны з салідарнасьці падтрымаць адзін аднаго, калі не публічна, дык хоць ціхім словам пры вогнішчы? Хоць запіскаю «ў стол»? Хоць поглядам у вочы арыштаванага пры разьвітаньні? На жаль, такіх сьведчаньняў у мяне няма. Як няма і сьведчаньняў, што нешта не давала ім спакою да самай сьмерці. Наадварот, страх альбо жаданьне «быць усім» дыктавала іншы сцэнар паводзінаў: няхай цябе, абы не мяне.

Седзячы часам у белых штанах за куфлем піва, я ніколі не забываю, дзе знаходзіцца Алесь Юркойць. Абсалютнае зло нікуды не падзелася. Ды ўсё ж наш час адрозьніваецца ад таго. Пра кожную несправядлівасьць мы можам крычаць у СМІ, хадзіць на судовыя працэсы, рабіць розгалас па сьвеце. Пакідаючы надзею нашым дзецям: зло канчаткова не пераможа.

## Выкінуты «за непатрэбнасьцю» рай

*Алена Кіш, Грозаў, 1949*

На могілках мястэчка Грозава, каля самага ўваходу, ёсьць адно незвычайнае надмагільле. Ня крыж, не абэліск, ня стэла. Адліты з бэтону човен. Форма такая, нібы эскіз намалявала дзіцячая рука. І расфарбаваны ў жоўты і сіні колеры. Па боку гэтага карабліка ідзе няхітры арнамэнт. А на карме можна прачытаць два словы: «Алена Кіш». Больш нічога. Ні датаў нараджэньня і сьмерці, ні паведамленьняў пра род заняткаў нябожчыцы. Падказка ў самім надмагільлі.

Сэнс слова «шайморы» я даведаўся нядаўна. Але для тых, хто памятае іх смак і пах, шайморы гучаць амаль як сынонім жыцьця. Шайморы — гэта бульба, якая заставалася з восені на палях. І якую шукалі галоднымі вёснамі. Каб з гэтай бульбяной гнілі пячы аладкі. Шайморы — галоўны далікатэс паваеннай Беларусі.

На маляваных дыванах Алены Кіш шаймораў няма. Але я не магу іх ня згадваць, гледзячы на даты стварэньня тых маляванак. Галоўныя сюжэты мастачкі — рай і ліст да каханага. У тым раі няма ні баляваньня, ні забаваў. Яе рай — ціхі сад з кветкамі, па якім гуляюць прыдуманыя ёю львы, а на райскіх бярозах сядзяць чырво-

ныя райскія птушкі. І абавязкова ў райскай сажалцы плавае човен.

Я прыехаў у Грозаў, заінтрыгаваны сьмерцю мастачкі ў 1949-м. Чаму даравальніца раю абрала сьмерць? Павінен жа нехта ў Грозаве памятаць чалавека, які даваў магчымасьць хоць на нейкі час забыцца на шайморы.

Ганна Антонаўна Гадзецкая — полька, яе дзед пераехаў у Беларусь з-пад Кракава ў канцы мінулага стагодзьдзя, каб працаваць садоўнікам у багатага шляхціча. Былая настаўніца роднай мовы напрыканцы 1940-х гадоў жыла ў суседняй вёсцы Яўсеевічы, дзе ўпершыню ўбачыла Алену Кіш.

— Падчас вайны яны былі бежанцамі. Прыехалі сюды, у Грозаў. І вельмі бедна жылі. Усе тады бедна жылі. А яны чамусьці асабліва бедна. Гаспадаркі не трымалі ніякай. Агароды не садзілі, ня сеялі. І была вось гэтая… «каўрыха» яе называлі. Яна хадзіла па сёлах. Давалі прасьціны. І яна на гэтых прасьцінах малявала.

Усьмешлівая кабета добразычлівым голасам, нібы казку баіць, расказвае мне пра «каўрыху». Але гэтая цёплая інтанацыя ня грэе. Ці не з такой самай інтанацыяй бацькі маёй суразмоўніцы прымалі мастачку? Дакладней, жабрачку, назолу, бажаволку?

— Яе ўспрымалі як бядачку, якая зарабляе на хлеб. А што яна мастачка вялікая, гэта народ не прыняў. Але яе творы прымалі з радасьцю.

Хваліліся адзін аднаму. Яна не вымагала. Колькі хто дасьць. Яна і да нас заходзіла. Што мне запомнілася? Што вельмі бедна была апранутая. Паліто ў латках. На нагах нейкія галёшы. Страшнейшая карціна. Хустка нейкая парваная. Яна высокая ростам. Зь людзьмі гаварыла культурна. Яны былі дочкамі папа.

Калі шайморы перасталі зьяўляцца на стале, са сьценаў быў прыбраны і рай. Можа, той намаляваны «рай» быў выкінуты як памяць пра пекла? Ці згаладалыя, даведзеныя бальшавікамі да жывёльных патрэб людзі проста ня ўбачылі ніякага раю?

— Малявала яна луг, азярцо, кветкі, нешта падобнае да льва, маладыя сядзяць над рэчкай, дзеўка і хлопец. Яна малявала фарбамі. Сама іх рабіла. І ў нас быў такі дома. Доўга вісеў. Спачатку ў залі, на пачэсным месцы. Над ложкам. А пасьля купілі лепшае. А той перавесілі на кухню. Фарба палопалася. І выкінулі. Можа, спалілі. Ніхто не бярог. Ніхто ня тое што не цаніў, ён не патрэбен быў нікому. І людзі не захавалі. Нават і кавалка. Калі б тое ведалі! Пра што гаворка…

Бачыць у дзяцінстве, як на тваіх вачах нараджаецца карціна раю, прачынацца пад гэтым раем, назіраць, як з гадамі блякнуць ягоныя фарбы, а пасьля згарнуць яго, як непатрэбную анучу, і выкінуць на сьметнік. Ці не з такім самым пачуцьцём выкідалі як непатрэбшчыну дзядоўскія шафы і разьбяныя буфэты, спаль-

валі старыя дакумэнты і фатаздымкі, зносілі векавыя камяніцы, вытручвалі з галавы спрадвечныя словы?..

Падобных гісторыяў пра выкінуты рай я наслухаўся безьліч і на Глыбоччыне. Дзе працаваў іншы раятворца, Язэп Драздовіч. Я ніколі не прамінаю магчымасьці сказаць прыжмурыўшы вока: «Зналі б вы, колькі гэта цяпер каштуе». І пасьля назіраць за рэакцыяй. Звычайна яна аднолькавая. Сумны позірк долу і ківаньне галавой.

У жыхаркі вёскі Папоўцы Зінаіды Дубовік таксама рай нараджаўся на вачах.

— Бедныя, абарваныя хадзілі. Алена тая была разумная. Прыйдзе, папытае, каму нарысаваць. Харошая жанчынка, не брахала. Да нас добра ставілася. Панаходзім, дзеці, туды, многа дзяцей. І дражнім, і глядзім. Плацілі за гэтыя дываны. У каго няма якой анучы на сьцяне, дык хай рысуе. Неяк паказвалі ў тэлевізары гэтыя дываны!

«Харошая жанчынка, не брахала». «Калі няма анучы на сьцяне». Гэта жывыя водгукі стаўленьня да мастачкі з боку тагачаснай публікі. Ці магла мастачка ад такіх дражненьняў зрабіць сабе сьмерць? Ганна Гадзецкая лічыць, што адбыўся няшчасны выпадак.

— Там рэчачка працякала, кладка была. І праз гэтую кладку трэба было ісьці і несьці наламанае гальлё. І яна, бедненькая, цягнула дровы праз гэтую кладку. Яна зусім была хво-

рая, мусіць, і галодная. Зьняможаная. З кладкі звалілася і ўсё. Захлябнулася. Шкадавалі людзі. Цяпер даведаліся, што знакамітасьць усясьветная, дык увогуле… Такі чалавек тут быў…

Адзіная сваячка Алены Кіш, жонка яе пляменьніка Ганна Дзядзюшка размаўляла са мною праз дзьверы, прыняўшы вашага пакорнага слугу за цыгана.

— Яна была як апошні чалавек. Хадзіла, жабравала. Гаварылі ў нас пра гэта, што ўтапілася. А як яно папраўдзе, я ня знаю. Тут былі людзі, якія дываны куплялі. А я дык нічога ня брала. Толькі пляменьніка забрала. На могілках мы і магілку прыбіраем. Я і сама прыбіраю магілку яе. Мы тады бегалі глядзець, як яна ўтапілася. Калі мы прыбеглі, то яе ўжо не было. Яе ўжо дасталі. Тое месца мы называлі «калдабан». Хадзілі туды купацца. Але ж, вядома, стары чалавек. Шкадавалі, вядома.

Адзін зь сюжэтаў яе карцін — «Дзева на водах». Маладзіца ў чырвонай сукенцы стаіць па калена ў вадзе на сажалцы і любуецца на лебедзяў. Там, дзе мастачка адышла ў лепшы сьвет, у 1949 годзе таксама вады было па калена.

Але некаторыя яе палотны ўсё ж ацалелі. Ва ўраджэнкі вёскі Авіны Зоі Пуставалавай захаваўся не адзін «Рай». Два дыванкі ў канцы 1930-х гадоў набыў яе бацька Самуіл, які працаваў аграномам.

— Ён езьдзіў паўсюль і знайшоў гэтую жанчыну ў Квасынічах. Пад Слуцкам. І там ён зь

ёй сустрэўся. І вось ён прыехаў і кажа маме: «Ты ведаеш, там ёсьць такая мастачка! Такія прыгожыя малюе львы, кветкі». Дык ён прасіў у мамы палатно. Мама сама ткала, сама прала. Шкада ёй было. Выпрасіў. Але як прывёз, дык гэта ж такая краса! Фарбы яркія, яркія. Дзе хлопец зь дзеўкай, дык той у сенцах вісеў. Дык ён менш выгараў.

Пытаньне, чаму гэтыя старыя дыванкі не былі выкінутыя, мне падалося, было спадарыні Зоі незразумелае.

— Як гэта выкінуць? Вы што! Яны ў нас віселі на сьцяне як шэдэўр. Гэта цяпер дываноў гэтых… А тады гэта рэдкасьць была. Дзіва. Усё сяло прыйшло глядзець. Такой красы ніхто ня бачыў у сяле. Прыйшлі, як на выставу.

Сёньня імя Алены Кіш стаіць у энцыклапэдыях народнага мастацтва ў адным шэрагу з імёнамі Анры Русо і Ніка Пірасмані. А маляваныя дыванкі зноў уваходзяць у моду. Я іх часта сустракаю ў інтэлігенцкіх кватэрах. Ёсьць дыванок і ў мяне ў хаце. І нішто так не стварае атмасфэру беларускай утульнасьці, як гэтыя быццам бы няхітрыя маляванкі.

*2014, люты.*

P. S. Нядаўна на Глыбоччыне ў аднаго 90-гадовага чалавека я ўбачыў над ложкам сапраўднага Драздовіча. Драздовіча ў выдатным стане. Бо вісеў у цені. З возерам, з замкам, зь лебедзем. Я аж задрыжэў. І ад нечаканасьці, і ад адпавед-

насьці зьместу форме. Я ўпершыню ўбачыў дыван там, дзе ён быў створаны і ніколі не мяняў свайго месца. Я асьцярожна спытаў у гаспадара: можа пара яго прадаць? Чаго, маўляў, такой карціне нудзіцца ў закутку. «Не прадаецца». І з інтанацыі я зразумеў, што не «пакуль», а «ўжо» не прадаецца.

# Імя па маці

*Пётра Сергіевіч, Стаўрова, 1900*

Пётра Сергіевіч ад першага знаёмства зь ягонымі творамі не зрабіў на мяне ўражаньня афіцыёзнага мастака. Я ведаў, што ён узначальваў Саюз мастакоў Літоўскай ССР, я бачыў ягоны «буржуазны» асабняк на Антокалі ў Вільні, я разумеў, што за ўсё гэта заплачана правільнымі карцінамі — як «У партызанскай кузьні» ці «Гусьляр». Але перад усім гэтым я пазнаёміўся зь Сергіевічам — партрэтыстам, зьбіральнікам беларускіх тыпажоў. Ягоныя графічныя партрэты міжваеннага часу гавораць пра эпоху ня менш за кінахроніку. Аловак майстра схоплівае самае галоўнае — вочы, характар, сацыяльнасьць. Такое адчуваньне, што праз хвіліну зможаш дакладна ўявіць голас чалавека. Ня кажучы пра ягоную мову. Таму, апынуўшыся аднойчы на Браслаўшчыне, я ня мог абмінуць Стаўрова, родную вёску мастака.

Аглядаючы захопленым вокам тутэйшае велічнае Богінскае возера, я зусім ня цешыў сябе надзеяй, што знайду ў вёсцы нейкія палотны знакамітага партрэтыста. Але ў першай жа хаце, куды я пагрукаўся, усьмешлівая гаспадыня ў акулярах паказала мне на сьцяну, дзе вісела карціна Сергіевіча.

— Гэта я маленькая са сваёй бабуляй. Да вайны яшчэ. Я з 1937 году, а памятаю, як мяне малявалі. Дадуць яйка, якраз на Пасху.

Рэгіна Віршута, так клічуць маю суразмоўніцу, паведаміла цікавую акалічнасьць біяграфіі мастака. Аказваецца, ягонае імя па бацьку — Аляксандравіч — насамрэч імя па маці.

— Ён нейкім сватам даводзіўся маім бацькам. І яго маці звалася Аляксаша. Аляксандра. У нас тут быў маёнтак Чарніца. Калісьці там жыў нейкі пан. І гэты пан езьдзіў да гэтай Аляксашы. Ну і зрабіў гэтага Пецьку Сергіевіча. Пасьля шчэ адзін сынок нарадзіўся. І трэцяя дачка была, Гэля. І тады ўжо ня стала яна яго прымаць. Трох нажыла і болей зь ім спраў ня мела. Пан быў жанаты. Езьдзіў «набок» туды. З Чарніцы ў Плетарова. Сергіевіч нарадзіўся па-за шлюбам. Непадобна, што гэта былі адносіны пана і бядачкі. Трое дзяцей без каханьня не нараджаюцца. Пагатоў усе атрымалі адукацыю. Няйначай, бацька дапамагаў. А яны ўсе выбіліся. Усе тры былі граматныя. Дачка стала доктарам…

Зірніце на рэпрадукцыі карцін, на графічныя партрэты людзей і на сюжэтныя палотны алеем. Параўнайце «Весельчака» і Кастуся Каліноўскага сярод паўстанцаў. Ці «Старавера» і «Гусьляра». Такое адчуваньне, што працавалі два розныя мастакі. Але гэта адна рука. Прычым нельга назваць графіку раньнім пэрыядам. Сур’ёзны Каліноўскі напісаны

36-гадовым чалавекам. А вясёлы «Старавер» 60-гадовым майстрам. І, гледзячы на выявы гістарычных постацяў «алеем» і рэальных людзей «алоўкам», адразу бачыш, дзе рукой мастака кіруе сапраўдная жарсьць. Я зусім не зьдзівіўся, калі дазнаўся, што Сергіевіч складаў жартаўлівыя прыпеўкі пра сваіх землякоў.

— Да нас як прыяжджаў, — згадвае спадарыня Рэгіна, — ходзіць па вёсцы, разглядаецца. Як у нас кажуць, веплаваты. Ну няхітры. Ідзе, разглядаецца. Усё яму цікава. Ён жа ж тут пражыўшы, песьні складаў. Мама мая ўсё пяяла. Ён прыходзіў заўжды, як прыедзе. І мы да яго езьдзілі. У Вільню. Я помню гэты дом. На Антокалі. Ляжалі такія львы. Жонка была, Стася. Яна чыста па-польску размаўляла. А ён чыста па-беларуску. Кватэра — там тры стэляжы. Карціны ў рамачках. Адна да адной складзеныя. І вось ён дастае карціну і расказвае — гэта жанчыны брусьніцы ў лесе зьбіралі. Іншую дастаў — гэта Федзя-партызан. А ці ёсьць гэты дом, гэтыя львы — невядома.

Дом на Антокалі, раскошны асабняк са львамі, і цяпер стаіць на сваім месцы. Вось толькі глядзець на яго абазнанаму чалавеку бяз болю не выпадае. У ідэале там мусіў быць беларускі культурны цэнтар. Пра каштоўнасьць Сергіевічавай спадчыны гаварыць лішне. Але пасьля сьмерці жонкі мастака беларускія чыноўнікі ніяк не парупіліся ні аб выкупе гэтага дому, ні аб лёсе карцін. Частку карцін сястра

жонкі Стасі вывезла ў Польшчу, частка пыліцца ў запасьніках Літоўскай нацыянальнай галерэі, частка проста зьнікла. Толькі памятная шыльда нагадвае, чым мог быць гэты будынак для беларусаў Вільні.

Партрэт маленькай Рэгіны і яе бабулі Галены таксама, дарэчы, мог зьнікнуць.

— Вайной усіх спалілі. Тут жа ўсё бамбілі. А ў нас былі фікусы вялікія. А мы сядзелі ў акопе. Хата загарэлася. А я малая плакала, што фікусы згараць. А гэтая карціна была стаптаная. Мы прыехалі праз чатыры гады. Нашлі яе. Узялі, мама вымыла. Ён прыехаў пасьля вайны, падкрасіў. Ён яшчэ многа партрэтаў пісаў, але не захаваўшыся. Майго мужыка бацькі быў партрэт.

Насамрэч Сергіевіч быў Пётрам Альфонсавічам. Згадаў імя бацькі стары стаўровец Яўген Драбовіч. Не забыліся і прыпеўкі, складзеныя мастаком.

— Альфонс. Ён пан такі… Крыху багацейшы за мужыка. А Сергіевіч яшчэ ж і пісьменьнік быў. Меў круглае, гладкае слова. Пісаў частушкі. Па-сёньняшняму кажучы, прыколы. «Ці ня з тога сьвету чорт жыда пад'юдзіў залажыць смалярню для стаўроўскіх людзі? Стаўроўскія людзі работы ня маюць, ходзяць па лесе, карчы сабіраюць». Пад музыку падыходзіла. Старэйшыя людзі памяталі цэлыя куплеты гэтых прыпевак. На матыў «Абэрак». Танец такі польскі быў… Партрэты пісаў. Ён жа па вёсцы хадзіў, маляваў, хто толькі быў. За кавалак мяса, сала.

Ён ня быў багаты чалавек. Бацькі ж не было. Матка і цётка. Маленькая хатка была. Безьзямельныя.

Увішная і гаваркая Данута Касач, у дзявоцтве Сергіевіч, сваёй непаўторнай віленскай гаворкай распавяла яшчэ адну гісторыю пра мастака. Аказваецца, у адным з храмаў Горадні — як я зразумеў, у брыгіцкім касьцёле — вернікі моляцца на стаўроўскі абраз.

— Ён такі чалавек быў разьвіты — ідзець, штосьці ўбачыць і нарысуець. Штосьці яму не спадабалася, возьмець штосьці складзець пра яго. Тата мой служыў у Горадні. А Сергіевіч маляваў там. У чырвоным касьцёле. Тата мне кажа: «Схадзі да краснага касьцёлу». — «А што я там буду рабіць?» — «Схадзі паглядзі на нашага чалавека стаўроўскага». Сергіевічу сказалі там партрэт намаляваць сьвятога, абраз. А хто ведаець, які той сьвяты быў? А ў нас тут быў такі Антаневіч. Мастак яго і намаляваў. Ён там і цяпер ёсьць. Сьвятым Антонам зрабіў Антаневіча. І людзі на яго моляцца. А хто там знаець, якія сьвятыя былі? Ужо мільён гадоў прайшоўшы. Каго намалявалі, таму і моляцца.

У Стаўрове я заўважыў адну цікавую дэталь. Дровы тут складаюць не ў дварах, а проста на вуліцы, перад хатай. Усе свае. А берагі вялікага возера, якія калісьці служылі для навакольных пляжам, даўно зарасьлі.

— Было сорак дзевак. А цяпер старыя, ніякія. Было возера харошае. Падысьці можна было,

пяскі былі. Прыяжджалі і дачнікі, і яўрэі, як былі, прыяжджалі. А цяпер хто тут паедзець?

Старая Рэгіна на разьвітаньне прыгадала даўняе прароцтва Пятра Сергіевіча.

— Казаў: «Гэлька, помні. Уся Віленская губэрня зарасьцець лесам». Дык так і ёсьць. Стаўрова было во якое! А цяпер адны кусты. Бачыце, напрарочыў! Дык яно так і стала. Усё пазарастала лесам.

*2014, ліпень.*

P. S. Маладыя, поўныя жыцьця, прыгожыя людзі з партрэтаў Сергіевіча — яны назаўжды засталіся ў сваім часе. Такіх тыпажоў ужо не сустрэнеш. Вёска Стаўрова зьнікне, але застанецца Богінскае возера. З маляўнічым востравам, на якім я апынуўся празь некалькі гадоў у кампаніі сталічных мастакоў, археолягаў і паэтаў. Людзей, якім ня трэба тлумачыць, хто такі Сергіевіч. Бязьлюднае наваколье напоўнілася беларускімі песьнямі і байкамі. Думаю, мастаку было б прыемна далучыцца да гэтай кампаніі.

## «Быў час, быў век, была эпоха…»

*1960–70-я*

«Быў час, быў век, была эпоха…» Геніяльны радок, які я ўзгадваю кожнага разу, гартаючы старыя гадавікі «ЛіМа» ці зазіраючы ў энцыкляпэдыі і даведнікі, прысьвечаныя беларускай савецкай культуры. Лепш пра той час і ня скажаш. Працягу гэты манумэнтальны радок не патрабуе. Слоўнага працягу. Памяць сама дамалюе карціну эпохі. Высокіх прэзыдыюмаў, поўных збораў твораў, службовых «Волгаў», пераходных чырвоных сьцягоў, нарачанскіх лецішчаў, кватэраў на Маркса і Купалы, аргвывадаў і прапрацовак, мясцкомаў і партактываў і, вядома, членства ў Саюзе пісьменьнікаў. Гледзячы на старыя фотапартрэты высокіх членаў гэтай магутнай арганізацыі, я заўжды лавіў сябе на думцы, што ня дай Бог застацца пасьля сьмерці вось такім непрыступна-эпахальным. І Броўка, і Крапіва, і шмат хто яшчэ выглядаюць на здымках помнікамі самім сабе. Але помнікі ня могуць жыць і сьмяяцца.

Мяне з маленства цікавіла закуліснае жыцьцё. Бо менавіта за кулісамі адбывалася самае цікавае, жывое і сьмешнае. І, шпацыруючы неяк пахмурным восеньскім вечарам па вуліцы Аляізы Пашкевіч, я пагрукаўся ў дзьверы паэта Валянціна Тараса. Бо ня ведаю ў Менску

лепшага апавядальніка пра тую эпоху. У вакне за сьцяной дажджу — шэраяаграмадзіна Вялікага тэатру, у маленькіх чарках гаючы брэндзі, гасьцінны гаспадар са смакам зацягваецца цыгарэтай.

— Быў фальклёр, вядома, літаратурны. Многія сьмешныя рэчы. Эпіграмы. Славіўся Астрэйка гэтым. Ну, напрыклад, у яго ёсьць на нябожчыка Броўку:

Пятрусь Броўка піша лоўка,
Піша спрытна і даўно,
Але ўсё, што піша Броўка,
Альбо дрэнь, альбо гаўно.

Валянцін Тарас усьміхаецца шматзначна:

— Яна дасьціпная, вядома, па радках. Але не зусім слушная. Броўка быў казённым паэтам, абсалютна. Але, калі мне давялося пазнаёміцца зь яго лірыкай, я ўбачыў, што гэта даволі цікавы паэт-лірык, які ўсё жыцьцё сьпяваў не сваім голасам. Ён яго фарсіраваў, уздымаў да нейкіх патасных вяршыняў. З Броўкам у мяне быў цікавы выпадак. Даволі сьмешны, але ён характарызуе яго як чалавека. Я тады працаваў у «Звяздзе». Толькі пачынаў працаваць. Галава ў мяне кружылася — столькі пісьменьнікаў прыходзіць. Славутых, вядомых. Усе са мной лічацца. І вось аднойчы мне даюць вершы Броўкі, каб падрыхтаваў. Паласу зь вершамі прыносяць. І рэдактар Нічыпар Пашкевіч мне кажа: «Вычытай, падпішы і аддай». Я пачаў

чытаць. Вершы мне вельмі не спадабаліся. Яны падаліся мне недзе нават і непісьменнымі. Я ўзяў аловак і пачаў правіць. Направіў там на палях. Пашкевіч так паглядзеў на гэтую паласу, пацісынуў плячыма. Кажа: «Бяры службовую машыну, едзь у Каралішчавічы да Броўкі. Хай ён завізуе гэтую паласу». Я прыехаў, сустрэліся. Броўка запрасіў мяне сесьці, узяў гэтую паласу. І кажа такім ціхім голасам: «Што гэта такое?» Я кажу: Як што? Гэта вашы вершы. «Не. Хто гэта тут накрэмзаў? Хто гэта тут направіў?» Я кажу: Гэта я, Пятро Ўсьцінавіч. Я хацеў зрабіць як лепш. Мне здаецца… Паглядзіце… Ён кажа: «Малады чалавек. Хто вам дазволіў дакранацца да маіх вершаў? Хто вам даў права іх правіць? Я наагул не разумею, хто вы такі, адкуль вы ўзяліся? Як вы маглі?!» Я кажу: Ну, Пятро Ўсьцінавіч, паглядзіце… «Вы, калі будзеце пісаць свае вершы, пішыце лепш. А мне дазвольце ўжо пісаць, — ледзь ня плача, — так, як я ўмею! Усё закрэсьліваю. Візаваць ня буду. Усё як было». Ну я ўжо трошкі сумеўся. Ён гэта ўсё пазакрэсьліваў, падпісаў. Да дзьвярэй мяне праводзіў, так прыабняў і кажа: «Слухайце, малады чалавек. Толькі рэдактару не расказвайце пра гэта. Бо вам дужа нагарыць. Бо я ўсё ж такі Броўка. А самі, як я ўжо сказаў, пішыце лепш за мяне. Дай вам Божа…». Я зь ім сустрэўся літаральна перад яго сьмерцю, можа за якія два месяцы. У парку Горкага. Ён ужо быў сухенькі такі скварчочак, старэнькі. Паздароўкаліся. І я яму кажу, што

выходзіць кніга пра кнігу, і што там ягоны верш у маім перакладзе. Ён сказаў: «Ну дзякуй. Але я спадзяюся, што вы хоць што-небудзь пакінулі там ад мяне самога…»

Праходзячы кожнага разу пад мэмарыяльнай дошкай Броўкі на тым доме, дзе сёньня ягоны музэй, я думаю, ці не пераважыве гэтая эпіграма ўсе ягоныя тамы? Зрэшты, за кулісамі эпохі ў расповедзе Валянціна Тараса зьяўляецца новы пэрсанаж…

— Андрэй Макаёнак умеў рабіць такія казачна-недарэчныя рэчы з такім сур'ёзным выглядам… Ні адзін мускул не здрыганецца на твары, толькі вочы сьмяюцца, але трэба прыглядзецца. А тады быў час, калі ўсіх апраналі ў форму — пракуратуру, міліцыю, суды, чыгуначнікаў, службоўцаў розных міністэрстваў — усіх літаральна апраналі ў форму. І Макаёнак пусьціў пагалоску, што — ён ужо гэта ведае дакладна, яму пад сакрэтам у ЦК сказалі, — што ўводзіцца форма для пісьменьнікаў, званьні. Праўда, паколькі гэта пісьменьнікі, званьня шарагоўца ня будзе. Будзе пачынацца адразу з малодшага лейтэнанта. Малодшы лейтэнант, лейтэнант, старэйшы лейтэнант, капітан, маёр, падпалкоўнік, палкоўнік і генэрал. Ну а там таксама, кажуць, будзе нейкая градацыя — поўны генэрал… Ну і нейкі мундур прыдумваецца, такі вось пад сурдут, як некалі хадзілі да рэвалюцыі. А на пагонах будуць скрыжаваныя

пёры. І што ўжо распрацоўваецца сьпіс, каму які… І што вы думаеце? Сур'ёзныя, дарослыя людзі клюнулі на гэта. І Кастусь Кірэенка пытаецца (я пры гэтым прысутнічаў): «А мне якое званьне?» Андрэй кажа: «Здаецца, капітан». — «А чаму капітан?» — «Ну ня ведаю, чаму». — «А ты хто?» — «Ну мне казалі, што я нібыта маёр». — «А чаму ты маёр, а я капітан?» І на поўным сур'ёзе пачалі абмяркоўваць, ці варта гэта наагул рабіць… І Макаёнак абсалютна сур'ёзна ўсё гэта… А тады Маўзон, ён быў прыяцелем Макаёнка, пытаецца: ну ладна, Андрэй, раскажы мне, а хто я буду? Андрэй на яго паглядзеў, кажа: «Табе наагул ніякага званьня не прысвояць. Табе проста памяняюць псэўданім. Ты будзеш не Аркадзь Маўзон, а Публій Авідзій Маўзон». І тут усе грохнулі, і зразумелі, што гэта жарт. Прыкол, як цяпер кажуць.

Вуліца Макаёнка — мой штодзённы краявід з вакна. Вежа БТ, задворкі кінастудыі, шэрыя новабудоўлі. Але, аказваецца, я жыву не на вуліцы флагмана савецкай драматургіі, а на вуліцы прыкаліста.

— Ён некалі надзеў маску. Такі нос гарбаты, бровы матлатыя, стаў падобны на нейкага грузіна. Прыйшоў у «Полымя» і кажа: «Мі тут, панімаішь, сабіраім Залатую энцыклапедыю такую. Залатой энцыклапедый! І самі лючшій із лючшіх паэтав будут пісат, іх будут перевадыт на грузінскій, і ганарар сумашедшій! Там

ешчё будэм кроме ганарар бочка віна харошій, панімаішь, будэм даставлят. Так мне нужен спісак самы лючші залатой пісатэл». Божа, што тут пачалося! Забегалі, нехта некаму кінуўся тэлефанаваць. І толькі, я помню, Рыгор Няхай прыгледзеўся і кажа: «А што ў вас з носам?» А нос чырвоны-чырвоны, гэта ж пап'е-машэ. І тут Макаёнак: «Как тэбэ нэ стідна! Ті, слюшай, ті нэ джігіт! Што ті на мой нос абрашяешь вніманій, панімаішь. У мэня іскуственый нос. Я настаяші пад Сталінградам патерял. Нэ палучішь бочка віна і тібя нэ будэм в энцыклапедый брат!» Ну і праз колькі там хвілін ён сам гэта ўсё зьняў і пачаўся рогат. Але некаторыя ну проста як дзеці. Купляліся на такія вось рэчы. А можа, пісьменьнікі і ёсьць дзеці. Дзякуй Богу.

Заходзячы ў рэдакцыю «Полымя», дзе нічога не зьмянілася з тых часоў, нават фарба, здаецца, тая ж самая, я не магу ўявіць, каб тыя сьцены скаланаліся ад рогату. А чаму — не зразумею. Мне заўжды хочацца там гаварыць напаўголасу. Як на хаўтурах…

— Мы апынуліся ў Кастанаі, — працягваў Валянцін Тарас, — а гэта недзе 1962 ці 1963 год. Вечар у пэдынстытуце. Тады гэта была такая глухамань. Там, можа, упершыню за якія сорак гадоў бачылі жывых пісьменьнікаў. Заля набілася паўнюткая, пад завязку. Ну, спачатку выступалі старэйшыя. Хораша віталі ўсіх. Але потым выйшаў Шкляроўскі. Ён выйшаў на сцэну ў

такім прыгожым швэдры, яркім такім, які яму Еўтушэнка падарыў, прывёз з Парыжу. І сказаў: «Вот я стою — счастливый и влюблённый, колоколами юбок оглушенный. Эй, девочки, айда в леса!» Ну, і заля… маладзёжная аўдыторыя, студэнткі… Божа! У перапынку цягнуліся да гэтага Шкляраўскага па аўтографы… Але самае галоўнае ня гэта, самае сьмешнае. Увечары гуляем мы па Кастанаі. Увязалася за намі настаўніца кастанайская, маладзенькая прыгожая жанчына. Памятаю яе імя — Ліка. Ну там да яе хлопцы кліны падбівалі, то Кісьлік, то яшчэ хто. Бачу, яна са Шкляраўскім ідзе. А я іду ззаду. І чую, Шкляраўскі ёй расказвае: «У мяне вельмі складаны і драматычны лёс. Ведаеце, я ж ня рускі. Я сын гішпанскіх рэспубліканцаў. Я гішпанец. У час вайны я скончыў спэцшколу і мяне закідвалі ў гішпанскія горы. У франкісцкую Гішпанію. Вось Навум Кісьлік чытаў на вечары верш „Ідуць герыльлерас“. Дык гэта мне прысьвечаны. Я быў гэтым герыльлера». І гэтая дзяўчына няшчасная, гэтая Ліка, абалдзелая ад таго, што зь ёй побач ідзе жывы паэт, і такі яркі паэт… Ён яшчэ і герыльлера! І ёй не прыходзіць у галаву, што ў тыя часы, калі Шкляраўскі быў герыльлера, яму споўнілася чатыры гадочкі…

За кулісамі ня мог не зьявіцца аўтар «Сэрца на далоні» і «Трывожнага шчасьця». Прызнаюся, я прасякнуўся вялікай сымпатыяй да Івана Пятровіча ня як да народнага пісьменьніка,

а як да чалавека, які не цураецца побытавых матэрыяў.

— Я таксама прывёз нейкі матэрыял зьвяздоўскі на візу Шамякіну. Сядзім, ён чытае, і раптам заходзіць яго жонка, нябожчыца Маша. Кажа: «Ваня, на хвіліначку». — «Ну што табе?» — «Ваня, там прадаюцца кітайскія коўдры, дужа прыгожыя». — «А колькі каштуе такая коўдра?» Яна называе нейкую суму. Я ня памятаю, па тых часах вельмі вялікую. «Ну што ты, звар'яцела? Такія грошы за коўдру плаціць». А тады яна ціхенька кажа: «А Брыліха купіла». Такая паўза… Шамякін кажа: «Н-н-ну добра. Ну можа адну і купім». І палез у шуфляду па грошы.

Як шкада, што трэба сыходзіць. Не злоўжываць гасьціннасьцю гаспадара. Бо геніяльнага актора хочацца слухаць бясконца. Парадныя фасады Менску ўжо не выглядаюць такімі строгімі і халоднымі. І рэч тут ня ў брэндзі. А ў жывой вясёлай эпосе, да якой яшчэ хочацца вярнуцца ня раз. Бо рукапісы, можа, і не гараць. А вось словы могуць забыцца.

*2002, кастрычнік*

# Стары Новы год у Каралішчавічах

У Каралішчавічы я вельмі хацеў патрапіць менавіта зімою. Сама назва колішняга Дому творчасьці пісьменьнікаў і расповеды бывалых там людзей — усё гэта міжволі асацыявалася з Новым годам. Каб падаў зь вечаровага неба сьнег, пакрываючы лясную дарогу. Каб дарога кружляла ў засьнежаным яловым лесе. Такім, як у старых кінафільмах-казках. Каб з-за маўклівай сьцяны гэтага прыгожага лесу паказаўся драўляны двухпавярховы асабняк на паляне, нібы палацык на навагодняй паштоўцы, ад асьветленых вокнаў якога патыхае цяплом і чаканьнем нечага абавязкова сьветлага й радаснага.

Ідэю ўзяць ды наведаць Каралішчавічы з радасьцю ўспрыняў паэт Рыгор Барадулін. Нам незвычайна пашанцавала з надвор'ем. Як на замову, неба раздобрылася шыкоўным сьвяточным сьнегам. І ў гэтым сьнезе мы доўга кружлялі вакол вёскі Каралішчавічы. Ніяк не знаходзілася тая дарога, па якой паэтам некалі было столькі ежджана-пераежджана на таксоўцы ў кампаніі з Караткевічам. На паказальніку мільганула назва «Апчак». Барадулін ажывіўся.

— Апчак быў недалёка ад Дому творчасьці. Нам заўсёды не хапала выпіўкі і трэба было бегчы ў Апчак па гарэлку. «Чак-чак-чак-чак,

хлопцы чэшуць у Апчак. Іх чакае ў Апчаку сем чакушак начаку».

Даехалі да Каралішчавічаў, дзе прадавачка растлумачыла, як даехаць да Дому пісьменьнікаў. У вёсцы да гэтае пары ўпэўненыя, што пісьменьнікі нікуды адсюль не зьяжджалі. Але старой дарогі няма. Яе накрыла сабою вялікая аўтастрада. Збочыўшы на яе з Магілёўскай трасы ў заходні бок, літаральна праз кілямэтар вы заўважыце паказальнік «Д.А. На ростанях». Трэба яшчэ крыху праехаць па лесе, і з-за дрэваў пакажацца стары драўляны дом. Нават калі вы вельмі сьпяшаецеся, нават калі вы нічога ня чулі пра гісторыю гэтага дому, усё адно вам абавязкова захочацца зрабіць тут невялікі прыпынак.

— Гісторыя гэтага дамка чыста савецкая… — сказаў Рыгор Барадулін. — Пасьля вайны быў старшыня савету міністраў Наталевіч. Гэта было яго паляўнічае лецішча. Тут зьбіраліся, рабіліся п’янкі савецкія пры ім. І Наталевіч любіў асабліва паляваць на зайцоў. Ён за ноч заганяў козьліка-машыну. Гэта ў той паваенны час, калі партызанам, якія ваявалі за савецкую ўладу, завесьці каня не было як. Для Наталевіча былі машыны, каб паляваць на зайцоў. Фарамі асьвятляюць, у фарах гоняць зайца, і пакуль заяц ня тропнецца. Ад разрыву сэрца. Мы яшчэ жартавалі: ён баіцца закасіць лінію генэральную, заяц. Ну вось, дарэчы, пройдзем далей.

Барадулін спыніўся насупраць будынку і заўсьміхаўся. Якіх толькі цікавых пісьменьнікаў тут не бывала. Цікавых не сваімі кнігамі.

— Тут быў заўсёднікам такі рускамоўны пісьменьнік Юры Багушэвіч, які напісаў раман «Дерево дружбы». Пра Карэю. У ягоных успамінах уся Вялікая айчынная вайна — гэта жанчыны і праблема дастаць гарэлку. Памятаю ягоныя расказы пра Германію: «Сядзіць Эльза, нага за нагу, на кончыку нагі боўтаецца тапачак, а сьпіна дэкальтаваная й напудраная. І тут урываецца муж! Немец-эсэсавец!» Вось такі ваенны страх! А пасьля распавядаў пра цяжкія франтавыя будні. «Колька, Пецька, Ванька і я — ты разумееш, якая цяжкая ваенная абстаноўка — адна паўлітра на ўсіх. І тады прыйшла ідэя. Мы ўзялі дзьве буханкі хлеба, пакрышылі ў гарэлку, стала адразу нармальна». Багушэвіч жыў у вялікім пакоі і на ноч хадзіў да жанчын. У яго былі цэлыя тунэлі ў гурбах прарobленыя на хутары. А мы з Валодзем Караткевічам што зрабілі… Тут два сабакі было. Джэры й Дазор («Сук Дазор і сучка Джэры жралі сок і суп з фужэра»). Мы прывучылі Джэры спаць, паколькі на ноч Багушэвіч зьнікаў, на падушцы й накрывалі коўдрай. І яна спала там у Багушэвіча… А Багушэвіч прывёз стос вялізны паперы й за два месяцы напісаў… Першая фраза: «Дзядзюшка Хо выйшаў із фанзы». Два месяцы ён прабыў, пасьля склаў рукапіс і так і паехаў. Ну, мы з

Караткевічам паправілі, што «Дзядзюшка Ху выйшаў із фанзы»…

За домам старыя дрэвы высякаюць. На бязладнай пустцы ўзводзяць шматпавярховыя карпусы дому адпачынку. Адзіным напамінам пра былое глядзіцца асуджаны на знос драўляны аднапавярховы будынак колішняй сталоўкі.

— Вось мы зараз ідзем дарожкай, якая вядзе на кухню. Вось тут во зьлева была абнесена сасна ланцужкамі і напісана «Тут любіў адпачываць Народны пісьменьнік БССР Якуб Колас». І заўсёды Валодзя Караткевіч, гледзячы на гэта, успамінаў, як ва Ўкраіне недзе было — таксама абнесены ланцугамі дуб, мэталёвая шыльда й на шыльдзе напісана, што пад тым дубам Тарас Шаўчэнка напісаў сваю слынную паэму «Варнак». І нехта зь веселуноў узяў і прыбіў шыльдачку з другога боку: «Пад гэтым дубам Тарас Шаўчэнка ў п’яным стане еў жолуд».

Калісьці на месцы гэтае пусткі расьлі сосны і стаялі драўляныя катэджы. Для найвышэйшага кіраўніцтва Саюзу пісьменьнікаў.

— У дамках адпачывалі Колас, Броўка, Глебка, Куляшоў. Ну, пасьля ім быў дазвол пабудаваць свае лецішчы, і тут яны мала былі. Восеньню тут часта працаваў Пімен Панчанка. Тут ён пісаў «Крык сойкі». Паэт Вялюгін называў тую паэму «Крык Зойкі». Жонка Панчанкі — Зоя Канстанцінаўна. Помню яшчэ, прыехала такая дама зь Берасьця зьбіраць

вершы пра Брэсцкую крэпасьць. А выдавец быў Мікола Татур з «Полымя». Дык мы зь Вялюгіным такі экспромт зрабілі:

Яшчэ ня згаслы кратэр
Штурмуючы ў пасьцелі,
Загінуў Коля Татур
На брэсцкай цыцадэлі…

Я з асалодаю глытаў зімовае лясное паветра, слухаючы расповеды пра пераважна незнаёмых мне людзей. Нават крыху зайздросьціў ім. У часы, калі беларушчыну труцілі камунізмамі ды сацрэалізмамі, калі мова амаль пакінула сталіцу, калі не было ўжо моцы трываць усе гэтыя партактывы ды аргвывады, знаходзілася месца, куды можна было зьбегчы ад усяго гэтага хоць на тыдзень. У спрадвечным беларускім лесе пра камунізм ніяк ня думаецца. А тым больш ня пішацца. Для Барадуліна Каралішчавічы найперш зьвязаныя з Уладзімерам Караткевічам. Тут яны ўпершыню пазнаёміліся ў 1955 годзе. На нарадзе маладых пісьменьнікаў. Тут пісаўся адзін з самых знакамітых Караткевічавых раманаў. І тут назаўжды мог быць страчаны сцэнар фільма паводле таго раману.

— Валодзя ў флігельку гэтым сядзіць, к яму прыяжджае Анатоль Забалоцкі. Апэратар, які «Каліну чырвоную» з Шукшыным рабіў. Ён з сыбірскіх беларусаў, найцікавейшы чалавек быў. Яго выжылі, як заўсёды ў нас, нармальных людзей тады выжывалі з кінастудыі. Я выходжу

раніцай з сабакамі. Якраз сьнег вось такі ішоў, густы-густы. Гляджу, Джэры пачынае нешта капáць. А раптам гляджу — рукапіс! Знаёмы почырк. Почырк Караткевіча! Аказваецца, Караткевіч сцэнарны плян і большую частку сцэнару «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» аддаў Забалоцкаму, каб ён занёс машыністцы. А Забалоцкі, паколькі добра ўзяў, упаў і рукапіс згубіў. Рукапіс прапаў бы.

Далібог, сюжэт для помніка сабаку Джэры, які выратаваў рукапіс «Эвангельля ад Юды».

— Мы з Валодзем, узяўшы чарку, сьпявалі:

Кожны дзень мы п’ём літроўку
За здароўе Пеці Броўкі.
За здароўе Броўкі Пеці
Мы прап’ём усё на сьвеце.
За здароўе Петруся
Вып’ю літр і вытруся.
За здароўе Ткачова Колі
Мы не адмовімся ніколі.
За здароўе М. Ткачова
Будзем піць мы хоць з начовак.
За здароўе Фані Алер
Мы прап’ём і гэлд, і талент.
За здароўе Алер Фані
Мы ў літфондзе ракам станем.
За здароўе Куляшовай
Вып’ем, толькі не дзяшовай.
За здароўе яе мужа
Вып’ем, хлопцы, але ня дужа.
Бо яму-такі падкакаў
Гэны самы Нэйфах Якаў.

За здароўе Шамякіна
Мы яшчэ паўлітра ўкінем.
За здароўе Шамякіна Йвана
Вып'ем, хлопцы, толькі таннай…

Фаня Алер была дырэктарам Літфонду. Ткачоў Мікола быў сакратаром Саюзу пісьменнікаў. Ну Куляшова Аксана Фёдараўна, прыгажуня, была жонка Аркадзя Куляшова. Ну а Куляшоў — гэта вядома хто.

Я шкадаваў, што ня маю з сабою відэакамэры. Было адчуваньне, што такога лесу, такіх прысадаў і такога дому я ўжо не пабачу. І рэч тут не ў надвор'і. А ў тым, невядома кім на гэтай зямлі заведзеным правіле, агучаным Лявонам Вольскім: «Лепей ня будзе, будзе толькі горш». Паглядзець бы на таго дзівака, што захоча адпачыць на гэтым «касмадроме».

— Тут цяпер ужо ўтульнасьці той няма. Ёсьць наступ нейкіх незразумелых цагляных будынін. А вось тады была ўтульнасьць. Калі гасла сьвятло, неяк са сьвечкамі нават сядзелі. Памятаю, тут маё трыццацігодзьдзе адзначалі. Мама спазьнілася, зноў зблыталі дарогу. Мама з жонкай Валяй павінны былі падвезьці бражку. Ну, як і мы, паблыталі дарогу. У тыя Караліншчавічы павёз іх таксіст. Пасьля было, безумоўна, вялікае застольле. І вось мама мая выходзіць. А тут на ганку мастак Барыс Забораў перагнуў жонку высокапастаўленага паэта. Як убачылі маму, адскочылі. Мама ім гаворыць: «Цалуй-

цеся, цалуйцеся. Я не перашкоджу. У мяне добрае вока, я не сурочу». Тут многа было такога вясёлага, цікавага. І тут працавалася нармальна. Дарэчы, вы мяне вярнулі ў маладосьць.

Увайсьці ў сярэдзіну дому Барадулін катэгарычна адмовіўся. Я ўвайшоў адзін. Прасторнае, цёмнае фае, драўляная лесьвіца запрашала на другі паверх. У інтэр'еры ўсё сьведчыла пра сярэдзіну мінулага стагодзьдзя. Як быццам героі тых расповедаў, якія я хвіліну таму чуў ад дзядзькі Рыгора, на нейкі час пакінулі свае апартамэнты. Цішыня й цемра нараджалі вусьціш. Зданям ды прывідам толькі й жыць вось у такіх дамках. Раптам за сьцяною прагучаў такі крык, што я скалануўся. За дзьвярыма з шыльдаю «Директор» непрыемны старэчы голас ледзьве ня матам кагосьці расьпякаў у тэлефон за нейкія «кирпичи и битум». Я асьцярожна, бяз шуму пакінуў дом. Дом, дзе ў мінулым стагодзьдзі быў напісаны й ледзь ня быў згублены сцэнар «Хрыста». З палёгкаю зачыніўшы дзьверы, я быццам толькі ў гэты момант па-сапраўднаму адчуў, што яно скончылася, XX стагодзьдзе. Хоць зь неба валіў сьнег, народжаны па-над Атлянтыкай, магчыма, яшчэ ў сьнежні. Апошні сьнег дваццатага стагодзьдзя заваліў машыну, каля якой мяне чакаў крыху спахмурнелы паэт.

*2001, студзень*

## Хто, дзе й калі закончыў «школу наадварот»

*Сьвятлана Алексіевіч, Капаткевічы, 1965*

Нобэлеўская прэмія ў літаратуры валодае магіяй чароўнай палачкі. Асабліва што да мясьцінаў, дзе гадавалася і расла ляўрэатка. Якімі б звычайнымі і нецікавымі яны ні былі яшчэ ўчора, пасьля дакрананьня чароўнай нобэлеўскай палачкі — робяцца знакамітымі і прывабнымі.

Дарога сярод вымерлых палескіх вёсак становіцца іншай. Бо гэта Яе дарога. Не сумняваюся, што калі-небудзь у Капаткевічы і Івашкавічы паедуць літаратурныя турысты. Раю са сталіцы ехаць праз Любань і Навасёлкі. Гэта і карацей, і даведаесься больш. А ў Навасёлках вас чакае сапраўднае адкрыцьцё. Можа быць, найлепшы помнік партызанам у Беларусі. Прынамсі, мяне гэты помнік проста агаломшыў. Я спыніўся і стаяў каля яго чвэрць гадзіны. Манумэнт уяўляе сабой тры агромністыя чалавечыя постаці. Кожная вышынёй з трохпавярховы дом. Бэтонныя волаты не стаяць статычна, а выяўленыя ў дынаміцы. Тры гіганты з суворымі тварамі выходзяць зь лесу на вялікую дарогу.

І звычайная школа ў Капаткевічах, якую скончыла ў 1965 годзе Сьвятлана Алексіевіч, таксама дзякуючы чароўнаму Нобэлю перастае быць проста звычайнай школай. Беларускую мову Сьвятлане Алексіевіч выкладала Аляксандра Антанішына. Старая жанчына з пранізьлівым, уладарным позіркам. У размове са мною настаўніца на беларускую мову не перайшла. Бо мы ж не на ўроку. Кнігі сваёй былой вучаніцы яна чытала крытычна:

— Яна апісвала найгоршыя эпізоды. Выбірала такіх людзей, хто перажыў многа. Аб партызанах адгукалася вельмі кепска. Гэта няправільна. Партызаны таксама былі людзі харошыя. У вайну нашы Капаткевічы спалілі. Дык партызаны апрацоўвалі агароды. А тое, што адзежу зьдзіралі… Дык людзі ж самі не давалі. Прыйдуць немцы, дык ім ад страху давалі ўсё. А партызану нічога не дадуць. Што ім заставалася рабіць? Трэба было рабаваць! Партызаны многа зрабілі харошага. Праўда, праз іх людзей палілі. Але што зробіш? Гэта вайна.

Я ціхенька сядзеў перад настаўніцай сталінскага гарту і нават ня думаў пярэчыць. Такія настаўніцы не прымаюць ніякіх пярэчаньняў. Уяўляю тыя ўрокі беларускай літаратуры. Урокі 1960-х. Без Караткевіча і Стральцова. Без Барадуліна і Адамчыка. Бяз Быкава і Адамовіча. Бо яны зьяяцца ў школьнай праграме пазьней. А вось што было. І што не магло не адбіцца ў памяці юнай Сьветы Алексіевіч.

— Да яе ніяк не даходзіла, што такое «вобраз народу». Вобраз асобнага героя — гэта яна разумела. А агульны вобраз не даходзіў да яе. Гэта ж адзін народ. Рускі і беларускі. Усе так лічаць. Быў адзін і застаўся адзін.

Вочы старой ўсё больш запальваліся нядобрым бляскам. Сухі кулачок тросься ўсё больш пагрозьліва.

— Я зьдзіўляюся, як яна атрымала Нобэлеўскую прэмію. За тое, што плявузгала на Савецкі Саюз! Выбірала найгоршае! Чаму яна харошае не выбірала? Хай бы яна і тое, і другое апісвала. Навошта самае горшае?

Алексіевічы жылі ў Івашкавічах. Адтуль Сьвятлана хадзіла ў школу зь сяброўкаю, Надзеяй Шут. Надзея ўсё жыцьцё прарабіла сельскай бібліятэкаркай. І ўсё жыцьцё прапагандавала творчасьць сваёй сяброўкі. У юнацтве сяброўкі ўдзельнічалі ў самадзейнасьці і нават сьпявалі песьні Сьвятланы Алексіевіч. Можа, Быкаў вершаў і не пісаў, але ад Сьвятланы Алексіевіч засталася паэтычная спадчына. Дзякуй памяці Надзеі Шут.

Поднимался, опускался над рекой туман.
Целый вечер заливался за рекой баян.
Смех звенел на всю округу, пели голоса
Про девчонку и про друга. Было не до сна.
Улыбнись, подруга, другу. Он передовик!
«Пятилетку раньше срока!» — вот его девиз.
Поднимался, опускался, всё закрыл туман.
Целый вечер заливался за рекой баян.

Калгасныя кіраўнікі пабудавалі ў Івашкавічах аграсядзібу. Называецца «Матчына хата». Дамкі ў той сядзібе зробленыя са зрубаў хат, у якіх ніхто ўжо не жыве. Але дом, дзе жыла сям'я Алексіевічаў, калгасныя ўлады разбурылі і закапалі. І яго ўжо не ўваскрэсіць ніякая чароўная палачка.

У мястэчку Асавец, дзе Алексіевічы жылі пасьля Івашкавічаў, таксама не засталося нічога памятнага — ні дому, ні школы, дзе пісьменьніца выкладала ў свой першы працоўны год. Мяне гэта ніколькі не засмуціла. Я нават знаходжу ўмяшаньне чароўнай сілы, якая адгароджвае турыстаў ад тутэйшых настаўніц беларускай мовы. Пагаворыш гадзіну і станеш расейскамоўным антысаветчыкам.

Былая дырэктарка Асавецкай школы — «беларусістка» Галіна Крысько, кабетка нізенькая, але гарластая. Навіну пра беларускага Нобэля яна ўспрыняла бяз радасьці. На Алексіевіч у яе даўняя крыўда.

— Як яна з Народным фронтам зьвязалася, так і ня езьдзіць да нас. З Быкавым, я знаю, зьвязалася. Быкава я паважаю як пісьменьніка. Але яго паводзіны! Адмоўныя! Як можна пайсьці пісьменьніку ў Народны фронт?! Як можна супраць народу свайго выступаць?

Бедны Быкаў. Атрымаў бы за «паводзіны» ад Галіны Рыгораўны двойку. Але ж былі залатыя часы ў асавецкай школе!

— Мы зрабілі першы ў раёне музэй Леніна! У нас быў зроблены шалаш. І Ленін быў зроблены. Сядзеў на пяньку і пісаў. Як у вялікім музэі. І маўзалей быў зроблены! Леніна выразалі з дрэва. На пяньку сядзеў. У адзеньні. Усё як трэба.

Шкада, што асавецкі філіял музэю мадам Цюсо разбураны. Зрэшты, і Нобэлеўскую прэмію далі «не па адрасе». Якой пісьменьніцай магла б быць сама Галіна Крысько! Калі б ня гэты маўзалей.

— «У вайны не жаночы твар» цяжка чытаецца. У яе няма ідэі нейкай. Праз кожныя пяць лістоў новы расказчык. Дык я таксама так пісала! Сяду, аформлю, і будзе тая самая кніга!

Васіль Марціновіч, колішні настаўнік працы, той самы «тата Карла», які з палена выразаў Леніна, бачыць сакрэт Нобэля Алексіевіч у яе душэўным сяброўстве зь Зянонам Пазьняком.

— Няхай на здароўе атрымлівае. Яна ж працавала для гэтага. Калі б яна ня зьехала ў Францыю, то не далі б ёй. Ёсьць жа і разумнейшыя. Але так яна нас клявала! Расію і Беларусію. Яна ж з гэтым Пазьняком увесь час. Яны бэнээфаўцы.

Блукаючы па дамах асавецкай інтэлігенцыі, я ўсё больш адчуваў сябе ці то Чычыкавым, ці то добраахвотным псыхатэрапэўтам. Былая настаўніца гісторыі Галіна Кісель — жанчына са сьлядамі няпростага лёсу на твары. Глыбокія зморшчыны, пракураны голас, крыху гульлівы

позірк. Гістарычка назвала мне сваю прычыну, зь якой Алексіевіч далі Нобэля. Гэта жыдамасонская змова! Выкладаньне савецкай гісторыі не прайшло дарэмна.

— Я з гэтай сям'ёй вельмі сябравала. Бацька вельмі харошы. Але высьветлілася аднойчы, што яны ўсё-ткі яўрэі! А я яўрэяў не ўважаю. Што яны робяць у сьвеце! Царскія ўлады не падпускалі яўрэяў блізка да Масквы і Піцера. Вось чаму іх так многа на ўскраінах. Асабліва ў Беларусіі. Чаму цяпер усе расійскія алігархі яўрэі? Як і ў Штатах!

Дык як жа адкрылася «таямніца яўрэйства» Сьвятланы Алексіевіч? Аказваецца, прыехаў з Мазыра школьны інспэктар. І пачуў, як Алексіевіч-старэйшая выкладала асавецкім дзеткам замест нямецкай мовы ідыш. Якімі паліглётамі былі ранейшыя інспэктары!

— Быў Зяленін, інспэктар. Ён сам з Новасібірску. Ён не стрымаўся пасьля яе ўроку. Ішоў і крычаў: «Як вы сьмееце на яўрэйскай мове выкладаць!»

Алексіевіч называе героя сваёй апошняй кнігі «чырвоным чалавекам». Гэтаму асавецкаму чалавеку падабраць колер ня проста. Тут і чорная зайздрасьць, і барва таннага віна, і шэрасьць даўно ня мытых вокнаў у інтэр'еры:

— Са Сьветай я паддружвала. У нас розьніца невялікая ва ўзросьце. Але мне асабіста яе кнігі не падабаюцца. Не маё. Ня наша! Цяпер Нобэлеўскую прэмію выдаюць Штаты. Сваім

сябрам. За што Гарбачову далі? За тое, што Саюз разваліў. За што Абаму далі? За тое і Алексіевіч далі. Каб брахала на нас. Як можна не любіць Радзіму? Яна ганьбіць нас.

Таемная жыдоўка, якая, пасябраваўшы зь Зянонам Пазьняком, зьвязалася з Васілём Быкавым, каб уступіць у Народны фронт дзеля атрыманьня Нобэлеўскай прэміі з рук Барака Абамы за тое, што «плявузгае» на Лукашэнку. Пасьля ўсяго пачутага на радзіме гераіні мне вельмі хацелася адсюль як мага хутчэй зьбегчы. Бо сам ужо стаў непакоіцца за сваё псыхічнае здароўе.

Каб спытацца карацейшага шляху, я зайшоў у машынна-трактарны парк мясцовага СВК. Дзе курылі трактарысты і мэханікі. Мужыкі, калі даведаліся прычыну майго візыту, заўсьміхаліся. Памятаюць і бацьку пісьменьніцы, ваенрука, і маці, якая выкладала нямецкую мову. А яшчэ мужыкі чыталі «Цынкавых хлопчыкаў» і «Ў вайны не жаночае аблічча». І за сваю зямлячку вельмі радыя. А пра Нобэля даведаліся зь «Белсату», які рэгулярна глядзяць. Напэўна, гэтыя людзі вельмі кепска вучыліся ў тых настаўніц, зь якімі я размаўляў. Пакуль я курыў з мужыкамі, яны нязмушана вярнулі мяне ў стан адэкватнасьці. А заадно паказалі, што чырвоны чалавек ня вечны.

*2015, сьнежань*







Так выглядаў паб «Swan» яшчэ некалькі гадоў таму. Яго сьцены памятаюць беларускіх паўстанцаў. С. 48–49.
Здымкі з сайту pubshistory.com





Мікола Ганчарык усё жыцьцё шкадуе пра зьніклыя дакумэнты Дунін-Марцінкевіча. С. 41

Для Надзеі Левандоўскай Паўлінка зусім не літаратурны пэрсанаж. С. 62, 66



Алесь Юркойць адкрыў музэй Казімера Сваяка, арганізаваў пленэр скульптараў, паставіў помнік паўстанцам Каліноўскага, арганізаваў правоз празь мяжу каменя на магілу Васіля Быкава. Але ніколі не «сьвяціўшы» сваё імя. С. 68, 71, 74, 75, 104.
Здымак Дзяніса Раманюка





Клюшчанскі касьцёл Сьвятога Яўхіма пераўжыў тры паўстаньні, Напалеонаўскую і дзьве ўсясьветныя вайны. Але ня выстаяў у самыя «стабільныя» часы. С. 71, 75

У старога Міхала Шнэйдэра ясны, пранізьлівы позірк чалавека, які бяз ганьбы можа глядзець у сваё мінулае. С. 78, 79





Дом у Макашах, дзе нарадзіўся Ўладзімер Жылка. С. 83–88

Даваенны Дом творчасьці пісьменьнікаў. С. 94–104






Самае незвычайнае надмагільле на Грозаўскіх могілках. С. 105

Ганна Гадзецкая памятае Алену Кіш як «бедную каўрыху».
С. 106, 108





На вачах Зінаіды Дубовік нараджаўся рай. С. 108

Для Зоі Пуставалавай дыванкі з раем з маленства былі шэдэўрамі. С. 109





Рэгіна Віршута памятае, як ствараўся яе з бабуляй партрэт. С. 113

Яўген Драбовіч ведае прыпеўкі Пётры Сергіевіча. С. 115





Для Дануты Касач мастак Сергіевіч застаўся вясёлым дзядзькам. С. 116

Так выглядае сёньня былы Дом творчасьці ў Каралішчавічах. С. 126





Самы вялікі і страшны помнік савецкім партызанам. С. 134

Аляксандра Антанішына: Да яе не даходзіў «вобраз народу». С. 135–136





Надзея Шут: Мы любілі яе песьні. С. 136

Галіна Крысько: Як з Народным фронтам зьвязалася, так і ня езьдзіць да нас. С. 137





Васіль Марціновіч: Яна з Пазьняком увесь час. С. 138

Кісель Галіна: Ёй прэмію далі за тое, за што і Абаму! С. 140

# Пад’езд старых кавалераў

У Лёндане ёсьць Baker Street, вуліца, знакамітая на ўвесь сьвет сваім домам 221B, «дзе кватараваў Шэрлак Холмс». У Маскве на Бальшой Садовай, у доме 14/1, у кватэры № 50 «жыў Воланд». У Вэроне на Via Cappello, 23 можна пастаяць пад «бальконам Джульеты»… Турысты перш-наперш сьпяшаюцца наведаць гэтыя адрасы вядомых літаратурных пэрсанажаў.

Але адкуль такое імкненьне ў мясьціны прыдуманых падзеяў? Можа быць, гэта дзіцячая прага насамрэч патрапіць у прачытаную некалі казку? Як бы там ні было, літаратурны міт заўжды цікавейшы за рэальнасьць. Ёсьць такі адрас і ў Менску.

У 1979 годзе часопіс «Маладосць» пачынае друкаваць псыхалягічна-дэтэктыўны раман Уладзімера Караткевіча «Чорны замак Альшанскі». За некалькі гадоў раман становіцца бэстсэлерам, вытрымлівае некалькі выдань-

няў у арыгінале і ў перакладзе на расейскую мову. У інтэлігенцкіх дамах кніга Караткевіча займае пачэснае месца побач з тамамі Дзюма, Конана Дойля і Булгакава. У 1984-м раман экранізуецца, што спрыяе яшчэ большаму камэрцыйнаму посьпеху. Агульны наклад «Чорнага замку» набліжаецца да мільёна асобнікаў — выпадак для беларускай бэлетрыстыкі беспрэцэдэнтны. І хоць большая частка накладу перакладная, мне прыгадваецца фраза тых часоў: «Короткевича нужно читать только в оригинале».

«Чорны замак» я перачытваў, нібы правяраючы, наколькі можа раман зь мінулае эпохі захапіць мяне сёньняшняга. І хоць пэўныя патасныя фрагмэнты твору нельга ўспрымаць без папраўкі на час стварэньня кнігі, «Замак» і сёньня захоплівае. І бліскучай інтрыгай, і гатычным антуражам, і спалучэньнем розных часоў. Спалучэньнем ня «змрочнага сярэднявечча» са «сьветлым савецкім сёньня», а таемнае мінуўшчыны зь ня менш таямнічаю цяпершчынай. Прычым Караткевічаў «наш час» зусім не ўспрымаецца канкрэтнымі сямідзясятымі гадамі XX стагодзьдзя. Ягоныя героі маюць несавецкія імёны: Мар’ян Пташынскі, Герард Пахольчык, Адам Хілінскі. Ці, напрыклад, Вітаўт-Ксавэры-Інэзыльля-Хасэ-Марыя Шапо-Калавур-Лыганоўскі. І зьвяртаюцца яны адзін да аднаго не інакш, як «пане мой вялебны». Ніякіх «дарагіх таварышаў». Быццам

аўтар прадчуваў, што неўзабаве ім месца ня знойдзецца.

Калі я чытаў раман, мне ўвесь час хацелася наведаць тое месца, дзе жыў галоўны герой Антон Косьміч і дзе адбывалася частка тых неверагодных падзеяў. Маю на ўвазе «Пад’езд кавалераў». Памятаеце?

*«У маім доме пяць паверхаў і чатыры пад’езды. Мой пад’езд трэці. Завуць яго „пад’ездам старых кавалераў“ нездарма. Па нявыказанай іроніі лёсу ўсе мужыкі ў ім (пра незамужніх дзяўчат не кажу) або нежанатыя, або ўдаўцы, або… Але гэта сумная гісторыя…»*

Я быў далёкі ад думкі атаясамліваць Альшанскі замак з Гальшанамі. Але аўтар не пакідаў шанцаў на сумневы ў існаваньні менскага дому. Месца дзеяньня было апісанае як з тапаграфічнай, так і зь лірычнай дакладнасьцю.

*«Раніцай мяне разбудзіў залівісты крык пеўня, а пасьля адчайнадушнае, надрывістае кувіканьне парасяці: відаць, несьлі ў мяху. Як на вёсцы. І кожную нядзелю мне вось так прыемна. І гэта адна з прычын, чаму я люблю сваю хату. Прыемна гэта казаць: мая хата, мой пад’езд, мой двор… Немагчыма ўседзець на месцы кожную нядзелю, калі цераз тракт ад майго дому адкрываецца рынак худобы: коні, каровы, сьвіньні, залатыя рыбкі, авечкі, галубы, трусы, лясное зьвяр’ё, птушкі, сабакі і ўсё жывое. Да таго як агарадзілі квартал — дзядзькі з вазамі стаялі сабе на тратуарах, а здаравушчыя мацёры,*

*адваліўшы саскі, ляжалі, мілыя, на газоне. Харошы куток! Шкада, што рынак куды-небудзь перанясуць. І, галоўнае, за два крокі ад „вёскі“, ад таго куточка, занесенага на брук, вулачка, далей бульвар і шумны вялікі горад».*

Чытаючы Караткевічавы дзёньнікі, я зрабіў для сябе «адкрыцьцё»: нумары кватэры Антона Косьміча і кватэры Ўладзімера Караткевіча каля «Птушынага рынку» супадаюць. Праз пару гадзінаў пасьля гэтага я стаяў каля дому № 48 на вуліцы Веры Харужай у Менску.

Пасярод двара я з прыемнасьцю адкрывальніка аглядаў гэтую жывую і даўно знаёмую мне з кнігі дэкарацыю.

*«Звычайны новы двор з маладымі дрэўцамі, лавачкамі, газонамі, выбітымі на бубен футбольным мячом. Толькі што ў двары засталося ад зьнесеных хат ускраіны — двухпавярховы дамок, дуб, зарасьці ясеню, пара груш ды некалькі асуджаных яблынь і вішань».*

Зрэшты, двор — адзінае, што супадала з кнігай. Захаваўся нават той двухпавярховы дамок. Пафарбаваны цёмна-чырвонай фарбай, ён адразу прыцягваў увагу. На фоне хрушчовак, абкладзеных бляклай пліткай, гэты дом выглядаў як помнік даўніны. Пад'езд жа «кавалераў», у якім калісьці жыў пісьменьнік, быў ня трэці, а другі. Бо на пляцоўках «хрушчоўскіх» дамоў не магло быць па дзьве кватэры, як у рамане. Аўтар і тут «ушляхотніў» савецкае жытло. Праз што блыталася ўся выбудаваная сыстэма

разьмяшчэньня герояў. Я стаяў на другім паверсе надзвычай чыстага пад'езду перад 26-й кватэрай з новымі дзьвярыма і не адважваўся пазваніць. Паўзь мяне прабег інтэлігентнага выгляду мужчына. Прабачце, — гукнуў я яго. — «Пардон, очень спешу». Я пазваніў. Званок не працаваў. Я пагрукаў. Ніякага адказу. Напэўна, гаспадароў няма дома, — зрабіў я выснову.

Ну павінны ж жыхары такога пад'езду нешта ведаць ці адчуваць. Я йзноў выйшаў на двор, дзе абмяняўся параю фразаў з прыгожай маладой кабетай, што ўваходзіла ў дом. Даруйце, — сказаў я, — вам імя Ўладзімер Караткевіч штонебудзь гаворыць? — «Короткевич? Писатель, да? Говорят, он живет в доме, где гастроном». — Жыве? — перапытаў я. — «Ну да. Я так слышала». — А што вы скажаце наконт 26-й кватэры? — «Ой, я сама тут недавно. Но 26-я продавалась уже раз десять. Наверное, и сейчас переходит из рук в руки». Даведаўшыся ад мяне, што ў ёй жыў Караткевіч, кабета, падумаўшы, спытала: «Так что, мы, выходит, живем в легендарном доме?» — Выходзіць, — адказаў я.

Мае далейшыя блуканьні па пад'езьдзе ўсё больш пераконвалі мяне ў тым, што ня варта блытаць літаратуру з рэальнасьцю. Караткевіча тут, безумоўна, памяталі. Як шумнага п'яніцу. Старая настаўніца з чацьвертага паверху паскардзілася мне на пісьменьніка за тое, што той, п'яны, пераблытаў паверхі і вельмі яе напалохаў сярод ночы, ломячыся ў яе ціхае гняздо.

Крыўда бабулі была настолькі натуральнай, быццам інцыдэнт адбыўся ня тры дзясяткі гадоў, а пару дзён таму.

Пабыўшы ў ролі ўчастковага міліцыянта, я падняўся на пяты паверх. Пажылы інжынэр паведаміў мне, як ён шкадуе, што ўвесь час адмаўляў Караткевічу скласьці кампанію за пляшкаю гарэлкі. «Я ведь к водке отношусь строго отрицательно, — сказаў ён, — а сейчас было бы что вспомнить. И даже, может быть, рассказать что-нибудь вам».

Вядома, ні старыя кавалеры, ні высакародныя псыхіятры, ні адстаўныя шпіёны ў гэтым пад'езьдзе ніколі не жылі. І, што самае для мяне дзіўнае, «Чорнага замку» з апытаных мною жыхароў ніхто не чытаў…

Ну навошта было рамантызаваць гэтыя няўдзячныя «хрушчобы», наракаў я на аўтара. Ну, чаму ён не стварыў свой «пад'езд кавалераў» дзе-небудзь на няіснай сёньня Нямізе?

Я выйшаў на вуліцу ды пайшоў на асфальтавую пустку, на месцы якой некалі шумеў Старажоўскі рынак. Вокны Косьміча па-ранейшаму заставаліся цёмнымі. Закурыўшы, я разгарнуў кнігу і ў канцы раману натрапіў на адзін цікавы абзац. Якімі ж па-дзіцячаму недарэчнымі выглядалі мае нараканьні на няспраўджаны міт!

*«Вось і скончыліся мае пошукі, а ўсё адно застаецца адчуваньне нейкай незавершанасьці, нібы скончыў алфавіт недзе на трох ягоных чвэрцях. І ўспомніўся герой нейкага твору,*

*пакаёвы інтэлігент, які цэлы дзень хадзіў па кватэры і абураўся, што вось недзе кошкі нагадзілі, а ён аніяк ня можа разабрацца дзе. І толькі вечарам высьніў, што гэта зусім ня кошкі ў кватэры напаскудзілі, а гэта на вуліцы ліпы расьцьвілі».*

«Наш час» гэтага раману, які шмат хто ўжо пасьпеў залічыць у састарэлыя, насамрэч наперадзе. Яшчэ ня раз памяняюцца жыхары ў гэтым доме. Яшчэ ня раз дзякуючы Караткевічаваму міту нехта іншы па-новаму зірне на такі, здавалася, нецікавы гарадзкі краявід. І яшчэ ня раз, праяжджаючы паўз гэты квартал, я скажу свайму спадарожніку: а ці ведаеш, пане мой вялебны, што гэта за дом?

*1999, жнівень*

# Груша над дняпроўскаю стромаю

*«Груша цьвіла апошні год. Усе галіны яе, усе вялікія расохі, да апошняга пруціка, былі ўсыпаны бурным бела-ружовым цьветам… І была яна такая магутная і сьвежая, так утрапёна спрачаліся ў яе ружовым раі пчолы, што, здавалася, ня будзе ёй зводу і ня будзе канца. І, аднак, надышла яе апошняя часіна. Дняпро падбіраўся да яе спакваля, патроху, як разбойнік. У вечным сваім імкненьні скрышыць правы бераг, ён падступаў у палавень зусім блізка да яго, руйнаваў адхоны… Потым адступаў, да наступнай вясны, і трава літасьціва сьпяшалася залячыць раны, нанесеныя Дняпром. А ён вяртаўся зноў: дзе руйнаваў, дзе падмываў і з часам абкружыў грушу амаль з усіх бакоў».*

Напэўна, я ніколі б не даведаўся пра гэты дом — нумар 59 на вуліцы Чкалава ў Рагачове, калі б не пачутае ў размове імя. Імя пісьменніка, дзякуючы якому колькі пакаленьняў адкрывалі наноў сваю Беларусь. У сам Рагачоў мяне занесла са школьнымі канцэртамі. Натхнёны цёплым прыёмам, які мне наладзілі старшаклясьнікі мясцовай гімназіі, я не стамляўся дзяліцца аптымізмам наконт нашай будучыні з арганізатарамі імпрэзы: якія ў Рагачове разумныя дзеці! Вось што значыць гараджане. — «А што ты хочаш ад дзяцей, калі побач Караткевіч свае „Каласы“ пісаў?» — Дзе?

— «Ды ў доме за вунь тым рогам. І „Каласы“, і „Нельга забыць“, і „Дзікае паляваньне“, і „Ладзьдзю роспачы“, і шмат чаго яшчэ…»

Перад наведаньнем гэтага дому, каб крыху паднавіць свае веды, я зайшоў у рагачоўскі музэй да гісторыка Аляксандра Рыкунова.

— Калі было паўстаньне Кастуся Каліноўскага, тут мясцовы памешчык Тамаш Грыневіч сабраў сабе каманду інсургентаў, спрабаваў ваяваць супраць царскіх войскаў. Ну яго салдаты й сяляне, каторыя не падтрымлівалі гэтае паўстаньне, павязалі. І яго расстралялі ў раёне нашай цэрквы. Калі расстралялі, яшчэ па магіле прайшоў батальён салдат. Каб нават месца не засталося. Кажуць, што стаяў раней крыж на могілках вялікі ў яго памяць. Хтосьці паставіў потым з нашчадкаў. Дык вось, Уладзімер Караткевіч лічыў гэтага Тамаша Грыневіча сваім продкам непасрэдна па жаночай лініі. Таму што ў маці яго прозьвішча было Грынкевіч. Паколькі тут жыў яго дзядзька, юрыст быў, даволі вядомы ў Рагачове, то часьценька Караткевіч сюды наяжджаў.

Гэты дом позірк мінака вылучае адразу. Драўляны, высачэзны гарадзкі асабняк, з парадным уваходам. Нам адчыніў спадар гадоў пяцідзесяці, які, мяркуючы па твары, пражыў няпростае жыцьцё. Як аказалася, гэта стрыечны брат пісьменьніка Грынкевіч Сяргей.

— Вось разумееце, тут справа такая… Не ўспрымаеш чалавека таленавітага — сваяка.

Ну нейкі сваяк, ну і ўсё. А потым высьвятляецца, што гэта бог знае хто гэта… Ён такі ж чалавек, як усякі… як мы. Пойдзем у дом, я пакажу… Туды, дзе мог заходзіць адзін Караткевіч і спаніель Альма. Але ніхто з нас. Там усё напісана…

Уявіце сабе вялізны сьветлы пакой са стольлю пад 4 мэтры. Дзе з мэблі толькі стол, крэсла й ложак. Калі сесьці за Караткевічава працоўнае месца насупраць аднаго зь вялікіх вокнаў, дык увагу можа адцягнуць толькі неба над бэзам, што расьце каля вакна…

— Ну тут усё напісана. Дарэчы, гэты стол, гэта ён купіў. Тут ён стаяў і сядзеў во тут. І звычайна пісаў. І дзьверы гэтыя звычайна закрытыя. І толькі магла сучонка Альма заходзіць. Ніхто з нас — не. Ну во тут стаяў круглы стол, і ён на ім пісаў. Ну аднойчы прыяжджае, у яго ў Гішпаніі, па-мойму, «Нельга забыць» кніга выйшла. Яму заплацілі 3.50. А чалавек гэта быў далёка не сантымэнтальны. Ён прыяжджае сюды і ледзь ня плача. Кажа: «Рабята. Вы б мне не плацілі нічога». А Саюз пісьменьнікаў атрымаў тады 90 тысяч. Гэта вялікія грошы. Навошта ж зьдзекавацца так? У самам дзеле.

Слухаючы Караткевічавага брата, я быў вельмі ўдзячны яму за тое, што гэты адрас забыты. Тут няма ніякага намёку на хатні музэй. Ні партрэта пісьменьніка на сьцяне. Ні ягонай кніжкі на стале. Для Сяргея Грынкевіча, падалося мне, Уладзімер Караткевіч так і застаўся

менскім сваяком, які даўно не прыяжджае штонебудзь папісаць на роднай мове. Дзякуючы чаму ў пакоі пануе дзіўная аўра таго, хто не дазваляў уваходзіць сюды іншым. Шпалеры, якія не мяняліся з тых часоў, назаўжды ўвабралі ў сябе пах «Беламорканалу», які курыўся тут бязь меры. Ні ў якіх дамах-музэях я больш востра не адчуваў адсутнасьці гаспадара. Адсутнасьці назаўжды…

*«Толькі вялізны сад аддзяляў дом ад Дняпра, вельмі шырокага ў гэтым месцы і вельмі пустога. Дно Дняпра хавала шмат цікавага: дзядзька, напрыклад, паліў у печы мораным дубам, пасьпяхова выцягваў дубовыя падводныя палі з моста, які калісь навёў Напалеон. Андрэй любіў Сухадол, такі ціхі і павольны, любіў дзедаўскія тры клёны і таполю, што абапіраліся на дах, любіў вулкі, зарослыя рамонкамі, — адвечны выпас гусянят, любіў клады над дняпроўскім адхонам… Увесь Сухадол быў такі, прыдатны хутчэй да таго, каб дажываць, чым жыць…»*

Сухадол — гэта ў Караткевічавым рамане псэўданім Рагачова. Спадар Сяргей згадзіўся праводзіць мяне ўверх па Дняпры, да вёскі Азярышча. Вёскі, зь якой і пачынаецца гісторыя галоўнага героя «Каласоў пад сярпом тваім». Па дарозе спадар Грынкевіч узгадваў брата:

— Дарэчы, во тут з Караткевічам цырк быў. Едзем на лодцы, а ён сядзіць на носе. Рукі во так у вадзе. Рана раніцай. І тут на табе! Праскоквае тапельніца. Ужо да таго разлажылася. Той

рукі падымае: «Дзядзька, што мне рабіць!?» Ну ладна. Ну мы гэтую тапельніцу к берагу. Мяне адпраўляюць. А той гэта… ня знае, што з рукамі з гэтымі рабіць. У вадзе ж былі…

Чытаючы кнігі, мы міжволі малюем у сваім уяўленьні мясьціны, што апісвае аўтар. Цікава, колькі такіх імгненных малюнкаў было народжана беларусамі падчас чытаньня «Каласоў»? Не памылюся, калі скажу — мільёны. Бо чыталі, дзякуй школьнай праграме, усе. Мой малюнак быў ня з горшых. Але рэальная карціна той стромы, дзе ў далёкім 1963-м адцьвітала Караткевічава груша, пераўзыходзіла фантазію.

Уявіце сябе на высокім беразе агромністага круглага возера. Высокія, парослыя лесам берагі якога плаўна зьнікаюць за даляглядам. А пасярэдзіне возера — круглы лугавы востраў. Дык возера — гэта Дняпро, а востраў — ягоны супрацьлеглы бераг. Рэдка пабачыш такі дасканалы выгін ракі. Любавацца Дняпром тут не стамляесься, быццам перад табою мора. Прычым мы прыехалі ўдзень. А што тут робіцца на золку!

*«Дняпро цячэ між высокіх берагоў спакойна і ўпэўнена, вымываючы з-пад адхонаў пясок, адкрываючы часам для вачэй чалавечых тое, што сам жа раней схаваў ад іх: наздраватыя вапнякі, чырвоныя зь лілёвым адценьнем пліткі жалезьняку і векавечныя, вараскіх часоў, дубы. Яны чорныя як косьць, гэтыя мораныя дубы. Як абгарэлая чорная косьць. І калі бачыш на водмелі*

*напаўзанесенае пяском мокрае бервяно — адразу становіцца зразумела, адкуль узяў народ паданьне аб волатах, што сьпяць, засыпаныя жвірам і заплеценыя травой, сьпяць, пакуль ня прыйдзе час вялікай бяды і пакуль іх не пакліча народ».*

На беразе, дзе некалі расла Караткевічава груша, мае спадарожнікі ажывіліся. «Во, глядзі, — паказаў на абрывісты бераг Рыкуноў. — Колькі тут азярышчанцы ні гадзяць, вада ўсё змывае паступова. Тут не застайваецца звалка. А стараюцца. Народ у нас старацельны». — «А вунь там, — уступіў Грынкевіч, — там яны катаюцца на задніцах. А грушы няма. Рака змыла яе праз год, як і меркаваў Караткевіч».

У Азярышчы жыве вельмі прыгожая пара. Стары бакеншчык Васіль Максімавіч са сваёю старою. Каля самага дняпроўскага берагу…

— Што я пра яго магу ўспомніць? Прыяжджаў кой-калі. Яны кіно фатаграфіравалі тут. А я работаў бакеншчыкам. Ну, я ранкам устаю, ліхтары гэтыя іду паліць на Дняпро. Яны сфатаграфіруюць мяне тутака. Потым на лодцы выяжджалі мы. А кіно тое я й не паглядзеў, дзе яны яго дзелі? Вясёлы хлопец быў, совесны. Толькі, кажа, калі выпіць, дык толькі сваю. Самагонку. Магазінную не ўважаў. У нас была зь яблычнага соку. І пах яблыкаў, і смачная такая. Дык вось гэта ён усягды ўважаў…

Які гэта, напэўна, быў рай. Вырвацца ад менскіх сабутэльнікаў і стукачоў сюды. Да гэтых людзей. Езьдзіць разам са старым Васілём

па Дняпры, запальваць над вечароваю ракою карасінавыя бакены. Піць тутэйшы кальвадос. І ня бачыць навокал прыкметаў савецкай цывілізацыі. Бо куды тут ні зірні — паўсюль краявіды, што былі і сто, і трыста гадоў таму.

Сам пра тое ня ведаючы, я ўжо бачыў гэты краявід на экране. І вы таксама бачылі. У фільме Рубінчыка «Дзікае паляваньне караля Стаха». Бадай, самыя ўдалыя й запамінальныя кадры тае карціны. Пра тое, як нарадзіліся гэтыя кадры, мне пазьней распавёў сын Васіля Максімавіча, менскі інжынэр Мікалай Кірэйшын:

— Маці Караткевіча выкладала ў свой час у Збарове. І там над Дняпром гара вялікая, там крыніцы ёсьць. І на гэтую гару езьдзілі паглядзець паплавы. А там пад Кісьцяні разьліваецца такі вялікі абшар лугоў. І калі туман высьцілаецца вечарам, пад восень недзе, дык ён так нізка над лугам сьцелецца. І калі коні там во пасьліся, дык што ўразіла Караткевіча, што бяжыць конь — і такое відовішча, што ён як бы не па зямлі бяжыць, а ляціць. Бо ніз схаваны ў тумане. Во так, ён мне гаварыў, зарадзілася ідэя зьняць эпізод гэты «Караля Стаха».

*2002, чэрвень*

# «Зямля пад белымі крыламі»

Не магу ўявіць сабе чалавека, які б ня чуў гэтага Караткевічавага імя Беларусі. Розныя фэстывалі, турыстычныя маршруты, сайты, спартовыя каманды бяруць сабе назву ягонае кнігі, якая ў 1980-я для многіх стала адкрыцьцём.

*«Я аб'ездзіў на Беларусі амаль усё. Няшмат засталося нават глухіх куткоў, дзе я не пабываў бы. Таму я насьмельваюся сказаць, што ведаю сваю краіну і яе людзей».*

Сорак гадоў таму безь «Зямлі пад белымі крыламі» дазнацца, наколькі Беларусь гістарычна і культурна багатая краіна, было проста немагчыма. Кніга Караткевіча стала альтэрнатывай нецікавым падручнікам «Гісторыі БССР». Але і нараджалася яна ва ўсіх сэнсах драматычна.

Аднойчы, будучы ў гасьцях у мастацтвазнаўцы Ізабэлы Гатоўчыц, я гартаў стары фотаальбом. Веснавы лес, пікнік, сям'я Караткевічаў — Уладзімер і Валянціна.

— Гэтыя фатаздымкі паходзяць з часоў, калі Караткевіч працаваў над кніжкай «Зямля пад белымі крыламі», — камэнтавала спадарыня Ізабэла. — Валодзя перад тым, як прыступіў да працы над ёй, быў у стане такой дэпрэсіі, якая падштурхоўвала Валю шукаць нейкага ратунку. Яна разумела, што гэты ратунак можа быць знойдзены толькі тады, калі Валодзя ся-

дзе за працу. Аднак, як гэта бывае ў творчых асоб, Валодзя мучыўся новай кніжкай і быў вельмі некамфортны, ён нэрваваўся, ён мог разагнаць кампанію, якія ўвогуле любіў і часта зьбіраў дома. І Валя, якая была вельмі разумнай спадарожніцай Валодзі, пачала шукаць нейкі спосаб для Валодзі пабыць у адзіноце. А ў мяне былі сяброўкі ў бюро падарожжаў «Спутник», якому належаў пансіянат «Юность» на Менскім моры. Там быў знойдзены пакой, і Валодзя мог месяц і нават больш там жыць. Па савецкіх нормах гэта не было дазволена. Аднак разумныя дзяўчаты прыйшлі на дапамогу, і такі пакой быў зьняты. Я памятаю, што ён быў на другім паверсе, вельмі маленькі. Там месьціўся толькі стол і ложак.

Валянціна Караткевіч і Ізабэла Гатоўчыц у канцы 1960-х працавалі ў Акадэміі навук, у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру. Тады акурат рыхтаваўся Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Група навукоўцаў на старым рафіку разьяжджала па ўсёй краіне, фіксуючы стан, у якім апынуліся ацалелыя храмы, сядзібы, палацы. Уладзімер Караткевіч ня мог не скарыстацца настолькі цікавым службовым становішчам сваёй жонкі.

— Ён вельмі часта езьдзіў з намі ў экспэдыцыі і вельмі любіў гэтую справу, — кажа спадарыня Ізабэла. — Мы дасьледавалі кожнае мястэчка, кожную вёску. Мы езьдзілі, каб зразумець, што ў нас засталося пасьля ўсіх разбурэньняў. Чым

мы валодаем. Цудоўны быў час. Прыяжджаеш, абмераеш касьцёл ці царкву. Апішаш. А потым увечары хлопцы наловяць рыбы. Разьвядуць касьцёр. Сяляне падзеляцца хлебам. Жыцьцё было беднае. Мы па дарозе падбіралі кабет, якія ішлі з райцэнтраў. Як зараз памятаю, ідзе басаногая, за сьпінай вузел з хлебам. Гэта яна езьдзіла, каб адстаяць ноч у чарзе і купіць у запас хлеба. Мы такіх кабет падвозілі, а яны дзяліліся з намі хлебам. Мы, вядома, радаваліся. Бо часу стаяць у чарзе не было, а так у нас заўсёды быў хлеб.

Са словаў спадарыні Ізабэлы я жыва ўяўляў сабе, наколькі гэта было рамантычна, хоць псавала часам рамантыку тое занядбаньне, у якім была на той час уся краіна, або, як тады казалі, рэспубліка.

— Начавалі ў хатах рэдка. Больш у гумне, на сене, на саломе. Жанчыны прынясуць малака, цыбулі. Простае, але насычанае жыцьцё. Бо ўвесь час мяняецца карціна перад вачыма. І ты ўвесь час прыяжджаеш да чагосьці прыгожага. Вядома, сумна было бачыць страшэнную запушчанасьць. Памятаю, у Ружанах стаім у самым цэнтры. Там бэкераўскі касьцёл. Ён закрыты як храм, аднак служыць мясцовым за прыбіральню. Такое відовішча — нажом па сэрцы. Аднак усё роўна гэта была маладосьць, па некалькі цікавых уражаньняў на дзень.

Аднаго разу на Лепельскім возеры Караткевіч пасварыўся зь мясцовым партыйным

начальнікам. Скончылася тая сварка бойкай. Партыйны сакратар ня ведаў Караткевіча, але рыхтаваўся. Усё ж пісьменьнік! Зь Менску! Таму вырашыў прыняць, як прымалі функцыянэраў. Мясцовыя налавілі рыбы. На беразе было распаленае вогнішча, прынесьлі каньяк.

— Мы, галодныя як чэрці, расьселіся, — згадвае спадарыня Ізабэла. — І гэты партыйны бос разгаварыўся з Караткевічам: «Владимир Семёнович. А почему так получается? Я всю жизнь учился тому, что бога нет. А вы здесь ездите, какие-то церкви обмеряете». Караткевіч раптам узарваўся: «Гэта ж вы ўсё паўзрывалі ў Беларусі!» Тады сакратар усхапіўся і Караткевіча — загрудкі. Пачалося высьвятленьне адносінаў. І вядро, у якім варылася юшка, абрынулася. Мы ледзь ня плакалі. Бо такі быў пах! Было чаканьне добрай вячэры. Адчуваньне сьвята на беразе возера. А тут юшка вылілася ў касьцёр і зашыпела. Валя зь цяжкасьцю расьцягнула двух мужыкоў. І мы паныла пайшлі на начлег. У нейкае гумно.

Што за нявыхаванасьць сталічнага госьця? Яму і юшку на беразе возера, і каньяк. А ён у бойку лезе з гаспадаром… Даўно няма на сьвеце ні першага, ні другога. Сёньня Ружанскі касьцёл ды іншыя храмы стаяць прыбраныя, аддадзеныя вернікам. Уявіць іх загаджанымі немагчыма. А Караткевіч гэтыя карціны бачыў штодня. Таму і стрымліваць сябе часам ня мог.

— Караткевіч быў вельмі гарачы чалавек. Калі ствараласяя такая сытуацыя, якая была супраць ягоных поглядаў на сьвет альбо супраць Беларусі, ён быў больш чым гарачы. Талерантнасьці не было.

Тым ня менш час паказвае, што і ў гарачнасьці менавіта ён, а не партыйны начальнік меў рацыю.

— Я памятаю, як Валя аднойчы, выкліканая да Станіслава Марцалева, які ўзначальваў інстытут, вярталася ад яго па калідоры Акадэміі і плакала. Бо выкінулі са Збору помнікаў Мерачоўшчыну. Сядзіба Касьцюшкі была ўся на той час расьцягнутая. Была толькі пара вянцоў на падмурку. Аднак Валя напісала артыкул. І дырэктар запатрабаваў выкінуць гэты тэкст. Бо пра Касьцюшку. І Валя заплакала. І я памятаю, як Караткевіч казаў: «Нічога. Прыйдзе некалі час. Калі будзе і артыкул, і сядзіба». Ён суцяшаў так Валянціну.

Мы прыехалі са спадарыняй Ізабэлай у «Юность» такой самай сонечнай пагодай, якая была тут у траўні 1971-га.

— Кожную нядзелю мы з Валяй прыяжджалі, каб прывезьці нейкія прадукты і правесьці нядзелю зь ім, — успаміналася спадарыня Ізабэла. — І звычайна раніца гэтай нядзелі праходзіла ў зьбіраньні смаржкоў, што Валодзя вельмі любіў. Гэта быў пачатак траўня. Вельмі прыгожы час. Любімыя грыбы Валодзі ўжо зьявіліся, і было іх многа. Ніхто не зьбіраў,

акрамя Валодзі. І Валодзя так сур’ёзна ставіўся да зьбіраньня гэтых грыбоў, што, напрыклад, калі ты ў лесе аказваўся побач зь ім, Валодзя рабіўся вельмі сур’ёзны і вельмі страшна крычаў: калі хоць адзін падыдзе бліжэй, чым на дзесяць мэтраў, — страляю без папярэджаньня. Многа пазьней я прачытала, што гэта вельмі нядобры грыб. Што яд са смаржкоў практычна не выводзіцца. Што іх есьці нельга. Але ён іх вельмі любіў.

Мы выйшлі з прылеску да корпусу «Юности». Спадарыня Ізабэла агледзелася.

— Такое адчуваньне, што тут недзе Караткевіч побач. Хоць тут папрыгажэла. Дарожкі зьявіліся. Мост на востраў. Сам будынак падрос. Яго надбудавалі?

Зразумела, што спадарыня Ізабэла, якая не была тут ад 1971 году, не пазнала мясцовасьць. У тыя часы высокага корпусу на беразе Менскага мора яшчэ не было. І сваю кнігу пра белыя крылы Караткевіч ствараў у старым корпусе, які цяпер называецца «Лясны». Да якога мы і накіраваліся. Я спадзяваўся, што спадарыня Ізабэла ўспомніць, дзе ж быў той нумар, у якім жыў Караткевіч. Але мая спадарожніца не пазнала інтэр’еру. Гэта ня дзіва. Бо корпус неаднойчы рэканструявалі. У Ізабэлы Гатоўчыц ад той вясны засталося некалькі фатаздымкаў. Вось пакой Караткевіча. Пісьмовы стол каля вакна, масіўная попелка, аркушы паперы.

— Ён пісаў рукою. У яго такі почырк бісэрны. Я зьдзіўляюся. Рукапіс напісаны амаль бяз правак. Вельмі чытэльны і ясны.

Фатастужка зафіксавала, чым пісьменьнік займаўся па-за пісаньнем. Жадаючы павесяліць жонку і сяброўку, ён з кансэрвавых бляшанак, пустых бутэлек ды кветак зрабіў выставу інсталяцыяў. Кожная інсталяцыя — гэта нечы партрэт. Для аўтапартрэту Караткевіч выбраў два прадметы. Маленькая шрубка і ржавыя краты.

— Гэта краты іржавыя, якія ён знайшоў на сьметніку. Прыцягнуў у нумар і зрабіў аўтапартрэт з дапамогай кратаў і шрубкі, якая ляжала за кратамі. Малюсенькая. Тады ў яго былі такія настроі, што маглі выклікаць такі аўтапартрэт… Ён ніколі не гаварыў, над чым ён працуе. Раскажы, а потым непрыемнасьці будуць.

Падчас чарговага разгрому «навукоўцаў-нацыяналістаў» у Акадэміі навук Валянціну Караткевіч выклікалі ў парткам. І прамым тэкстам сказалі, што яна мусіць выйсьці на агульным партыйным сходзе і пакаяцца за мужа-нацыяналіста. Адмовісься — пэўна што страціш працу. Пагодзісься — пойдзеш насуперак годнасьці.

— Мы ішлі зВаляй дамоў, нам абедзьвюм было цяжка на душы. Бо незразумела было, які зрабіць выбар. Зразумела было, што нельга каяцца. І я кажу Валі: «Ведаеш што, Валя? Насупраць вас жыве Іван Антонавіч Брыль. Можа, трэба параіцца зь ім. Ён усё ж такі чалавек, які

многа бачыў у сваім жыцьці. І пражыў намнога большае жыцьцё, чым Валодзя». І Валя пагаварыла з Іванам Антонавічам, і я добра памятаю, як Іван Антонавіч сказаў: «Валя. Ня ўздумайце толькі, што б там ні было, выйсьці і каяцца. Таму што Вы сабе потым гэтага не даруеце. Пагатоў Вам ніколі гэтага не даруе Валодзя».

Каб аднавіць атмасфэру пансіяняту «Юность» 1970-х, я пайшоў у аддзел кадраў. Але колішніх работнікаў у новым санаторыі ўжо не засталося. І нават маё паведамленьне, што ў іхных сьценах правёў плённы месяц Уладзімер Караткевіч, ствараючы адну з самых знакавых сваіх кніг, не абудзіла ніякай цікавасьці. Зьдзіўленьне на маладых запудраных тварах выклікала толькі мая мова. Напэўна, цёткі ўпершыню пабачылі «нярускага» чалавека. Вось табе і 1970-я! Зьмяніліся фрызуры і касмэтыка на тварах. А ў астатнім усё тая ж савецкая падазронасьць і напруга. Маладзенькая супрацоўніца сказала, што гэтую кнігу яна ведае. Вось толькі ня памятае дакладна, хто яе напісаў, Янка Купала ці Якуб Колас. Можна было б паабурацца. Як можна ня ведаць самага папулярнага пісьменьніка? Але Караткевічу такое наўрад ці спадабалася б. Як і мэмарыяльны нумар у тым санаторыі. Ён не разьменьваўся на дробязі.

— Ёсьць такія людзі, якім даецца шчасьце як мага раней зразумець, для чаго яны жывуць на сьвеце, — сказала спадарыня Ізабэла. — І Караткевіч быў менавіта такім чалавекам. Ён па-

кідаў уражаньне чалавека, які жыве жыцьцём нялёгкім, але з пачуцьцём годнасьці. Ён ніколі ня жаліўся. Ніколі не наракаў на жыцьцё. Калі было цяжка, калі не друкавалі, Караткевіч ніколі ня поўзаў і ніколі нічога не прасіў. Ён ня быў заклапочаны ўзнагародамі і пасадамі. Ён жыў сваім жыцьцём. І нягледзячы на тое, што ў жыцьці было нялёгка, ён быў чалавекам шчасьлівым. Бо ведаў, для чаго жыве. Гэта ж нямногім даецца, праўда?

# Швэйкаў штук 50

Назваць Караткевічаў дом на вуліцы Карла Маркса ў Менску забытым адрасам не паварочваецца язык. Будынак, у якім была апошняя кватэра пісьменьніка, вядомы кожнаму сталаму менчуку. У першую чаргу дзякуючы мэмарыяльнай шыльдзе, зь якой пазірае той Караткевіч, якім ён мог быць вясною 1973-га. Ідучы ў госьці ў 24-ю кватэру дому нумар 36, я меў дзіўнае пачуцьцё сваёй спозьненасьці. Бо тэарэтычна мог спаткацца з гаспадаром кватэры і да 1984 году, калі ён сышоў назаўжды. Сям’я пісьменьніка Вячаслава Адамчыка жыла з Караткевічамі на адной лесьвічнай пляцоўцы. Таму Валодзя Адамчык, ён жа Адам Глёбус, быў у Караткевіча нярэдкім госьцем.

— У яго было вялікае пачуцьцё гумару. Што для беларускай літаратуры даволі нехарактэрна. Прытым гумару тонкага, іранічнага, шматхадовага. Ён мог выбудоўваць камбінацыю, інтрыгаваць. І зь ім, вядома, цікава было, заўсёды цікава. Ён ведаў шмат жартаў, любіў жартаваць. Ён зачытваўся Гашэкам, Чапэкам. Зьбіраў… у яго было гэтых Швэйкаў штук 50. Спаў са Швэйкамі. У яго заўсёды ложак быў прыбраны цацкамі. Швэйкі. Ён зьбіраў лялькі чарцей і Швэйкаў зьбіраў.

— Яго нельга было назваць дысыдэнтам, але наколькі ён быў савецкі чалавек?

— Антысаветчык, дысыдэнт, змагар за нейкія каштоўнасьці — таксама нейкая ідэальная рэч, якой няма ў прыродзе. Як Гогаль пісаў — што гэта за пісьменьнік, які ня можа падмануць цэнзара? Ясна, што Караткевіч падманваў цэнзара. Ясна, што яго забаранялі. І што ў асяродку пісьменьнікаў… Калі ў цябе нічога не забаранілі — ну які ты пісьменьнік? Назваць дысыдэнтам — я б не называў. Мне слова не падабаецца. Як і савецкі чалавек. Гэта хутчэй паліталягічны тэрмін, а не рэальнае жыцьцё. Дзядзя Валодзя — беларускі пісьменьнік. Клясык беларускай літаратуры. Прытым рэдкі беларускі пісьменьнік, якога дзеці чытаюць з задавальненьнем.

— А ці было нешта сказанае Караткевічам, што помніцца да сёньня?

— Я захапляўся раманам і вельмі яго цаню… раман «Нельга забыць». Таму што гэта раман пра каханьне, раман пра рэальнае каханьне. Раман, калі Караткевіч паспрабаваў быць пісьменьнікам найвышэйшага гатунку. І гэтая спроба… Я наагул люблю ў літаратуры такія спробы. Мне як творцу больш цікавыя правалы літаратараў, чым іх дасягненьні. Дасягненьне заўсёды невядома як зробленае. А калі чалавек не дасягнуў… Мэта была большая, чым ён мог зрабіць. І я гаварыў пра гэта з Караткевічам, і кажу, што з задавальненьнем прачытаў гэты Ваш раман і ён мне вельмі падабаецца. На што ён сказаў: «Ведаеш, я рады, што ты ацэньваеш

маю творчасьць. Але я скептычна да сябе як да творцы стаўлюся. І ты мусіш ставіцца да сябе заўсёды скептычна. І калі ты бачыш, што ты ня можаш нечага зрабіць, то заніжай плянку. Ня можаш напісаць выразнае, рэалістычнае, клясычнае апавяданьне — напішы фантастычнае. І сілы будуць увесь час цябе пакідаць. Ты будзеш жыць, і сіл будзе ўсё менш-менш. Менш імпэту. І калі сілы зусім скончацца нават на дэтэктывы, інтрыгу будаваць, матывацыі прыдумляць — пішы фантастыку. Пішы лёгка. Пішы шмат». Да фантастыкі я ніяк яшчэ не дайду. Але дайду…

У кватэры пісьменьніка цяпер жыве сям'я Алены і Васіля Сянкевічаў. Алена Сянкевіч — гераіня апавяданьня «Як руйнуюцца ідалы», пляменьніца клясыка, дачка ягонай сястры Натальлі. Спадары Алена і Васіль стараюцца не чапаць нічога, што засталося з тых, караткевіцкіх, часоў. У кабінэце пісьменьніка няма халоднай нежывой музэйнасьці. Быццам чалавек выйшаў па «Беламор» гадзіну таму. Але зараз вернецца. Кім быў насамрэч яе дзядзька, Алена Сянкевіч зразумела ўжо пасьля сьмерці Караткевіча.

— Перш за ўсё ён быў дзядзька. Не пісьменьнік хутчэй… Хаця, безумоўна, дзякуючы яму асабіста я… Мы жылі ў Чалябінску. Калі сюды прыехалі, не вывучалі ні беларускую мову, ні літаратуру. Але ж вось пачала чытаць я па-беларуску. І ўжо потым прыйшло адчуваньне,

што ён вялікі пісьменьнік... Але ж тады, на жаль, нават гэтыя паездкі ў Рагачоў... Не хапіла розуму занатаваць нешта, запісаць. Здавалася, што дзядзька будзе заўсёды.

Кабінэт Караткевіча — гэта вялікі пакой вокнамі на вуліцу Карла Маркса. Дзьве сьцяны ад падлогі да столі застаўленыя кніжнымі шафамі. Бібліятэка вельмі разнастайная — ад тагачасных літаратурных навінак да расейскай «Большой энциклопедии» 1896 году выданьня. І на кожнай паліцы перад кнігамі безьліч усялякіх сувэніраў, драбностак, марскіх каменьчыкаў, нейкіх куфэркаў, фігурак і халера ведае чаго яшчэ... Швэйкі і чэрці ў гэтым парадзе сапраўды займаюць заўважнае месца. Насупраць вакна — канапа. Над ёю гіпсавая Пагоня і партрэт Багдановіча. Васіль Сянкевіч кажа, што ўсе рэчы засталіся на сваіх месцах ад ліпеня 1984-га.

— Тут засталося ўсё так, як было пры Караткевічу. Швэйк. У розных выявах ён тут ёсьць. Ён вельмі любіў. І дзе бачыў гэтыя фігуркі — ці сам купляў, ці прывозілі яму. А гэта яго дзядуля па маме. Васіль. Вельмі быў разумны чалавек, адукаваны. Рагачоўскі. Гэта гаспадар таго дому, які цяпер там захаваўся.

Дзед пісьменьніка, у рагачоўскім доме якога я калісьці быў, на здымку дакладна пасуе свайму дому. Такі ж грунтоўны і саністы. З сур’ёзным, ледзь не сярдзітым позіркам з-пад белых броваў.

Зь вялізнаю белаю каляднаю барадою. Васіль Сянкевіч паказаў на дзьверы ў залю:

— Уладзімер Сямёнавіч праз гэтыя дзьверы сюды заходзіў і глядзеў тэлевізар, які цяпер у Воршы ў музэі. Ён у нас на лецішчы стаяў. Я не магу выкінуць рэч Караткевіча. Я сябе не адчуваю гаспадаром гэтай кватэры. Гэта кватэра Караткевіча, я гэта ведаю. Не гаспадары мы тут. Але ж так здарылася, што нам трэба яе зьберагаць.

На самадзейным плякаце малады Караткевіч у паласатым швэдры чухае патыліцу. Здымак адмыслова павялічаны. Побач верш:

Чакаў я доўга. Годзе.
Трымаў сябе рахмана.
Няўжо і ў Новым годзе
Ня ўбачыць мне рамана?

«Гэты швэдар, у якім ён тут сфатаграфаваны, — патлумачыла Алена, — мы аддалі ў музэй. А верш — пра „Каласы“…»

У Караткевічавых дамах і мясьцінах вельмі моцна адчуваецца тое, што можна назваць ягоным полем. Тут, у кватэры над кнігарняй «Веды», яно проста зашкальвае. І спакойна жыць — есьці, прымаць ванну, глядзець тэлевізар, класьціся спаць — у такім энэргетычным атачэньні могуць толькі блізкія. Сапраўды блізкія людзі. Гэта я да таго, як нам усім пашанцавала з гэтым незабытым адрасам. Дзе жывуць родныя Караткевічу людзі, звычайныя менскія

інжынэры Алена і Васіль. Чые дзеці без прынукі ведаюць, хто яны і навошта ўсё.

Аглядаючы залю, пазіраючы на тыя карціны, пэйзажы Ціхановіча і Сергіевіча, на старыя драўляныя скульптуры анёлаў, прывезеныя гаспадаром з экспэдыцыяў, я спрабую адгадаць — хто з пэрсанажаў мог тут жыць. Мне здаецца, гэта пакоі пана Дубатоўка. Адчуваецца жарсьць да старасьвеччыны і шырокі нораў. Пра шчодрасьць гаспадара кватэры ўспомніла Ізабэла Гатоўчыц:

— Увогуле пра шчодрасьць Валодзі можна легенды расказваць. Гэта ўжо было, калі не было на сьвеце Валі. Я іду з працы праз Аляксандраўскі сквэрык. І бачу — сядзіць Валодзя перад фантанчыкам і нешта чытае. Мне здалося, што ён нейкі задуменны і заняты сваімі думкамі. І каб не перашкаджаць, я не аклікнула Валодзю і пайшла далей. Аднак аклікнуў Валодзя: «Ты што ж не здароваесься». Я кажу: «Прабач, Валодзя. Я думала, ты заняты сваімі думкамі». «Сядай». Прысела разам. І Валодзя раптам пытаецца: «Можа, у цябе грошай няма? А то ў мяне хоць сракай еш». Я падзякавала Валодзю. Валодзя папытаўся яшчэ раз. Можа, усё ж такі патрэбныя. Бо ў яго няма куды дзяваць. Сапраўды, грошай ён не цаніў. Ставіўся да іх абыякава. Гэта значыць, што калі былі грошы, быў поўны дом гасьцей, калі Валодзя не працаваў. Гэта — радасьць дапамогі блізкім. Заўсёды, што называецца, шырокі жэст.

Калі глядзець на фотапартрэты ўсьмешлівага Караткевіча, складаецца вобраз утульнага, бесканфліктнага вясёлага таўстуна. Ня трэба давярацца фота. Утульным і бесканфліктным Караткевіч ніколі ня быў.

— Калі-нікалі вельмі ляканічна Валодзя гаварыў пра сваю работу. Увогуле пра сваю работу ён гаварыць не любіў. Ён яе выношваў, а потым, калі садзіўся за стол, ён любіў, каб яму не перашкаджалі. Аднак увечары звычайна ў доме Караткевіча зьбіраліся сябры, бо дом гэты быў вельмі гасьцінны. Можа, і занадта гасьцінны. Можа, больш, чым трэба было. І Валодзя быў вельмі шырокім чалавекам. Для Валодзі выпіўка, калі за сталом былі людзі, была прычынай для размоваў, для нейкіх апавяданьняў цікавых. Аднак калі нехта з прысутных наступаў на любімы мазоль Валодзеў, закранаў нейкія яго любімыя тэмы ня ў тым сэнсе альбо неяк непаважліва ставіўся да некага з герояў гістарычных, якіх любіў Валодзя, гэта скончалася вельмі шумна. Ён мог пагражаць. Мог устаць і сказаць, каб усе ішлі зь яго дому. Прычым тут жа, адразу, зьбіралі свае шмоткі і ішлі…

Калі б Ізабэла Гатоўчыц, расказваючы, не называла імя героя, я, мабыць, усё роўна б здагадаўся, пра каго ідзе гаворка. Бо, здаецца, сярод беларускіх літаратараў не было настолькі «несур’ёзнага» і недарослага чалавека.

— У адпачынак Валодзя любіў езьдзіць на Чорнае мора. І звычайна ў верасьні ён зьяўляўся

ў «Збор помнікаў», які знаходзіўся ў цэнтральным будынку Акадэміі навук, з катранамі. Гэта такія акулы ня вельмі вялікага памеру, але усё ж такі акулы, высушаныя на сонцы. Зь вяленымі акуламі, набраўшы многа бутэлек піва. Ён вельмі так ганарова ўваходзіў у «Збор помнікаў», выкладаў гэтых катранаў на стол і казаў: «Калі хоць адна сабака адмовіцца іх есьці, будзе мець справу са мной!» Ну есьці гэтых катранаў было няпроста. Таму што акула — гэта драпежнік і патыхае, прабачце, псінай. Аднак, выслухаўшы такую прадмову, усе елі гэтых катранаў, запівалі півам і вельмі хвалілі. Усе стараліся зрабіць выгляд, што катраны вельмі смачныя і што зь півам гэта — першы клас.

З дазволу гаспадыні Алены (а можна пасядзець?) я адсунуў цяжкае крэсла гаспадара і сеў за ягоны працоўны стол. Праседзеў некалькі сэкундаў. Мне стала вельмі не па сабе. Я амаль фізычна адчуў дыскамфорт. Я быў у скуры блазна, што ўскараскаўся на каралеўскі трон.

*2005, ліпень*

P. S. У Менск я ўпершыню прыехаў летам 1982-га. На «Беларусьфільм», дзе здымалася «Чужая бацькаўшчына». Блукаючы па цэнтры гораду, заходзіў і ў Аляксандраўскі сквэр, дзе мог спаткацца зь пісьменьнікам, чыё імя ўжо ведаў. Яшчэ не з прачытаных кніг, але ўжо з кінафільму «Дзікае паляваньне караля Стаха». А яшчэ з кніжных паліц у дамах маіх аднаклясь-

нікаў — хатніх бібліятэк рабочых да інжынэраў «Гомсельмашу». Беларускія кнігі сярод тамоў Марыса Друона ды Аляксандра Дзюма трапляліся нячаста. Купала і Колас, абавязковыя для школы. Сярод неабавязковых, але чытаных часам трапляўся бэлетрыст Іван Шамякін. Аднак Караткевіч быў на асаблівым месцы. Ягоныя кнігі выдаваліся шасьцідзесяці- і болей тысячнымі накладамі, але ў кнігарнях іх купіць было нялёгка. Па іх выстройваліся чэргі, яны стаялі на паліцах у так званых кнігаабменах. Караткевіча нельга было набыць. Яго трэба было дастаць! Прычым дастаць абавязкова. Ня толькі для віднага месца хатняй бібліятэкі. Гараджаніну ў першым пакаленьні, рускамоўнаму самавуку, амаль цалкам савецкаму чалавеку неабходны быў Караткевіч. Караткевіч на паліцы быў большай прыкметай тваёй яшчэ не забітай да канца беларускасьці, чым беларуская старонка ў савецкім пашпарце.

# «Паэтаў мінскіх атаман»

У 1963 годзе ў жыцьці Ўладзімера Караткевіча здарылася не абы-якая падзея. Ён атрымаў кватэру ў сталіцы. У сёмым доме на вуліцы Чарнышэўскага. Працу ў аршанскай школе пісьменьнік завяршыў яшчэ ў 1958-м. Затым была вучоба ў Маскве на вышэйшых літаратурных і сцэнарных курсах, якая скончылася ў 1962-м. Тымчасам ён часта бываў і падоўгу жыў у Менску. Дзе? У гатэлі? Здымаў кватэру? Адгадку пісьменьнік пакінуў сам. У канцы рукапісу аповесьці, які захоўваецца ў перакладніка Васіля Сёмухі: «У Менску, у хаце В. Краўца, дзе некаторы час жыў, дапрацоўваў аповесьць „Дзікае паляваньне караля Стаха“». У тым жа 1958-м Караткевіч паведамляў Янку Брылю: «Пішу зараз увесь вольны час… і за гэты час скончу сучасныя апавяданьні і апрацую дзьве-тры маленькія аповесьці пра шляхту. Адну амаль апрацаваў, апошнюю, пра васьмідзясятыя гады мінулага стагодзьдзя ў беларускай глушы: „Дзікае паляваньне караля Стаха“».

Я патэлефанаваў Янку Брылю, але той бачыў згаданага Караткевічам Краўца толькі аднойчы. На Нарачы, куды Караткевіч прыяжджаў разам са сваім сябрам. Дапамог Адам Мальдзіс, які сказаў мне, што спадар Кравец працаваў у Політэхнічнай акадэміі. У аддзеле кадраў гэтай ВНУ жанчыны, як толькі даве-

даліся, што я шукаю блізкага сябра Ўладзімера Караткевіча, за некалькі хвілінаў знайшлі ўсё, што ведалі пра выкладчыка, што ўжо 10 гадоў як звольніўся. Валянцін Кравец жывы. І жыве тамсама, дзе ў канцы 1950-х атрымаў дзялянку зямлі пад будаўніцтва дому. «Прыяжджайце калі зручна», — адказаў ён адразу на маё тэлефоннае запытаньне пра Караткевіча.

4-ы завулак Кальцова цягнецца ад вуліцы Мірашнічэнкі ў бок Цнянскага возера. Прамысловы пэйзаж зь цяжкімі бэтоннымі будынкамі аўтапарку паступова зьмяняецца карцінаю тыповага менскага прадмесьця. Драўляныя дамкі 1950-х суседзяць з новымі катэджамі. Дом пад нумарам 79 — самы прыгожы на гэтай вуліцы, выглядае ледзь не шляхоцкай сядзібай. Два паверхі, ружовы колер сьценаў, гаўбец, вялікі панадворак. Гаспадар прыгожага дому зьнешне падобны да адэскага джазмэна Леаніда Ўцёсава. Пра свайго сябра гатовы распавядаць усё, што памятаецца.

— Я пазнаёміўся зь ім у 1948 годзе. Гэта было ў Воршы. Я паступіў у драмгурток. А ўся эліта школы была ў гэтым драмгуртку. Кіраўніцай гуртка была цудоўная жанчына, Фрыда Аронаўна Ронкіна. Надзіва непрыгожая дзяўчына, але якая жыла літаратурай. Рэдка цяпер сустрэнеш такога чалавека. І ў гэтым гуртку была элітная кампанія, у якую ўваходзіў і Валодзя Караткевіч. Нас зьвёў выпадак.

Сам таго ня ведаючы, Валянцін стаў супернікам Караткевіча ў любоўным трохкутніку. Аднойчы ён праводзіў дахаты ўпадабаную дзяўчыну, у якую, як высьветлілася пазьней, быў закаханы і Ўладзімер. Знаёмства пачалося з варажнечы. Два супернікі нават не размаўлялі адзін з адным.

— А калі я аказаўся кінуты, неяк ішоў паўз дом Валодзі Караткевіча. А домік у іх быў невялікі, драўляны. Там ляжала вялікае бервяно, на якім сядзеў Валодзька і чагосьці думаў. Праходзячы міма, я спытаў: «У тебя спички есть?» Ён кажа: «Есть». Я падышоў, закурылі. Слова за слова і пачалі мы… «Што такое „я“?» Вядомае філязофскае пытаньне. І мы прагаварылі зь ім некалькі гадзінаў. Я яму паведаміў пра сваё няшчасьце. Карацей, з гэтага моманту пачалася наша дружба. І дружба гэтая ператварылася ў чорт ведае што. Яго маці казала: «Ну такая ўжо дружба! Кашулю няма калі перамяніць». Мы сапраўды адзін без аднаго жыць не маглі.

Сябры днямі прападалі на Дняпры, а ўвечары сядзелі на гарышчы Караткевічавай адрыны, дзе паэт чытаў свае вершы. Напісаныя па-расейску.

— Гэтаму былі прычыны, што ён не пісаў пабеларуску. У першай школе беларускую мову… Што школьніку? Вельмі многае залежыць ад настаўніка. У нас была абсалютна бяздарная настаўніца беларускай мовы, якую проста

ненавідзелі. Пасьля ён зьехаў у Кіеў. І мы перапісваліся.

Жыцьцёвыя дарогі сяброў разыходзяцца. Уладзімер паступае на філфак Кіеўскага ўнівэрсытэту, а Валянцін — у Беларускі палітэх, у якім пазьней будзе выкладаць. Але з Караткевічам ва Ўкраіне адбываецца дзівосная мэтамарфоза. Воршу пакінуў расейскамоўны савецкі юнак Валодзя, а назад у Беларусь вярнуўся ўжо іншы чалавек.

— Памятаю, калі ён прыехаў да мяне ў інстытут, то захацеў патрапіць у домік Янкі Купалы. У Вязынку. Грошай у нас было нуль. А цягнік даходзіў да станцыі «Беларусь». Мы купілі трыста грам іржавай камсы, на хлеб у нас не засталося. І з гэтай камсой мы накіраваліся на цягніку, безь білетаў. І далей пайшлі пешкі. Прыйшлі мы туды, паглядзелі на гэты домік. Ніякага музэю там яшчэ не было. Пагаварылі зь людзьмі. Прычым ён гаварыў па-беларуску, а я намагаўся гаварыць. Ён кажа: «Сьціхні, ты ганьбіш мяне. Ты па-беларуску ня ўмееш, а намагаесься». Памятаю ягоныя словы, якія ён сказаў: «Валька, ты са сваім рэжымам памрэш ад язвы. Таму што жыць на камсе бяз хлеба нельга». Жыцьцё паказала, што я не памёр, а ён менавіта ад гэтага-такі памёр…

У тыя часы, калі блізкі Курапацкі лес ня быў яшчэ перарэзаны аўтатрасаю, калі Менск пачынаўся за некалькі кілямэтраў адсюль, калі не было ніякага вадасховішча, а працякаў ма-

ленькі ручай, калі навакольлі вёскі Зялёны Луг і блізка не нагадвалі сёньняшняга мікрараёну, хто б тады мог падумаць, што напісаная выключна для сяброў гісторыя ператворыцца ў культавую кнігу. Паводле якой будзе зьняты фільм і пастаўленая опэра. А тады…

— Ён фактычна пісаў ня столькі каб усё гэта выдаць, колькі каб напісаць цікавую рэч, каб мы слухалі. Вось кампанія, якая зьбіралася. Мы клаліся на паляне, і Воўка нам кожны тыдзень чытаў разьдзел зь «Дзікага паляваньня караля Стаха». Яно ўжо было напісана на беларускай мове. Але ён нам чытаў яго, каб нам лягчэй успрымалася на слых, па-расейску. І вось гэтая кампанія, якая на гэтай фатакартцы, вельмі доўга мы былі разам. Галя, я, гэта Воўка. «Дзікае паляваньне караля Стаха» было кожную нядзелю. Мы чакалі зь нецярпеньнем гэтую нядзелю… Мы кладземся на паляне, і Воўка чытае разьдзел.

У пакоі, дзе Караткевіч, гасьцюючы ў сябра, пісаў свае разьдзелы, з тых часоў не засталося нічога. Нешматлікую мэблю ён забраў з сабою на новую кватэру. Але, нягледзячы на гэта, усё роўна ўваходзіш сюды асьцярожна. Бо ў такіх месцах важная ня столькі музэйная атрыбутыка — асабістыя рэчы, колькі выразна адчувальная энэргетычная прысутнасьць таго, хто тут жыў.

— Падлога была земляная. Гэтыя два крайнія пакойчыкі нашы. А вось гэты, гэта быў

ягоны пакойчык. Мы разам паклалі падлогу, каб Воўка змог тут жыць. І Воўка тут жыў. Усё, што ў нас было, было агульнае. Нават я хацеў захаваць драўляны туалет, які Воўка асабіста… Яму выкапаў, выклаў і пабудаваў гэты драўляны туалет. Разабралі…

Мы ўвайшлі ў пакой. У 50-я гады за вакном быў зусім іншы краявід. Бо ніякіх дамоў на супрацьлеглым баку вуліцы не было. Быў высокі пагорак. Яго даўно зрылі. З таго пагорку Караткевіч любіў катацца на ровары. Займаўся, кажучы сёньняшнімі словамі, даўнгілам.

— Быў такі выпадак. Ён катацца на ровары ня ўмеў. Ён два разы на ровары пракаціўся. Адзін раз у Воршы. У Воршы на дарозе адзіная яміна, адзіная, але вялікая. Ад авіяцыйнай бомбы. Яна зарасла, але ўсё роўна гэта была яміна. І я меў ровар, у дзядзькі браў. Пасадзіў Валодзьку, штурхнуў яго — і ён паехаў. Але яміну ён ніяк ня мог аб'ехаць. І ў самую яміну ўляцеў-такі. Нічога, застаўся задаволены. І тут другі раз ён праехаў на ровары. Тут, каля гэтых весьніцаў, я яго туды падштурхнуў, ён паехаў. Але ня ведаў, дзе тармазы. Ён ляцеў уніз і галасіў. Пакуль не зарыўся ў пясок з пабітымі лакцямі, каленямі. Але трэцяга разу не было.

Неаднойчы чуў крыўднае пра беларускую літаратуру. Што, маўляў, беларускія пісьменьнікі не пісалі «ў стол». Што не было ў беларусаў «забароненых рэчаў». Але аповесьць «Маленькая балярына», у якой Караткевіч паспрабаваў

зразумець Сталіна, адчуць сувязь бязьмежнай улады і халуйства, была надрукаваная толькі ў канцы 1980-х. Нават сёньня гэтая аповесьць не выглядае наіўным дакумэнтам хрушчоўскай адлігі. Хутчэй намаганьнем зразумець час усеагульнага страху і вар'яцтва. У гэтай казцы пра наіўную танцорку і хціввага караля апошні выяўляецца чалавекам, стомленым і ад самога сябе, і ад свайго атачэньня. Які адчуў у сабе чалавечае каханьне. Першы, хто прачытаў «Маленькую балярыну», быў мой суразмоўца. І ягоная тагачасная рэакцыя на аповесьць шмат гаворыць пра атмасфэру пасьлясталінскай Беларусі.

— Калі памёр Сталін, ён напісаў «Маленькую балярыну». Абвініў Сталіна, што той дамагаўся вось такіх дзяўчатак. Я сказаў: «Дарагі мой, у цябе такіх зьвестак няма. Па-другое, вядома, што Сталін быў аскетам. Таму не пішы таго, чаго ня ведаеш». Воўка ўзьвіўся. Вылез у гэтае вакно. Пайшоў сеў на горку, якую цяпер зрэзалі. Пасядзеў пару гадзін у піку мне. Паказваючы, дэманструючы сваё незадавальненьне.

У лістападзе 1961-га году сябры выправіліся на Цэнтральную плошчу. Каб убачыць, як будуць валіць помнік нядаўняму правадыру.

— Мы ноч прастаялі. Але так і не дачакаліся. Помнік быў абкладзены мяхамі зь пяском. І хацелі танкамі зваліць гэтую фігуру. Зачапілі танк тросам, гусеніцы буксуюць, а помнік стаіць. Зачапілі другі танк. Ізноў тое самае. Мы ад-

стаялі ноч ды так і сышлі. Яго паваліліі потым. Караткевіч яго не любіў ніколі. Ён тады раней за мяне зразумеў, што Сталін дэспат.

Мінаюць дні, прыходзіць слава,
А грошай як раней няма.
І ходзіць у пальце каравым
Паэтаў мінскіх атаман.
Таму што люд мой беларускі
Жывая слава не кране.
І ён за кошт маёй закускі
На помнік эканоміць мне.

Гэта верш з рукапіснага альбому Ўладзімера Караткевіча, які ён падараваў сям'і Краўцоў у 1950-х. Альбом зь вершамі, сяброўскімі эпіграмамі, шаржамі.

— Мы былі вельмі небагатыя, мякка кажучы. І адным цудоўным днём Воўка разыграў такую сцэнку. Ён зьявіўся і сказаў, што я нарэшце разбагацею. Якім чынам? «Я, — кажа, — знайшоў склад, у які можна залезьці і скрасьці вельмі шмат паўлітровых бутэлек і здаць. Вельмі многа. Шалёныя грошы». Валасы ва ўсіх сталі дыбарам. Усе пачалі ўгаворваць. Скончылася тым, што ў канцы вечара ён разрагатаўся. Пасьля ён гуляў у вар'ята. Аднойчы прыйшоў з такімі вырачанымі вачыма. Цьвёрда трымаўся ўвесь вечар. Усе пра яго турбаваліся. А ён гуляў жалезна гэтую ролю. Гуляў яе да канца. Умеў разыграць.

Са старых фатаздымкаў 1950-х, якія сёньня ня маюць цаны, малады Караткевіч нам паўсюль усьміхаецца. Вось ён у Салігорску, надзеўшы шахтарскую каску, удае зь сябе плякатнага перадавіка, вось ён у ролі безнадзейнага вар'ята, вось ён у кампаніі сяброў разваліўся на траве. Які здымак ні вазьмі, паўсюль нам усьміхаецца вельмі малады і прыгожы чалавек. Усьміхаецца адкрыта, «ад вуха да вуха». Як шчасьлівы чалавек, у якога наперадзе шмат грандыёзных і прыгожых плянаў, у якога шмат веры ў сябе і сваіх сяброў, у якога цьвёрдая глеба пад нагамі і бязвоблачнае беларускае неба над вясёлай галавой. Ужо выдадзеныя некалькі паэтычных кніг, выйшла першая кніга прозы, распачаты гістарычны раман пра Каліноўскага. Чалавек з радасьцю глядзіць у аб'ектыў фотакамэры, яшчэ не падазраючы пра ўсё тое, што чакае яго ў заўтрашнім дні.

Што вы мне кажаце пра «Пабеду»,
Дачу, інфаркт і стары гемарой.
Студэнт-першакурсьнік два тыдні не абедаў,
І вось ён на танцах зь дзяўчынай сваёй.
Бэзу вільготны салодкі водар.
У яго руцэ каханай рука.
І гэта нічога, што зусім не па модзе
Локці вылезьлі зь пінжака.
А вальс цячэ, і ігрывая мара
Танцуе зь ім між дрэў над ракой.
Думаеце, ён бы згадзіўся зараз
Зьмяніць яе на ваш гемарой?

Малады і вясёлы, хоць суткі ня еўшы,
Зь непахісным сумленьнем у добрых вачах
Ён ляпае адарванай падэшвай
І шчасьце, шчасьце трымае ў руках.

Перабіраючы фатакарткі маладога Караткевіча, я каторы раз уразіўся, наколькі моцна адрозьніваецца гэты Караткевіч ад таго, перадсьмяротнага. Быццам два розныя чалавекі. Першы — танклявы віхрасты маладзён. Другі — пацяжэлы, з азызлым тварам, хваравіты чалавек няпэўнага ўзросту. У свае 50 ён выглядаў гадоў на 15 старэйшым. І вельмі хворым.

Сябры-пісьменьнікі ў размовах са мной стараліся ня тое што хаваць тэму ягонай хваробы, а неяк асьцярожна яе абыходзіць, хіба на хвілю закранаючы яе ў трохі анэкдатычным антуражы. Быццам гэтая тэма можа кінуць непажаданы цень на сьветлы вобраз клясыка. Але бяз гэтай тэмы вобраз Караткевіча няпоўны і няпраўдзівы. І нізкага тут я ня бачу нічога. Адно трагічнае.

Валянцін Кравец на гэтую тэму гаворыць адкрыта, не пазьбягаючы ніякіх падрабязнасьцяў. Гаворыць зь яшчэ жывым болем. Бо сябра ён страціў не ў 1984-м. А значна раней. І разрыў паміж старымі сябрамі ўтварыла якраз п’янства Уладзімера Караткевіча.

У аўтабіяграфічным нарысе «Дарога, якую прайшоў» Уладзімер Караткевіч паведамляе наступнае:

*«Напісаў я за дзевяць год — горы. Нават трагедыю белым вершам, жахліва тр-рагічную. Але друкавацца і ня думаў. У канцы першага году маёй настаўніцкай работы адбылося, аднак, нечаканае. Менскі сябра папрасіў мяне даслаць яму вершы, пачытаць. Я даслаў, як бывала і раней. А ён панёс іх у часопіс „Полымя“. І раптам улетку 1955 году я атрымаў нумар часопіса са сваім вершам „Машэка“. Гэта пераламіла мой лёс».*

Караткевіч не назваў імя свайго менскага сябра. Сшытак у «Полымя» аднёс Валянцін Кравец. Верш, на які адразу зьвярнулі ўвагу, быў «Заяц варыць піва». Дзякуючы «менскаму сябру» Караткевіча заўважылі. П’янства, па словах Краўца, пачалося на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве. 1960 год. Уладзімеру Караткевічу ўжо трыццаць.

— Пасьля Масквы гэта працягнулася ў Менску. Я прыходзіў да яго на Веры Харужай. Адчыняюцца дзьверы. На парозе мама. «Валік прыйшоў!» Ён зрываецца зь месца. Апраўданьне ёсьць! Бяжыць, побач крама, прыносіць дзьве бутэлькі гарэлкі. Сядаем. Адну бутэльку ён адразу — за кнігі. Выпівае 150-200 грам. «Прабач». І пайшоў лёг спаць. Усё. Валік, як дурань, сядзіць. Раз. Два. Тры. Пяць. Дзесяць. І я перастаў хадзіць.

Былое сяброўства згасала. Часам адбываліся выпадковыя сустрэчы. Адна з апошніх — каля авіякасаў на вуліцы Карла Маркса, дзе Валянцін купляў білет на самалёт у Маскву.

— Раніца. Бачу, выходзіць Воўка з-за павароту. Бярэ папку паміж ног. Закурвае. А курыў ён толькі «Беламор». Закурвае, ідзе насустрач мне. «Валік, пойдзем зараз у „Патсдам“». А час дзевяць раніцы. Які „Патсдам“! Я лячу зараз у Маскву. «Ды кінь ты гэта ўсё!»… Шкада яго. Колькі яго ні спрабавалі…

Што Ўладзімера Караткевіча штурхала да заўчаснай сьмерці? Ці толькі ўсемагутная хвароба? Бо піў ён, заўважым, ня дзеля таго, каб «працягваць сьвята», актыўнічаць, ператвараць п'янку ў вар'яцкі пэрформанс. Ён піў, каб адразу адключыцца. Прымаў максымальную дозу. Не кілішак, а поўную двухсотграмовую шклянку. Пра гэта мы ўжо не даведаемся ніколі. Як не даведаемся, якім узьлётам дараваўся яму паэтычны радок і чаго каштаваў пісьменьніку кожны ўзмах цэнзарскіх нажніцаў.

— Я калі на яго паглядзеў здалёку, калі ён выступаў на сваім 50-годзьдзі… Аплыўшы твар п'яны, вырачаныя вочы, я Воўку не пазнаў. За год да яго сьмерці памерла яго Валя. Памерла ад раку. І трэба ж, я сядзеў у некага ў гасьцях. Думаю: ай, даўно не званіў Воўку. Набіраю тэлефон. Чужы голас. Мне Валодзю. «Ён ня можа. У яго Валя памерла». Вось прыляцелі мы туды. Там жонка Быкава, некалькі чалавек. Воўка

п'яны, у сьлязах увесь. Абняў мяне. «Гора!» Ну што ж, — кажу. — Ты ж ведаў, што яна памрэ. Гэта ж рак. І вось так патроху ўсё гэта скацілася. Талент, які загублены гарэлкаю.

За год да сваёй сьмерці Караткевіч кінуўся на радзіму, у бацькоўскую хату. У надзеі, што родныя сьцены дапамогуць акрыяць? Але не атрымалася.

— Воршу ён вельмі любіў. Тую Воршу, калі ён там жыў. Калі былі прыватныя дамкі на беразе Дняпра. Калі гэта была дарэвалюцыйная школа, калі быў калярытны дарэвалюцыйны піўзавод, гэтыя старадаўнія будынкі, Дняпро… Гэта ня тая Ворша, якая цяпер.

У 1980 годзе да 50-х угодкаў Караткевіча ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшаў ягоны двухтомнік. Прадмову да выданьня напісаў Васіль Быкаў. Чытаючы сёньня тую прадмову, цяжка пазбавіцца ад уражаньня, што чытаеш нэкралёг. Хоць Караткевічу жыць яшчэ чатыры гады. *«Лепшыя зь яго твораў безумоўна надоўга застануцца ў скарбніцы роднай літаратуры, бо на ягоныя тэмы можна, напэўна, напісаць горш, а магчыма і лепш, але напісаць так, як гэта зрабіў ён, ня зможа ніхто. Мастакі з такім выразна адметным талентам, з такім своеасаблівым бачаньнем сьвету нараджаюцца ня часта»*.

*2005, люты*

# Прыватныя гісторыі

Каб адчуць розьніцу паміж патаснымі артыкуламі пра бацьку беларускага гістарычнага дэтэктыву і рэальна жывым Караткевічам, дастаткова паслухаць гісторыю ад пісьменьніка Валянціна Тараса. Пра тое, як ствараўся расейскі пераклад раману «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» для часопісу «Нёман»:

— Калі Навум Кісьлік перакладаў «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», Валодзя літаральна не вылазіў ад яго на вуліцы Фрунзэ, 3. Як толькі Навум перакладзе які-небудзь разьдзел, так тут Валодзя. Абмяркоўваўся літаральна кожны разьдзел, яны спрачаліся, таму што Валодзя таксама лічыў сябе знаўцам расейскай мовы — ён жа быў выкладчыкам расейскай мовы ва Ўкраіне. І яны спрачаліся з Навумам. Навум хапае адзін слоўнік з паліцы, Валодзя другі… Гэта дало вялікі плён, таму што гэта выдатны пераклад. А дэталька такая: калі ўжо скончалі апошнія разьдзелы, калі Братчык са сваімі апосталамі недзе начуюць і трэба схадзіць у вёску. А гэта быў той час, калі гарэлку забаранілі прадаваць пасьля сямі гадзін вечара. Валодзя кажа: дай, Навум, я тут адзін сказ папраўлю, а ты так і перакладзі. І напісаў: Трэба схадзіць па гарэлку ў вёску, хто пойдзе? Ну, Юда згадзіўся. І Хрыстос-Братчык кажа: дык ты хутчэй, да сямі пасьпееш. І так гэта ў «Нёмане» і пайшло.

А вось гісторыя ад Генадзя Бураўкіна. Пра тое, як Караткевіча не пускалі ў маскоўскі рэстаран.

— Помню, калі Валодзя вучыўся ў Маскве і я прыехаў, пасялілі мяне ў гатэлі «Ленінград», ну і да мяне прыйшоў Валодзя. І кажа: «Гена, давай пойдзем да мяне ў інтэрнат». Я кажу: Валодзя, ну гэта ехаць, а ўжо вечар, цёмна. Давай, як бывала і раней, зьбегаю я ці мы разам зьбегаем у магазін і тут пасядзім у мяне. Валодзя як такі інтэлігентны (ён пры ўсім пры тым быў унікальны, натуральны інтэлігент) кажа: «Генадзь, як гэта так, ты прыехаў у Маскву. Масква — гэта мой горад. І я буду ў цябе ў нумары ў гатэлі сядзець. Не. Або едзем да мяне ў інтэрнат, або спускаемся ўніз у рэстаран гатэлю». Урэшце мы вырашылі спусьціца ў рэстаран. Пацікавіліся адзін у аднаго, ці ёсьць чым расплачвацца, прыкінулі, што для аднаго вечара хопіць. Спускаемся мы ўніз. А тады Масква была бедная на гэтыя ўстановы. І швайцар нас не прапускае. Усё. Мест нет. Мы і так і сяк, Валодзя нейкія жарты, а той: нікакіх! Вы мне бросьце! Нет і ўсё. Ну што ж. Адыходзім мы і я кажу: ну што, Валодзя, паедзем да цябе ў такім разе. А Валодзю ўжо гэта ўзбунтавала. Ён кажа: «Не! Мы будзем у гэтым рэстаране. Так, кажа, ты — інастранец, а я — паляк, які трошкі валодае расейскай мовай. Пайшлі». Ну а там людзей многа, відаць, швайцар нас асабліва не засёк. Валодзя да яго і — па-польску. Ён жа поль-

скай свабодна валодаў. Маўляў, ці можа нам пан прапанаваць… мы тут упершыню… гэта мой зь нейкай там ледзь не з Лацінскай Амэрыкі сябра, мы пісьменьнікі, прыехалі… Той замітусіўся, выклікаў мэтрадатэля, тут жа нам знайшлі столік, пасадзілі, падбеглі афіцыянты. І вось мы з Валодзем пасядзелі, пагаманілі, узялі чарку, закусілі, выходзім адтуль, Валодзю трэба ехаць у інтэрнат у свой. І ён кажа: ты знаеш, Генадзь, як прыемна ў Савецкім Саюзе быць іншаземцамі…

Драматург і энцыкляпэдыст Алесь Петрашкевіч у канцы 1970-х працаваў загадчыкам аддзелу культуры ЦК КПБ.

— Загадчык аддзелу культуры ЦК прыходзіць на працу ранавата. Званок. Падымаю слухаўку. І чую: «Што вы там робіце, вашу маць!» Я кажу: Уладзімер Сямёнавіч, што здарылася? Добры дзень. «Здароў. Гэта мне ў вас папытацца, што здарылася… Толькі што пазваніў мітрапаліт Філарэт і прасіў пазваніць у ЦК, бо ў такой-та вёсцы разбураюць царкву XVII стагодзьдзя, без адзінага цьвіка зробленую, пад аховай дзяржавы». Я кажу: гэта нейкая бздура. «Ня бздура, братка, памажы». І я з поўнай упэўненасьцю абяцаю: Уладзімер Сямёнавіч, зраблю ўсё, што магу. Званю ў райкам, пытаюся ў сакратара райкаму. Той робіць выгляд, што нічога ня ведае, але таксама абяцае мне, як я Караткевічу, і я яго прашу мне заўтра пазваніць. Назаўтра ён мне ня звоніць. Званю я яму. Ну

што з царквой? «А вы ведаеце, нехта ноччу абліў бярвеньне саляркай і спаліў». Паклаў слухаўку. Званок. «Здароў, Алесь». Здароў. «Я ўжо ўсё ведаю». Я кажу: ну добра, што ты сам ведаеш. «Мудакаватае ваша ЦК і ўсе вы мудакаватыя. А цябе я паважаю. За п’есу пра Скарыну „Напісанае застаецца“». Вось такі ўвесь Караткевіч. Абсалютна дакладная рэакцыя і абсалютна дакладныя паводзіны ў гэтым выпадку.

Аказваецца, сказаць «дзякуй» Караткевічу мае за што і Музэй народнай архітэктуры ў Строчыцы. Бо пісьменьнік спрычыніўся да стварэньня музэю самым непасрэдным чынам. Алесь Петрашкевіч памятае, як Караткевіч езьдзіў з Машэравым выбіраць месца для беларускага скансэну.

— Машэраў кажа: «Паедзем выбіраць месца для музэю архітэктуры і быту на адкрытым паветры. Дык пазвані Караткевічу, ён многа ведае, мы яго возьмем з сабой». Званю. Добры дзень, Уладзімер Сямёнавіч. Ці добрай раніцы… «Здароў». Я кажу: вось такая справа. Ён кажа: «Ай, братка, як гэта цікава і хораша, але ж…» Я кажу: што — але ж?.. «Я ўжо ўзяў на грудзь». Я кажу: многа ўзялі? «Ну, так, норму ўзяў». Я кажу: ну, вырашайце самі. Я магу прыкрыць, вядома. Скажу, што не знайшоў, не дазваніўся. Але паездка такая… «Я разумею, я разумею, што такое музэй». Ён ня столькі пра Машэрава думаў, колькі… «Прыеду! Калі што, я гэта ўсё на цябе зьвярну». Я кажу: ну зьвярні. І ўсё чакаў, як

жа ён зьверне. Прыехаў. Нармальны Караткевіч, усё. Машэраў выйшаў, у машыну селі, едзем. Нешта гаварылі, потым стала ціха. І Караткевіч кажа: «Пётра Міронавіч, вы не Машэраў. Ваша прозьвішча зрусіфікавалі. І вы — француз. Мон шэр, ма шэр — зрусіфікаванае Машэр-ов». Машэраў расьсьмяяўся, а Караткевіч кажа: «Ну, калі я што-небудзь змарозіў, Пётра Міронавіч, дык гэта Петрашкевіч вінаваты». Той зьдзіваўся: «А чаму Петрашкевіч?» — «А ён мне пазваніў не да таго, а пасьля»… Пасьля я пісаў нарыс пра Машэрава і высьветліў, што сапраўды прозьвішча Машэрава — Машэра. Бацька яго Машэра.

На свае 50-я ўгодкі Караткевіч атрымаў ордэн Дружбы народаў. Гэта была адзіная дзяржаўная ўзнагарода ў ягоным жыцьці і адзіны юбілей, які адзначаўся на дзяржаўным узроўні. Праз чатыры гады Караткевіча ня стане. Паэт Сяргей Законьнікаў, які ў той час працаваў загадчыкам сэкатару мастацкай літаратуры ЦК КПБ, быў непасрэдным удзельнікам той гісторыі.

— Надышоў 1980 год. 50 гадоў Караткевічу трэба адзначаць. І я прыходжу да Аляксандра Трыфанавіча Кузьміна і кажу: прапаную, улічваючы заслугі Валодзі, давайце мы прадставім у ЦК КПСС яго на ордэн Леніна. «Ну ты і загнуў! Ён жа закаранелы нацыяналіст!» Я кажу: Валодзя ніякі не нацыяналіст. Ён проста сапраўдны патрыёт Беларусі. Кузьмін зморшчыўся: «Ды знаю я, знаю, але гэта нічога не

мяняе». Я кажу: а як, Аляксандар Трыфанавіч, наконт «трудавіка»? (Гэта ордэн Працоўнага чырвонага сьцяга на чыноўніцкім жаргоне.) Ён падумаў і сказаў: «Цяжка будзе ўгаварыць бюро ЦК. Калі толькі Пётра Міронавіч сваё слова скажа». Машэраў тое слова сказаў, і дакумэнты пайшлі ў Маскву. Нарэшце ў самы прытык да юбілею прыходзіць з Масквы стужка. І, аказваецца, Валодзя ўзнагароджаны, але не «трудавіком», а ордэнам Дружбы народаў. Караткевіч паставіўся да ўсёй гэтай валтузьні-мітусьні, як заўсёды, з гумарам. Сказаў: «Вельмі шаную гэты ордэн, таму што я і праўда дружбу народаў усё жыцьцё ўмацоўваю. Тут у Беларусі я беларускі нацыяналіст. Калі вучыўся і працаваў ва Ўкраіне, дык быў украінскім нацыяналістам». На свой урачысты вечар Валодзя прыйшоў з ордэнам і падвяселены чаркаю. І ў кабінэце Максіма Танка, дзе звычайна распраналася начальніцкая багема, Караткевіч адкалоў нумар. Ён у прысутнасьці ўсяго начальства — і партыйнага, і літаратурнага — зьняў свой ордэн і прышпіліў на штрыфэль пінжака мне. «Панасі, браце, я ведаю, што гэта не яны, а ты спрыяў мне атрымаць узнагароду». Была такая самая нямая сцэна, як у гогалеўскім «Рэвізоры»...

Працягнулася ордэнская гісторыя віншаваньнем Караткевічу ад першага сакратара ЦК КПБ Ціхана Кісялёва. Машэрава, які адпраўляў

паперы на ўзнагароду ў Маскву, на той час ужо не было ў жывых.

— Калі прыйшла стужка, што ён узнагароджаны, Ціхан Якаўлевіч Кісялёў адлятаў з дэлегацыяй у Баўгарыю. І памочнік Ціхана Якаўлевіча Віктар Якаўлевіч Крукаў хуценька знайшоў мяне і сказаў: «Сярожа, нямедля зьвяжы мяне з Караткевічам. Яго хоча павіншаваць Ціхан Якаўлевіч». Я адразу пабег у хату, званю, адчыняе дзьверы Валя, жонка. Дзе Валодзя? Кажа: у ваньне ляжыць, мыецца. Кажу: так, давай табурэтку, у цябе тэлефонны шнур доўгі? Кажа: ёсьць. Мы гэта падключаем з Валяю, я цягну табурэтку, стаўлю каля яго. Ён зь пены высоўвае галаву і кажа: «А чаго ты тут сядзіш у маёй ваннай?» Я кажу: Валодзя, усё нармальна, усё выдатна. Цябе ўзнагародзілі ордэнам, прыйшла стужка. «Ды ты што?» Ну праўда, зараз ты будзеш гаварыць зь Ціханам Якаўлевічам Кісялёвым. «Ды не жартуй ты, браце, дай мне дамыцца». Я кажу: Валодзя, я цябе прашу, дай сюды руку. Ён высоўвае руку зь пены, я яму ўкладаю тэлефонную слухаўку і кажу, бачачы, што ён трошкі ня ў тым настроі: ты толькі яму нічога не расказвай, ты толькі яму падзякуй простымі фразамі, бо па тваім языку будзе адразу бачна, у якім ты стане. Той яшчэ нічога ня ўцяміў, але слухаўку ўзяў. І я кажу: можна, злучайце. Ціхан Якаўлевіч гаворыць, а я слухаю гэта ўсё. «Уладзімер Сямёнавіч, мы вас так паважаем, вы ў нас унікальны чалавек». Ён

і праўда яго вельмі любіў і паважаў. І вось яму добрыя словы гавораць-гавораць, а Валодзя, як я яго навучыў, кароткімі фразамі: дзякуй, пастараюся апраўдаць давер. За кожным абзацам Ціхана Якаўлевіча ідзе: дзякуй, пастараюся апраўдаць давер. Потым, калі гэта ўсё закончылася, адключыўся тэлефон, я сяджу на табурэце, гляджу на яго. А ён, увесь у пене, галава ўся ў пене, кажа: «Так, слухай, а чаго ты тут сядзіш?..»

Мастацтвазнаўца Ізабэла Гатоўчыц памятае той юбілейны вечар да дробязаў.

— Увогуле гэта была нечаканая справа для Валодзі і для ўсіх. Валодзя трымаўся, з аднаго боку, незалежна, а з другога боку, ён не любіў, што называецца, мільгаць. І вось аднойчы, калі Валодзю споўнілася 50 гадоў… Але гэта ўжо быў час, калі многае зьмянілася, калі клімат ужо памякчэў… І мы дазнаёмся, што Валодзю прысуджаны ордэн Дружбы народаў. Валя вырашыла гэта сьвяткаваць. А ордэн уручалі ў Саюзе пісьменьнікаў. Сабралася даволі многа народу. Караткевіч выйшаў на сцэну, і мы ўсе ўціснулі галовы ў плечы. Таму што Валодзя быў нападпітку і, па меры таго як гаварылася прамова аб узнагародзе, ён п’янеў на нашых вачах усё больш і больш… Ну а потым быў банкет. Былі накрытыя столікі з гасьціннасьцю Караткевічаў. І Валодзя перад усім народам апавясьціў, што гэты ордэн заслужыў ня ён, а ягоная жонка. Зьняўшы ордэн, ён павесіў яго на Валю. Паколькі ўсім было весела і ўсе танцавалі,

ордэн незаўважна ўпаў на падлогу. А калі яго паднялі, ён быў сплюшчаны і слаба напамінаў тую ўзнагароду, якую Валодзя атрымаў…

Гісторыі пра Караткевіча, якія мне даводзілася чуць, не заўжды былі вясёлымі. Ізабэла Гатоўчыц памятае, як была закранутая чалавечая годнасьць Караткевіча.

— Першай ластаўкай яго забясьпечанасьці стала апавяданьне «Былі ў мяне мядзьведзі», якое надрукавалі ў Гішпаніі, і Валодзя атрымаў ганарар. Гэта было вялікае шчасьце. Я добра памятаю гэтае жыцьцё на Харужай. Былі такія дні, калі папросту не было што есьці. І я памятаю адзін эпізод, калі мы прыйшлі з Валяй, і Валодзя, як заўсёды, раз госьць у хату, хацеў пачаставаць, але не было чаго паставіць на стол, і тады Валодзя сказаў: а я зараз пазваню Андрэю Макаёнку, ён мне грошы пазычыць. І Валодзя весела набраў нумар тэлефона Макаёнка і потым неяк так паволі паклаў слухаўку, і я ўбачыла — гэта адзін раз у жыцьці было — у яго на вочы навярнуліся сьлёзы. Ён пайшоў да сябе ў пакой, потым выйшаў, і Валя пачала дапытвацца, што яму адказаў Макаёнак. І Валодзя празь нейкі час сказаў, што Андрэй Ягоравіч яму сказаў так: у мяне грошы ёсьць, але яны ляжаць на кніжцы, а дзеля цябе я не пайду іх з кніжкі здымаць. І я памятаю, што Валодзя перажыў гэта даволі цяжка, таму што была парушана справа годнасьці.

P. S. Перачытваеш сёньня гэтыя гісторыі эпохі позьняга застою і нават міжволі ў нечым зайздросьціш галоўнаму герою. Мне не хапае фантазіі ўявіць, як Аляксандар Лукашэнка разам з Уладзімерам Арловым едуць у Курапаты. Абмеркаваць будучы мэмарыял. Ці як Праляскоўскі нагадвае Лукашэнку, што трэба не забыцца адзначыць узнагародай Андрэя Федарэнку. Як? Вы ня памятаеце, хто такі Праляскоўскі? Дык і Кісялёў, і Сьлюнькоў, і ўсе астатнія БССРаўскія ўладары засталіся толькі фонам для героя. Альбо артыкуламі ў вікіпэдыі. Так што шкадаваць трэба зусім не Караткевіча.



На гэтым месцы расла «груша над дзедаўскім домам». С. 149





Караткевічы і Мальдзісы перад «пад’ездам кавалераў». С. 142

Фота Валянціны і Ізабэлы, зробленае Караткевічам на бальконе свайго пакою. С. 156. Здымкі з архіву Ізабэлы Гатоўчыц





Звычайна раніца нядзелі праходзіла ў зьбіраньні смаржкоў. С. 160.
Здымак з архіву Ізабэлы Гатоўчыц

Ізабэла Гатоўчыц не пазнала былую «Юность». С. 161



За гэтым сталом была напісаная «Зямля пад белымі крыламі».
С. 156.
Здымак з архіву Ізабэлы Гатоўчыц





Для Валянціна Краўца Караткевіч найперш сябра маладосьці.
С. 174–186

Валянцін, Галіна і Ўладзімер на пікніку. С. 178.
Тут і далей здымкі з архіву Валянціна Краўца



Уладзімер Караткевіч з пляменьніцай Аленай. С. 167



Маленьне на Галіну. С. 178



Гульня ў вар’ята. С. 181





Вясёлы пасажыр дняпроўскага парахода

Удалы грыбнік




Салігорскі «стаханавец»



Элегия

Минаюць дні. Прыходзіць слава.
А грошай, як раней, няма,
І ходзіць у паліце карявым
Пастаў мінскіх атаман.
Таму што люд мой беларускі
Жывая слава не кране,
І ён за кошт маёй закускі
На помнік эканоміць мне.

30.III.60.

З рукапіснага альбому, які Ўладзімер Караткевіч падараваў Валянціну і Галіне Краўцам. С. 181




З рукапіснага альбому, які Ўладзімер Караткевіч падараваў Валянціну і Галіне Краўцам. С. 181

## «Мутнае вока»

Неяк слотнай восеньскай ноччу я сьпяшаўся на станцыю мэтро «Кастрычніцкая». Я бег праз Цэнтральны сквэр у надзеі пасьпець на апошні цягнік. Горад ужо сьцішыўся, каб заснуць. Ніводнага чалавека ў цёмным сквэры, рэдкія машыны на праспэкце, суворая грамада Дому афіцэраў і… я нават спыніўся ў нерашучасьці… слабое, ледзь заўважнае сьвятло з вокнаў даўно закінутага былога Дому мастацтваў. Разумеючы, што яшчэ хвіліна, і мне прыйдзецца дабірацца пешкі, я без ваганьняў збочыў у цёмныя задворкі. На тое прывіднае сьвятло зь нежывых закратаваных вокнаў.

Я ведаў, што ў гэтых, нейкім цудам не разбураных вайною і саветамі, мурах некалі быў царкоўны музэй, пасьля тут гучалі галасы ўрадоўцаў БНР. Але й па сёньня сярод менскай багемы гэты адрас дзякуючы кавярні для творцаў застаецца вядомы як «Мутнае вока». Хоць ужо

колькі гадоў дзьверы былога Дому мастацтваў не адчыняліся для ягоных заўсёднікаў. І раптам гэтае нерэальнае сьвячэньне сярод восеньскай ночы…

Сакрэт жоўтага сьвятла быў да крыўднага простым. Скрозь пыльную шыбу я ўбачыў голыя абадраныя сьцены вялікага пустога пакою, асьветленага наскрозь люмінэсцэнтным сьвятлом вулічнага ліхтара праз вокны фасаду. Два казённыя фатэлі каля супрацьлеглай сьцяны, пакінутыя ці забытыя тут невядома калі, толькі падкрэсьлівалі халодную няўтульную пустату некалі вельмі шумнага месца. Як мог я напружваў фантазію, намагаючыся ажывіць мёртвы дом гукамі нястройнага фартэпіяна, гучнымі тостамі, звонам посуду ды тлумам цыгарэтнага дыму. Нічога не атрымлівалася. Станавілася яшчэ больш халодна і няўтульна. Я зразумеў, што спазьніўся незваротна…

Вясною 1999-га я меў гонар у кампаніі літаратараў, чые імёны й творы вывучаюцца ў школе, зьезьдзіць на Полаччыну. З прапагандаю, так бы мовіць, сярод беларусаў роднага слова. У сьцюдзёным гатэлі засьнежанага Наваполацку, у кампаніі з Рыгорам Барадуліным, я не ўстрымаўся, каб не запытацца ў маэстра, а ці ня ён прыдумаў легендарную назву на нефармальнай мапе яшчэ савецкага Менску «Мутнае вока».

— Можа я, можа ня я, — засьмяяўся Барадулін. — Праз «Мутнае вока» прайшла цэлая армія актораў, паэтаў, празаікаў, філёзафаў, пра-

фэсараў, так сказаць. Усіх не зьбярэш. Бо гэта было адзінае месца, дзе пахла нейкай незалежнасьцю. Ну, нефармальна, таму што мікрафоны стаялі пад кожным столікам. Але можна было нешта гаварыць, і ўзьнікала ўражаньне вольнай багемы. Што ў нас ледзь не Манмартар.

Будынак царкоўна-археалягічнага музэю быў пабудаваны ў 1913 годзе да 300-х угодкаў Дому Раманавых. Між іншым, гэты дом — адзіны ўзор псэўдарускага стылю ў Менску. Усім сваім выглядам ён прызначаўся для царкоўных пяяньняў і строгіх абразоў. Ніяк не для багемных папоек. Зрэшты, пяяньні тут адбываліся. Частым госьцем «Мутнага вока» быў галоўны бас тагачаснай менскай Опэры Віктар Чарнабаеў.

— А ў наш час было: «Актёры первые едят, в меню мечтательно глядят. О, бедный архирейский дом. Я узнаю тебя с трудом»… — працягваў свае згадкі Рыгор Барадулін. — Зразумела, «Мутнае вока» не магло быць без Караткевіча. Я памятаю, быў нейкі вечар, мы прынесьлі з сабою нешта выпіць і ў буфэце яшчэ бралі. І Чарнабаеў Віктар Максімавіч нешта засьпяваў. І тут, вядома, Караткевіч не ўцярпеў. Як гэта яго нехта пераб'е! Наагул, Уладзімер не цярпеў канкурэнцыі ні ў чым. Ні ў мастацтве, ні ў выпіўцы. І вось Валодзя тут экспромтам сваім магутным голасам пачаў сьпяваць: «Багаты чалавек каня запражэ дый выедзе-е-е. А бедны чалавек жонку пакладзе дый выебе-е-е. Радуйся, сарока, радуйся, варона. Радуйся й ты,

верабей цудатворца-а-а!» Чарнабаеў ашалеў. Там усе ашалелі. Бо ў архіярэйскім так званым доме — і такі царкоўны хваласьпеў, і з такім тэкстам!..

Як добра, што некаторыя творцы для мяне застануцца знаёмымі толькі сваімі вершамі. А не асабіста.

— Я памятаю яшчэ, як у «Мутным воку» быў нейкі чарговы бэнэфіс Мележа, самага самазакаханага пісьменьніка Беларусі. І вось калі ён выходзіў, на шляху яму сустрэўся Міхась Стральцоў пад добрай мухай. І Мішу дужа не спадабаліся надта наваксаваныя Мележавы туфлі. Свае адносіны да клясыка Стральцоў выказаў тым, што, ня кажучы ні слова, стаў сваімі нячышчанымі ботамі заціраць нашмараваныя туфлі героя дня. Быў страшны скандал. Стральцоў, які невядома дзе начаваў, і Іван Паўлавіч — кадравы работнік ЦК і…

Пра тое, што Мележ быў сакратаром праўленьня СП, дэпутатам Вярхоўнага савету БССР, чальцом Усясьветнай рады міру і старшынём Беларускага камітэту абароны міру, цяпер можна даведацца толькі зь вікіпэдыі. Бо для ўсіх Мележ — аўтар «Людзей на балоце». А вось хто з маіх аднагодкаў памятае вершы Анатоля Вялюгіна? Сорамна, але пасьля барадулінскага апоседу для мяне гэтае паэтычнае імя назаўжды прапісалася ў «Мутным воку».

— Самым сталым кліентам «Мутнага вока» быў Вялюгін. У Вялюгіна былі два апорныя рэ-

стараны. Гэта рэстаран «Беларусь», дзе ў яго быў знаёмы афіцыянт — разьведчык былы, канечне кагэбіст, само сабой. А калі ўжо яму не хапала, ён тады ішоў у «Мутнае вока». А ён жыў насупраць цырку, у доме, які звалі «залаты фонд гаркаму партыі». У «Мутным воку» ён даходзіў да кандыцыі і мог заснуць. Тады званілі жонцы. Жонка забірала, вяла. Ну а пасьля ўжо раніцай назаўтра ці жонка, ці хто, ці мне было даручэньне занесьці п'яныя даўгі.

Актора Рамана Філіпава нельга назваць знакамітым. Хутчэй запамінальным. Хоць у ягонай кінакар'еры былі такія заўважныя ролі, як пан Дубатоўк зь «Дзікага паляваньня» і Ляпіс-Трубяцкой з «12 крэслаў», масавы глядач наўрад ці памятае ягонае імя. Ягонае грознае аблічча згадваецца найперш па фразе «Будете у нас на Колыме, милости просим» з кінакамэдыі «Брыльянтавая рука». Тое, што Філіпаў быў вядучым акторам Купалаўскага тэатру на працягу ўсіх 1960-х, для мяне было сюрпрызам.

— З «Мутнага вока» аднойчы выйшаў ноччу Раман Філіпаў. Выдатнейшы актор, расеец сам, зь Ніжняга Ноўгараду, але ён так вывучыў беларускую мову, што гаварыў лепш, чым многія нашы… І вось Раман Філіпаў, гэтая махіна, узьлез на трыбуну, зь якой урад тады вітаў на сваіх сьвятах шэсьці. Стаў на гэтай трыбуне і сваім магутнейшым голасам… ці кавалак з «Майн кампфу» прачытаў, ці ўрывак зь нейкай прамовы Гітлера. Прычым голасам фюрэра. Ну гэта

быў скандал страшны. І гэты выступ быў адной з прычынаў ягонага вяртаньня ў Маскву. Шмат чаго было там вясёлага. У «Мутным воку». Цяпер усё і не згадаеш.

Тады толькі выйшаў на экраны фільм «Звычайны фашызм», у якім рэжысэр Міхаіл Ром паказаў падабенства сталінскага і гітлераўскага рэжымаў. У тыя ж часы Гітлера гратэскна граў Уладзімер Высоцкі ў таганкаўскім спэктаклі «Палеглыя і жывыя». Таму «гітлераўская» прамова на савецкай трыбуне мяне не зьдзіўляе. Думаю, у выкананьні Філіпава гэта выглядала вельмі сьмешна. Шкада, што праз гэты выбрык Купалаўскі пазбавіўся добрага актора. Праўда, пасьпеўшы даць яму званьне заслужанага артыста БССР.

Я ішоў дадому начным праспэктам і думаў наконт праўдзівасьці адной высновы. «Усё адбылося так, як павінна было адбыцца. Таму ўсё, што намі страчана ўчора, сёньня ня мела шанцаў на жыцьцё». Выходзіць, ня варта плакаць па Менску зь Нямігай і Замкавай. А пагатоў сумаваць па замкнёных дзьвярах «Мутнага вока», якія ніколі ўжо не адчыняцца для вясёлых блюзьнераў. Будынак аддалі праваслаўнай япархіі… Шмат чаго яшчэ пасьпее забыцца, зьнікнуць і адрадзіцца наноў. Але, здаецца мне, жыцьцё гэтай вясёлай назвы ня скончылася з закрыцьцём Дому мастацтваў.

P. S. «Мутнае вока» ня зьнікла. Для новага пакаленьня гэта ўжо не забыты адрас, а назва

рок-гурту. А «дамоў мастацтваў» у сталіцы, дзе адбываюцца канцэрты, чытаньні, прэзэнтацыі і лекцыі, цяпер столькі, што няма сэнсу сумаваць аб тым, што аддалі царкве.

*1999, лістапад*

# Беларускае Чэлсі

Наймацнейшае ўражаньне Менск зрабіў на мяне ня нейкім маляўнічым кварталам ці будынкам, а звычайнай чорна-белай фатаграфіяй у юбілейным альбоме да 900-х угодкаў гораду. Сярод знаёмых сталінскіх краявідаў з ГУМамі ды КГБ там было і некалькі здымкаў старога Менску. Я доўга разглядаў адзін зь іх, намагаючыся прыпомніць адлюстраваную мясьціну. Зьняты з вышыні фрагмэнт гарадзкой забудовы нагадваў хутчэй старую Вільню — крывізною вулак, перапляценьнем праходных двароў і душэўнай прыземленасьцю дамкоў. Але я дарэмна напружваў сваю памяць. Гэта былі зьнесеныя на пачатку 1970-х кварталы вуліцы Нямігі.

Пасьля таго завочнага знаёмства я проста захварэў на тую незнаёмую Нямігу. Я зайздросьціў тым, хто калісьці хадзіў па яе тратуарах, хто некалі нешта набыў у яе крамках ці, як Адам Глёбус, шпурляў камяні ў яе ўжо нежывыя вокны ў 1972-м. Увесь сталінска-машэраўскі Менск не дараўноўваў Нямізе. Я гадзінамі прастойваў на мосьце каля Дому мадэляў і мадэляваў, якая б гэта вуліца магла быць сёньня. Каб пазбавіцца сваёй настальгіі, я пайшоў да старога менскага інтэлігента, паэта Валянціна Тараса.

— Гэта быў адзін з самых страшных раёнаў, у асноўным камяніцы: простыя, без аніякіх выгодаў, без архітэктурных упрыгожаньняў. Былі паўдраўляныя дамкі: першы паверх цагляны, другі — драўляны, невялічкія бальконы. Увогуле вельмі брудны й перанаселены раён. Там у асноўным жыла габрэйская бедната. Там жылі і рамесьнікі габрэйскія, і ювэліры, і шаўцы, і краўцы, і цырульнікі. Былі і ўкрапіны беларускага насельніцтва. Дарэчы, на Нямізе нарадзіўся й жыў паэт Сяргей Дзяргай.

Валянцін Тарас паглыбляўся ў свае ўспаміны, і Няміга пакрысе ажывала ў маім уяўленьні чорна-белымі кадрамі старога дакумэнтальнага кіно.

— У вайну ўсе габрэі пайшлі ў гета. Шмат прыватных рамесьнікаў Нямігі загрымелі яшчэ ў трыццаць сёмым. Іх маёмасьць была канфіскаваная, і яны ўсе зь сем’ямі былі высланыя. У асноўным ва Ўзбэцкую чамусьці ССР. На бераг Аральскага мора. Але вось гэтая нямiская традыцыя захавалася нібы ў паветры. І ў часе вайны там аднавіліся розныя прыватныя майстэрні. Нават існавала некалькі невялічкіх кавярняў.

Цёплая згадка пра «невялічкія кавярні» ня толькі пацьвердзіла колішнюю асацыяцыю са старой Вільняй. Дзякуючы ёй у старых дакумэнтальных кадрах пачаў зьяўляцца колер.

— Няміга была вельмі своеасаблівая, каларытная перш за ўсё сваім чалавечым асяродкам.

Там жыцьцё літаральна віравала. І вось пасьля вайны пайшло страшэннае нівэляваньне ўсяго нашага, усяго самаснага. Разбураны горад, разбураныя вёскі, усё паспальвана. Загінуў сапраўды кожны чацьверты, калі ня кожны трэці. І панаехалі з Расеі спэцыялісты самых розных кірункаў і прафэсіяў. Інжынэры, будаўнікі, настаўнікі й шматлюднае чыноўніцтва. І пачалося нівэляваньне гораду. Менск адбудоўваўся адразу ў клясычным імпэрскім сталінскім кшталце. Цяжкавагавыя гэтыя будыніны… Калі зьнікла Няміга, зьнікла і вельмі цікавая, нейкая шчымлівая такая нота — з жыцьця гораду, зь яго адметнасьці. Хоць ён ніколі вялікай прыгажосьцю не адрозьніваўся. Але ўсё ж такі былі нейкія акцэнты… менавіта нашы. Старога беларускага гораду. Дзе, на жаль, з аб'ектыўных прычынаў было мала беларусаў. Было больш габрэяў, палякаў, расейцаў. І ў той жа час гэта ўсё ж быў беларускі горад. І вёска беларуская, і мястэчка прыўносілі сюды калярыт такой правінцыйнасьці, крыху вясковасьці. Але ў тым і была прыемнасьць гэтай гарадзкой мэлёдыі.

Я слухаў старога менчука й ніяк ня мог зразумець — чаму Няміга не была апетая ў вершах? Я гартаў у бібліятэках беларускія кніжкі канца шасьцідзясятых у надзеі пачуць голас калі не пратэсту, дык шкадаваньня. Але ніякай трывогі ні ў кога не было. Наадварот. Вельмі аптымістычна гучаў адзін абзац з кніжкі «Горад і годы», таксама прысьвечанай юбілею 1967-га.

Артыкул распавядаў пра пляны будучых стратаў.

*«Вялікае значэньне для разгрузкі руху ў цэнтры гораду мае арганізацыя пасажырскага руху па лініі, якая дублюе Ленінскі праспэкт. Такім кірункам з захаду, згодна з генэральным плянам, зьяўляецца ланцуг магістраляў у складзе вуліц Горкага, Нямігі, Мясьнікова, Люксэмбург, Савецкіх пагранічнікаў. Каб выкарыстаць гэтую лінію, неабходна пабудаваць мост цераз Сьвіслач (ён ужо будуецца), пашырыць вуліцу Нямігу і праклясьці шляхаправод па вуліцы Люксэмбург».*

Адзіным тэкстам, прысьвечаным захаваньню вуліцы, быў артыкул у газэце «Правда» за 1969 год Зянона Пазьняка й Лявона Баразны:

*«Менск — горад з прамымі, шырокімі вуліцамі, з сучаснымі шматпавярховымі дамамі, зусім яшчэ юнымі паркамі й сквэрамі. Увесь ён так і сьвеціцца маладосьцю, хоць за плячыма ў яго ўжо дзевяць стагодзьдзяў і вялікая слаўная гісторыя. Каб хоць крышку пазнаёміцца зь ёю, трэба спусьціцца па Камсамольскай вуліцы ўніз…*

*Тут ціхія старыя вуліцы, нязвыкла вузкія й нават крыху цесныя. Асфальту няма. Замест яго — шліфаваны камень альбо проста брук. Тратуары аздобленыя пліткаю. Увечары спакойна гараць каваныя ліхтары ды мігціць сьветлавая рэкляма, запрашаючы зайсьці ва ўтульныя кавярні з самабытнымі й арыгінальнымі інтэр'ерамі. Адчыненыя дзьверы стыліза-*

*ваных у нацыянальным стылі крамаў, дзе прадаюцца сувэніры, вырабы народных майстроў з жалеза, дрэва, скуры, непаўторныя й чыста «менскія». Побач — букіністычная кнігарня, музэй-майстэрня старажытнага рамяства, турыстычнае бюро, клюб фотааматараў…*

*Але ўсё гэта можа аказацца нязбытным. Стануць на месцы старых, з чырвонай цэглы дамкоў высокія прыгажуны са шкла й бэтону, і можа быць, з часам нават вуліцу пераймянуюць — назавуць Нямігу Сонечнай ці Паднябеснай… Прынамсі пакуль што архітэктары зь нядбайнасьцю канцылярыстаў закрэсьлілі нашую фантазію, якай мы толькі што падзяліліся».*

Уяўляю, якія паблажлівыя ўсьмешкі гэты артыкул мог выклікаць тады ў будаўнікоў сталіцы, якія плянавалі ўзьвесьці, як пісаў у часопісе «Строительство и архитектура Белоруссии» архітэктар Ігар Мусінскі, «беларускае Чэлсі, толькі лепш». Аўтар, пэўна, меў на ўвазе ня лёнданскае прадмесьце, а небасяжны раён Мангэтану. Праўда, на вялікі жаль архітэктара, ягонаму праекту не наканавана было ажыцьцявіцца цалкам. «Чэлсі», толькі горш, паўстаў на заходнім баку вуліцы. А зь першымі павевамі дэмакратыі зьявілася і пытаньне пра далейшы лёс усходняга боку. На якім, згодна праекту Мусінскага, мусілі стаяць хмарачосы. Архітэктар няспраўджанага праекту дзяліўся сваімі думкамі:

*«Я не гісторык архітэктуры. Але нават ня будучы ім, магу з пэўнай ступеньню аб’ектыўнасьці меркаваць пра каштоўнасьці падманныя і сапраўдныя. Па-мойму, кожнаму неперадузятаму чалавеку ясна, што ўзводзіць у ранг гістарычных помнікаў старыя хлявы, адна- і двухпавярховыя дамы, разьмешчаныя паміж вуліцамі Нямігай і Рэвалюцыйнай, проста несур’ёзна. Цяжка нават уявіць, як могуць гэтыя разваліны, у прамым і пераносным сэнсе, быць у гармоніі з сучасным комплексам заходняга боку».*

*1999, сьнежань*

# «Галубыя Дунаі»

Менск — горад цікавы, прычым ня гэтулькі для турыстаў, колькі для саміх менчукоў. Асабіста для мяне найбольшае менскае задавальненьне — не тэатры й храмы, не музэі й рэстараны. А жывыя ўспаміны карэнных менчукоў, якія пасьпелі ўбачыць на гэтым самым месцы зусім іншы горад. Зь іншымі вуліцамі, зь іншымі дамамі. Нават быццам зь іншым паветрам.

Старыя менчукі — удзячныя апавядальнікі. Ці ня дзякуючы таму, што адрасы іхнай маладосьці страчаныя для іх назаўжды? Вось што мне аднойчы распавёў пра Нямігу пісьменьнік Міхась Герчык.

— У той час большасьць з нас не разумела, як важна захаваць гэтыя камяні, гэтыя склепы, гэтую даўніну. Гэта ж гісторыя, гэта кавалак нашай гісторыі. Там быў наш унівэрсытэцкі інтэрнат, праз які мы ўсе прайшлі. Там быў вялізны пакой на васямнаццаць ложкаў. Гэты інтэрнат на Нямізе — ён жа ж быў легендарны. Адна зь першых легендаў была зьвязаная зь першым паваенным пакаленьнем, сярод якога былі і Валодзя Шыцік, і Жэня Курто, і Пімен Панчанка, і іншыя хлопцы. Хлопцы, якія вярнуліся з вайны. Салдаты, яны са стыпэндыяў, са сваіх пэнсіяў купілі на пляцы Волі ў нейкім «Галубым Дунаі», якіх тады процьма была,

купілі бочку піва. І прыкацілі гэтую бочку ў інтэрнат. Самае сьмешнае было ня тое, што яны купілі гэтую бочку піва, а тое, што на дзесяць чалавек, якія купілі гэтае піва й кацілі яго, ног было пятнаццаць, а рук было й таго меней. Усё гэта былі інваліды вайны. І кацілі яны хто мыліцай, хто плячом. І ўсьпёрлі наверх па двух вялізных пралётах гэтай старой лесьвіцы. Там жа ж столь была не такая, як у нас, а па чатыры, па пяць мэтраў вышыні. Вось яны ўсьпёрлі гэтую бочку піва, выбілі шпунт. Яно як дало адтуль фантанам, дык толькі падстаўлялі хто тазікі, хто міскі, хто што пасьпеў. Палова выцекла на падлогу. І нейкі студэнт з добрай паддачы выйшаў на бальконʼ, стаў на карачкі. А ўнізе па Нямізе нейкі міліцыянэр ішоў. Дык ён аббрахаў яго зьверху.

Усякі раз, слухаючы такія ўспаміны, я думаю — ці ня ёсьць галоўная адметнасьць Менску ў тым, што ён заўжды будзе горадам аднаго пакаленьня. Але гэта слабое суцяшэньне. Не пражыўшы тут і трох гадоў, я ўжо сам адкрыў для сябе свой сьпіс страчанага. Зрэшты, вернемся да аповеду Міхася Герчыка, які згадвае Нямігу.

— Вядома, Нямігу можна было захаваць, як цяпер захавалі стары горад. Які ў сутнасьці пабудавалі нанова. Як у тым анэкдоце: «Вось перад вамі фантан шаснаццатага веку, толькі сёлета скончылі пабудову». Можна было б захаваць і гэта, быў бы турысцкі куток. Ён быў

адметны, у Менску цяпер няма такіх. Гэтая вузкая вуліца, пакручастая, забрукаваная й забудаваная старымі будынкамі па сто, па дзьвесьце гадоў. Няміга была гандлёвым цэнтрам Менску. Там было шмат крамак, непадалёку быў Нізкі рынак. І за які месяц разбурылі й вывезьлі на сьмецьце. Пабудавалі такіх будынкаў, якіх ва ўсім сьвеце знойдзеш. Не было ашчаднасьці, не было беларускасьці, не было жаданьня захаваць Беларусь у сваім абліччы.

Менск пасьляваенны — ці быў ён хоць у нечым сапраўднай беларускай сталіцай, а ня толькі адміністрацыйным цэнтрам саюзнай рэспублікі? Дзякуючы Міхасю Герчыку старыя кадры паваеннага Менску — павільёны «Блакітны Дунай», чарга да помніка Сталіну, запоўненыя пад завязку трамваі — чароўным чынам ажываюць.

— Цэнтрам жыцьця ў той час быў Дом друку. Там былі ўсе рэдакцыі і там ашываліся ўсе пачаткоўцы. А паўз Дом друку па Савецкай праходзіў трамвай, чамусьці яго называлі «жалезкай». А за «жалезкай» былі тыя «Блакітныя Дунаі». Вось там і зьбіраліся. Журналісты, маладыя хлопцы, маладыя літаратары. Тыя, пра каго нехта пажартаваў, што «пішуць як пачаткоўцы, а п’юць як клясыкі».

«Блакітныя Дунаі». Чаму гэтыя невялікія драўляная павільёны на тры вакны мелі такую музычную назву? Можа, гэта напамін пра «ўзятую Вену»?

— Не скажу, каб мы дужа багата пілі, няпраўда гэта. Па-першае, і грошай не было. Проста зьбіраліся, бралі там па куфлю піва, нехта браў 50 грам гарэлкі. Па-другое, галоўнае было слухаць. Слухаць старэйшых, паэтаў, пісьменнікаў. Гэта як клюб быў. Я помню нават тую буфэтчыцу, яна вельмі паважала нас, суседзяў сваіх, журналістаў, маладых паэтаў. Ёй прыемна было, што мы сюды заходзім. Даходзіла да таго, што яна нам адпускала нават у крэдыт. Калі затрымлівалі ганарар ці зарплату. Прозьвішчаў яна ня ведала. Тоўсты ў яе быў сшытак такі, і яна запісвала па прыкметах. «Сівы, крывы, кульгавы». Калі зьнесьлі гэты шалман, Дзіма Мілашэўскі, цудоўны журналіст, вельмі харошы чалавек, ён знайшоў фанэрыну, на якой губной памадай было напісана: «кр. н. 12 р.». Гэта — крывы нос 12 рублёў. 12 рублёў ён ёй запазычыўся. Ён выразаў гэтую фанэрчыну і ў сябе ў кабінэце над сталом у рамачцы павесіў. Наагул жыцьцё было вясёлае, сьмешнае. Усё сьпісвалася на маладосьць.

— А страху не было? Усё ж быў яшчэ жывы Сталін.

— Не-не. Мы ж былі выхаваныя гэтай уладай. Мы верылі ў яе. Мы жылі тым, чым нам дурылі галовы. Мазгі ж у нас былі прамытыя да стэрыльнасьці. Мае вершы — «Слава роднаму Сталіну», «Любімый Сталін — наш ацец радной»… Я ўпершыню практычна пачуў пра тую жахлівую эпоху, калі пачалі вяртацца бе-

ларускія пісьменьнікі. Я пачуў ад Сяргея Грахоўскага, ад Алеся Пальчэўскага, ад Звонака, ад людзей, якія адсядзелі дзясяткі гадоў… Для мяне гэта было адкрыцьцё, адкрыцьцё маёй уласнай краіны. Гэтай жорсткай, сьляпой, бяздушнай машыны, якая перамалола лепшую частку ўсёй нашай інтэлігенцыі.

— А Вы памятаеце сакавік 1953 году?

— Памятаю, надзвычай добра памятаю. Пятага сакавіка, калі паведамілі пра сьмерць Сталіна, ужо на плошчы — я ішоў, быў такі вясеньні слотны дзень, пад нагамі сьнег ужо таяў, сырасьць, туман, — каля помніка Сталіну (стаяў вялізны помнік на Цэнтральнай плошчы) — чарга. Міліцыянэры выроўнівалі гэтую чаргу… Вялізная чарга людзей, якія ўскладалі кветкі. Да гэтага ідала бронзавага. Я добра помню старую, такога інтэлігентнага выгляду старую, яна несла вазончык і ўсё гаварыла, што сабе на сьмерць гэтую кветачку берагла, так во яна Сталіну роднаму нясе яе. Вечарам у пэдвучылішчы, у вэстыбюлі паставілі вялізны партрэт Сталіна, і мы стаялі ў пачэснай гэтай варце. Я, Гілевіч, Калесьнік, Ставер. Па-мойму, я проста прытомнасьць страціў. Там рухнуў каля гэтага партрэта ад гора, такога, што ўжо не перадаць.

— Пазьней стаўленьне да камуністаў зьмянілася на адваротнае?

— Пазьней, у 1960-я, я стаў працаваць у рэдакцыі дзіцячай літаратуры выдавецтва «Беларусь». У нас была вельмі харошая рэдак-

цыя, не было ніводнага камуніста, ніводнай жанчыны. Шахавец страшэнна ганарыўся гэтым, гэта была адзіная рэдакцыя. Ён сам быў беспартыйны, загадчык рэдакцыі Ўладзімер Міхайлавіч Шахавец, ён заўсёды гаварыў: «Не, у нас ні камуністаў, ні жанчын ня будзе». Але нам прыслалі на ўмацаваньне камуніста. Гэта быў Авяр'ян Дзеружынскі. У першы ж вечар мы пасадзілі яго з сабой, і, трошкі падпіўшы, ён цэлую ноч цягаў мяне па горадзе і сьпяваў свае песьні. Аказалася, што ў яго сто песень напісана — на яго словы. Я таксама быў ня вельмі цьвярозы і я паспрачаўся зь ім. Ну ня можа быць, каб сто. Ну дужа ж багата. Мы заклаліся на бутэльку, і потым ён цягаў мяне па ўсім горадзе, ужо цьвярозага. Я ўжо маліўся, што прайграў, я аддам табе гэтую бутэльку. «Не, — ён гаварыў, — лічы: сорак другая!» І сьпяваў, казьліным голасам, ноччу на ўвесь сонны Менск. Як нас міліцыя не забрала, ня ведаю, але гэтыя песьні — яны ў мяне дагэтуль у вушах гучаць.

— Увогуле жыцьцё было нясумнае, поўнілася жартамі?

— У нас тэлефон у рэдакцыі на адну нейкую лічбу адрозьніваўся ад тэлефона заводу безалькагольных напояў. Ну што ў рэдакцыі хлопцы любілі чарку — так сказаць, не бяз гэтага. Але кожны раз, як толькі мы пасьля работы зьбіраліся за сталом, званіў тэлефон і хто-небудзь пытаў: «Гэта завод безалькагольных напояў?»

І мы гаварылі «не». І нам гэта так надакучыла — якраз у тых і пытаюць, у каго трэба… Так што аднойчы Мікола Ваданосаў сказаў: «Так. Гэта завод безалькагольных напояў». — «Пазавіце Анну Іванаўну». — «Яе няма». — «А дзе яна?» — «У бальніцы». — «А што зь ёю?» — «Апэрацыя апэндыцыту». За два дні ён улажыў з апэрацыяй апэндыцыту ўвесь гэты завод безалькагольных напояў. Пасьля гэтага яны зразумелі і памянялі тэлефоны.

— Ці можна было назваць Менск тады больш беларускім за сёньняшні? Усё ж быў «Вячэрні Мінск» беларускамоўны, «ЛіМ» два разы на тыдзень…

— «Вячэрні Мінск» значна пазьней. Ён адразу пачаў выдавацца на дзьвюх мовах… Больш гаворкі было. На вуліцах гаварылі па-беларуску. У трамваях можна было пачуць беларускую мову. Многа было ўжо трасянкі ў той час. Але ж былі беларускія школы. Іх было куды больш, чым пазьней. Пры Хрушчову яны пачалі зьнікаць, калі прынялі гэтую дурную пастанову, што «па жаданьні бацькоў». А што бацькам? Што ім дзяцей перагружаць? Вось тады пачалі закрывацца беларускія школы. А вядома, гэта быў больш беларускі горад. Я ўжо не кажу пра Саюз пісьменьнікаў, дзе гучала толькі беларуская мова. Усе гаварылі па-беларуску, акрамя Хаіма Мальцінскага і Рэлеса. Яны гаварылі на ідыш, і нікога гэта не шакавала.

— А тады, у 1950-я, 1960-я, ці можна было пачуць ідыш на вуліцы?

— Не. Асабліва ў 1950-я. Што вы, жартуеце? Гэтая «справа лекараў», гэты жах, які мы перажылі. У мяне ў новым рамане, які я скончыў, «Зброя для забойцы», ёсьць эпізод, калі ў студзені 1953-га, у самы разгар гэтай кампаніі супраць «лекараў-забойцаў», таленавітага скрыпача, надзею музычнай культуры таго часу, дваццацігадовага хлопца выкінулі басякі, менская шпана, выкінулі з трамвайнай пляцоўкі проста пад колы машыны. Яго скалечыла, скрыпачу ампутавалі руку. І скончылася тым, што пазьней ён захварэў на шызафрэнію, не перажыўшы гэтага гора… На ідыш калі размаўлялі, толькі дома. На людзях стараліся не гаварыць.

Добра памятаю, як у час гэтай шасьцідзённай вайны, калі праходзілі гэтыя мітынгі, калі кляймілі сіяністаў, адзін з маіх аднакурсьнікаў зарагатаў і сказаў: «Хлопцы, а ці не павесіць нам у знак салідарнасьці з арабскімі сваіх жыдоў?» І атрымаў па мордзе. Ад беларуса. Ад беларуса…

— А Вы яшчэ засьпелі палонных немцаў?

— Так, палонныя будавалі Менск. У Менску яны будавалі будынак КГБ і дамы насупраць, дзе ўрэшце жыло ўсё начальства, кагэбэшнае і партыйнае. Я помню, у Бабруйску па першым часе палонных закідвалі камянямі. А пасьля сталі разумнейшымі трошкі. І хлебам часам дзяліліся. У саміх не хапала, проста шкада

было людзей. Неяк, вы знаеце, адпускае ад душы. Вось здавалася напачатку… У мяне ж загінуў бацька, у гета загінула мая цётка з двума дзецьмі, мой дзед. Загінуў мамін брат родны. Дзядзькі, цёткі, цэлая сям’я вялізная. Здавалася, што ніколі не забудзеш. Ну а потым што ж? Жыцьцё ёсьць жыцьцё.

— А якое ўражаньне стваралася ад Менску, які будуецца, які наноў нараджаецца на вачах?

— Самае лепшае. Мы ж пазьней сталі задумвацца над тым, што варта было б захаваць хоць тое, што захавала вайна. А тады што? Шырачэзны праспэкт, прыгожыя дамы з гэтымі сьвечкамі на фасадах. Палац прафсаюзаў, такі шыкоўны, падобны на сьметанковы торт. Ну што мы тады разумелі ў гэтым? Будаваўся прыгожы горад. Камароўка… Я ж помню гэтыя балаты. Акрамя тых шалманаў, любімым месцам была Камароўка. Камароўскі базар, дзе малдаване гандлявалі віном. Яны прывозілі вялізныя бочкі, літраў па 400. За рубель можна было ўпіцца да парасячага віску. І там можна было ўбачыць каго толькі хочаш з раніцы. І паэта, і мастака, і літаратара… Камароўка — гэта жахлівы бруд, гэтыя баракі, суцэльныя баракі. І раптам усё гэта пачалі зносіць, пачалі будаваць паліграфкамбінат. Пачалі будаваць завод электронных машын. Гэта здорава сапраўды, проста шкада таго, што згубілі. Бо горад без гісторыі. Адноўленае Траецкае прадмесьце — гэта мана, гэта «ліпа». Дзе цяпер Палац спорту, там было

месца, якое называлі Татарскімі гародамі. Там сапраўды многа татараў жыло, і я помню: нейкі гарод быў агароджаны сьпінкамі ад жалезных ложкаў. Дзе гаспадар панацягаў гэтых ложкаў, я ня ведаю, былі там і нікеляваныя, і проста жалезныя. Во такая была агароджа ад коз.

— Менск выглядаў пустынным без машын?

— Машын было вельмі мала. Вуліцы былі пустыя. Цяпер нават цяжка ўявіць, калі па праспэкце коцяць некалькі лічаных машын. Машыны былі ў начальства, былі ўжо «Победы», было некалькі трафэйных машын. А так балаголы былі. На Нямізе памятаю балаголаў пасьля вайны. Коні і такія пляцоўкі на колах, колы на гумавай хадзе…

— Колас. Якуб Колас. Жывы патрыярх. Ці хадзілі пра яго нейкія чуткі?..

— Мы яго любілі, і скланялі перад ім галовы, і ніякіх жартаў з гэтай нагоды і быць не магло. Я яго блізка бачыў некалькі разоў. Першы раз там за «жалезкай», у тым «Блакітным Дунаі». Ён жа непадалёк там жыў, і раптам у гэты шалман, дзе мы сядзелі, пілі нейкае піва, зайшоў дзядзька Якуб з Антонам Бялевічам. Мы проста ўсталі і вачэй не маглі адарваць. Што вы, жартуеце? Адна «Новая Зямля» была для нас і пачаткам, і канцом усяго нашага жыцьця. Я помню, якая жалоба была, калі ён памёр. Сапраўды ўсе адчувалі, што гэта вялізная страта для беларускай, для ўсясьветнай культуры. Я помню, як мы стаялі ў гэтай жалобнай чарзе таксама на той

жа плошчы Цэнтральнай, перад Домам прафсаюзаў, дзе паставілі труну, з кветкамі, як гэта было горка і цяжка…

Ці не са сьмерцю Якуба Коласа ў 1956-м у БССР дзяржаўная беларушчына пачала здаваць свае пазыцыі? Адліга ў Беларусь прыйшла ў выглядзе агрэсіўнай русыфікацыі, з разбурэньнем той архітэктурнай спадчыны, якую не дабілі ў трыццатыя, з урбанізацыяй сталіцы, якая пачала імкліва пажыраць навакольныя вёскі і страваваць у сваім чэраве колішніх вяскоўцаў. Зрэшты, а ці магло быць інакш?

*2002, сьнежань*

# У двары Халоднай сынагогі

Кожнага разу, калі сутыкаюся зь менскімі старажыламі, што згадваюць свой Менск, мяне агортвае дзіўнае пачуцьцё. Быццам размаўляем мы не пра сярэдзіну мінулага стагодзьдзя, а пра летапісныя часіны бітвы на Нямізе. Такі фэномэн, пэўна, магчымы толькі ў нашым фантастычным горадзе, дзе краявіды зьмяняюцца з кожным пакаленьнем менчукоў.

Зінаіда Латушкова калісьці жыла ў двары Халоднай сынагогі на Нямізе. Ад аднога гэтага словазлучэньня — «двор Халоднай сынагогі» — сёньня патыхае пракаветнасьцю. Бо нават старыя здымкі даюць толькі прыблізнае ўяўленьне, як усё было да 1968 году, калі пачыналі зносіць найстарэйшую менскую вуліцу…

— У нас у двары на задах была выграбная яма. Што гэта такое? Гэта вялікая зьбітая з дошак скрыня. Праз тое, што не было ў нас туалетаў, керагазы-прымусы, камунальныя кухні, дык усе вёдры памыйныя нясуць у гэтую скрыню. Плюх! З усімі адыходамі чалавечай дзейнасьці. І па двары з гэтай скрыні цячэ ручаіна. Нікога ад гэтага не ванітуе, абсалютна. Ніхто на гэта не зьвяртае ўвагі. Мала таго. Мы, дзеці, намагаемся тую ручаіну працягнуць. Палачкамі, усім чым можна. І пускалі караблікі. А туалет быў — вялізны хлеў пад сьцяной ваенкамату, чатыры таўчкі жаночыя, чатыры мужчынскія.

І вось у гэтыя туалеты, калі абвясьцілі, што трэба здаваць зброю… А які дурань пойдзе здаваць? Не, вядома. І няміжцы пацягнулі ўсё, што магчыма, у гэтыя дзіркі. Суседзі Данілавы цягнулі «Максім». А ён, зараза, ніяк не хацеў у гэты таўчок уваходзіць. А брат мой ППШ кінуў туды. Пасьля таўчкі пазасыпалі. І цяпер, калі былі раскопкі, чамусьці не гаворацць пра гэта.

Квадратны ў пляне будынак сынагогі з масіўнымі кантрафорсамі і доўгімі вокнамі, калі б яго вярнуць у сёньняшні Менск, паўстаў бы ўсутыч да каробкі Белпрампраекту. Сынагогу, зрэшты, і разбурылі пасьля таго, як каробка была ўжо пабудаваная. Але да 1968 году сынагога з усіх бакоў была схаваная за дамамі. За тымі дамамі, падмуркі якіх мы маглі назіраць падчас леташніх раскопак у гэтым месцы. Такім чынам, дом № 1 на Нямізе стаяў уздоўж вуліцы, быў даволі доўгі і ў сёньняшняй сытуацыі накрываў бы сабою ледзь не палову праезнай часткі. Да яго пад простым кутом прымыкаў дом № 3, які, таксама доўгі, ішоў пэрпэндыкулярна вуліцы і апаясваў сынагогу з тыльнага боку, упіраючыся ў пагорак, на якім стаіць старая сядзіба, сёньняшні ваенкамат. Менавіта ў гэтым, трэцім, доме і жыла нашая гераіня пачынаючы з 1944-га, калі Менск вызвалілі ад немцаў, да 1968-га, калі на Нямігу вярнуліся немцы кіношныя…

— У суседнім доме жыла татарская сям’я. Бедныя-бедныя. Сямёра дзяцей у іх было.

І мама выйдзе часам: «Муста, Шулька, Ібрагім! Прадайце пару цаглін!» Дом развальваўся, і вось яны выкалуплівалі гэтыя цагліны, хаця там яшчэ людзі жылі. Цагліна каштавала тры рублі. Прадавалі, каб хлеба набыць. Мы ўсе былі не з багатых сем'яў. Але яны былі — гэта жах! Я помню, самы маленькі — Мустафа. Хлопцы гулялі, перацягвалі адзін аднаго на сьпіне, гушкаліся сьпіна да сьпіны. Гэтага Мусту пачынаюць качаць, ён бяз майткаў, без усяго, на шырынцы ніводнага гузіка, і ўсё пралетарскае паходжаньне навідавоку… На першым паверсе сёмага дому жыла такая сям'я. Ён быў дэкаратарам у Опэрным тэатры, а жонка… Імя яе было Канстанцыя. А клікалі проста Косьця. Баба была такая — гром. І грала на гітары. І ўслончык быў пад вокнамі. І вось яна сядзе на гэты ўслончык, сьпявала прыгожа. Што яна сьпявала? «Ничего, что ты пришел усталый и на лбу морщинка залегла. Я тебя, родного, ожидала, много слез горячих пролила». Гэта былі рамансы душашчыпацельныя…

Напэўна, думка зьнесьці Нямігу засьвярбела савецкаму начальству адразу пасьля вайны. Бо чым больш пампэзным рабіўся Сталінскі праспэкт, тым больш кантраставаў зь ім быт Нямігі. А тут яшчэ турысты з-за мяжы.

— Людзі вельмі сябравалі. Спайка была дваровая. Нам у 1949 годзе рабілі рамонт. Называўся ён капітальны. Але без адсяленьня. Не было куды адсяляць. І ніхто не пярэчыў. Куды

дзявацца, усе ведалі. Усе дружна накіраваліся ў клеці. Зьявіліся імправізаваныя печачкі з вывадам коміна. Неяк прыехалі ў сынагогу габрэі з-за мяжы. І яны здымалі нашыя клеці. Недзе, напэўна, у амэрыканскіх газэтах зьявіліся здымкі, як жывуць савецкія людзі. Але самае цікавае, што мы не адчувалі гэтага ўбоства. Пацукі бегалі як танкі. А тут жа ж і сьвіньні ў людзей, да 1956 году дазвалялася трымаць. Куры, трусы над галавой. Але пацукі даймалі. І мы пражылі так месяцаў восем. А пасьля ўсе суседзі сабраліся і наладзілі баляваньне. Усім дваром. Закусон быў выбітны. Вінэгрэт, халадзец — гэта была пры́ма-закусь. Што цікава, самагону не было. Была гарэлка…

Зінаіда Латушкова нарадзілася да вайны ў сям'і афіцэра НКВД. Нарадзілася ў доме, дзе ў 1930-я гады жыло энкавэдэшнае афіцэрства. Гэты дом захаваўся. Сёньняшнія менчукі яго ведаюць — хто па помніку Максіму Гарэцкаму, які вызірае з кутняе нішы, хто па кавярні «Тройка» ў сутарэньнях. Па бацьку наша гераіня расейка. З маскоўскімі каранямі. Па маці — беларуска з францускім адценьнем. Яе прадзед, мэсьё д'Эрыяк, калісьці валодаў менскімі ваколіцамі. У прыватнасьці, вёскамі Масюкоўшчынай і Ржаўцам. Менавіта ад францускага продка ў спадарыні Зінаіды дрыготкае «р». Францускай мовай яна валодае ня горш, чым беларускай.

— Школьная гара была высокая. Яна згладжаная цяпер. Яе ўвогуле як такой цяпер няма. Дзе гэтыя прыступкі, там быў спуск на Нямігу. І зімою прыходзілі ўсе да нас катацца. А каталіся на тарантайках. Як растлумачыць, што гэта такое? Гэта сагнутая жалязяка. І самы шык быў, калі яна тонкая і ўся гнулася. На ёй было вельмі цяжка ехаць. Бо яна ўся ў руках бразгатала. І ты вылятаў з плошчы Свабоды на самую Нямігу з гэтай гары. Па Нямізе хадзілі машыны, але іх было няшмат. І, як правіла, на іх вазілі палонных немцаў на працу. Падчас вайны, напэўна, нейкі склад быў у Халоднай сынагозе. Бо, я памятаю, адчынілі браму і палонныя немцы сталі выгружаць адтуль парашуты. А мы ж былі такія голыя, лічы. І бабы ўсё гэта расхоплівалі. І пасьля хадзілі такія яркія, ружовыя, жоўтыя. Ён жа, шоўк, такі яркі. А ён жа ж быў часам кавалкамі: кавалак жоўты, кавалак чырвоны, і ўжо ж ня рэзалі. Хадзілі як клоўны…

На старой Нямізе над навакольлем дамінавала жоўтая царква. Сваёй адзінай неразбуранай вежай.

— Царква Пятра і Паўла. Я памятаю, як зь яе выкідалі абразы. Яе закрылі і рабілі там архіў. І з вокнаў выкідалі іконы. Ну, хто быў старэйшы, тыя бралі драўляныя, у акладах. Нам, падшыванцам, такіх не даставалася. Хапалі, што засталося. Мы казалі на іх «божанькі». У двары царквы, каля доміка, які захаваўся, брат мой

кажа, бомба да сёньняшняга дня ляжыць, якая не разарвалася. У двары. І ніхто ня ведае пра гэта. Бомба ўпала і ляжыць вось цяпер. Паміж гэтым домам і царквой.

Філёляг з адукацыі, спадарыня Зінаіда большую частку жыцьця працавала загадчыцай навуковае бібліятэкі БДУ. Яе кола зносінаў — гэта ўнівэрсытэцкая навуковая эліта. І яе пяціпакаёвая кватэра ў тым самым доме, дзе жыў Васіль Быкаў, больш нагадвае бібліятэку. Прынамсі, большай прыватнай бібліятэкі я ў Менску не сустракаў. Кніжныя шафы, кніжныя стэляжы і паліцы займаюць ледзь ня ўвесь пэрымэтар сьценаў. Але мы разглядаем старыя фатаздымкі.

— На Камсамольскай, па нашым баку вуліцы, першая крама была — вялізная — «Гаспадарчыя тавары». А насупраць была карасінавая крама. Пасьля, калі яе закрылі, там быў магазін панчохаў. І колькі ён быў, столькі там сьмярдзела ґазай. А ў «Гаспадарчых таварах» крышталь прадаваўся. На тыя часы гэта было — божа мой! Крышталь! І прадавалася золата. А на рагу паміж Камсамольскай і Нямігай стаялі прыватныя гандляры і прадавалі ірыскі. Паштучна. Гэта ж былі амэрыканскія рацыёны. Гуманітарная дапамога. Як яна разьмяркоўвалася? Часьцей за ўсё як хто скрадзе. Прынамсі, калі мы зь сястрой прыйшлі да нашых аднаклясьніц… А тата іх займаў пасаду «завсклад». Дык вось мы ў іх гулялі. І мы неяк залезьлі пад ложак — мячык закаціўся. І я пад

ложкам убачыла кавалак булкі з маслам. Пад ложкам булка з маслам! Карткавая сыстэма. І я адтуль выпаўзла ў жаху. І я Людзе кажу: «Люда, я штосьці табе хачу сказаць. Булка з маслам пад ложкам». Яна: «Цішэй, маўчы, не кажы». Я думала, што яна схавала, каб ніхто ня ведаў. Пэўна, у мамы скрала. Аказваецца, трэба было проста маўчаць. Бо іх прымушалі есьці. А яны гэта выкідалі. А для нас гэта быў недасяжны далікатэс…

Як жа пашанцавала вяскоўцам і жыхарам невялікіх гарадоў. У іх ёсьць магчымасьць прайсьці вуліцамі свайго дзяцінства. Пастаяць каля сваёй першай школы. Пакратаць дрэва, пад якім адбыўся першы пацалунак. Простыя рэчы, якіх пазбаўленыя жыхары многіх мэгаполісаў.

— А які быў гастраном! Гэта быў шыкоўны гастраном. Тады быў вялікі дэфіцыт цукру. А грэчка — гэта ўвогуле было слова замежнага паходжаньня. Самым жаданым для нас быў аддзел цукерак. І цукеркі былі — рубель сорак дзевяць. «Каўкаскія» называліся. Без абгорткі. Гэта была наша мара. Мы складваліся, куплялі сто грамаў цукерак на ўсіх. А селядцы былі выстаўленыя ў латках, нібы ў судзінках у больніцы. І селядцы былі розныя: і салодкія, і нарвэскія, і ўсялякія. І мы зьбярэмся зграяю, ідзем да гастраному. І пакуль нехта загаворвае цётку-прадавачку, нехта з гэтага латка селядца

сапрэ. І ў двор забяжым, гэтага селядца разьдзярэм. Усім дастанецца хоць трошкі…

Ці маглі на самай маляўнічай вуліцы Менску жыць немаляўнічыя людзі? Што ні чалавек — то гатовы пэрсанаж трагікамэдыі. Ледзь не напісаў «італьянскай». Не, паводле гратэску характараў Няміга не саступала.

— Вокны былі на ўзроўні поясу. І фіранак ні ў кога не было, мы проста не разумелі, што такая раскоша можа быць, як фіранкі. І вокны былі голыя. І ты ідзеш і ў вакно ўвесь быт бачыш. У нас жыў прафэсар Срэдзінскі. А ён быў астраном, «не от мира сего». На зорках памяшаўся. Вельмі любіў гігіену. І выконваў яе вельмі своеасабліва. Хадзіў абсалютна голы. Распранецца і па кватэры сноўдаецца сюды-туды. А людзі ідуць па вуліцы каля вакна. Божухна! Мужык па хаце ходзіць голы. А па начах ён выносіў тэлескоп. І ўсе дзеці двара зьбіраліся на вуліцу. Ён нам паказваў неба. А ў давяршэньне да тэлескопа выносіў «падушачкі», цукеркі. Ну як тут можна было не прыйсьці! Зорка — добра, але цукерка яшчэ лепш…

Акрамя голага астранома, жыў на Нямізе лётчык, які пайшоў на таран.

— Я ня памятаю яго прозьвішча. Не магу сказаць дакладна. У яго, напэўна, на глебе… гэтага тарану. У яго з галавой быў непарадак. Ён хадзіў у форме. Прычым форма ў яго была зборная. Ня лётная чыста. Фуражка ў яго была эмгэбэшная. Пагоны я ўвогуле ня памятаю, якія

ў яго былі. І ён прыходзіў да ўпраўленьня МГБ у дзень палучкі. Туды ж нельга было прайсьці бяз пропуску. Але яго ўсе ведалі, настолькі ён карыстаўся павагаю вялікаю. Усе афіцэры, што атрымлівалі зарплату, яму нейкую суму давалі. Ведаючы, што ўсё пойдзе на прапой.

На вузкім нямiскім тратуары зьяўляецца «дачка Леніна».

— «Дачка Леніна» была настаўніцай. Яе расстрэльвалі. Немцы. І яна ад гэтага кашмару звяр'яцела. Была вельмі чысьценька апранутая. Яна яшчэ была жывая ў 1978 годзе. Я зайшла тады ў кнігарню на Камсамольскай і яна зайшла. Старэнькая, падышла да прадавачак і кажа: «Вы разумееце, я дачка Леніна, і мне ніхто ня хоча дапамагчы. Робяць рамонт людзям, а мне не паставяць бронзавыя краны. Ну як дачцэ Леніна мне маглі б гэта зрабіць». У краме яе, пэўна, ведалі. Казалі: «Так. Вам трэба пайсьці ў домаўпраўленьне, і вам як дачцэ Леніна краны абавязаныя паставіць». І вось яна на вуліцу выходзіла, сама з сабою размаўляла. Спыніць цябе. «Вы ведаеце, з кім размаўляеце? Я дачка Леніна». Незнаёмцы абалдзявалі. А няміжцы ўсе яе ведалі…

Ці магла зьнесеная Няміга не пакінуць па сабе таямніцы? Вядома, не магла. Таямніца ляжыць паміж будынкам Белпрампраекту і гандлёвым комплексам. Там, дзе некалі стаяла Халодная сынагога.

— Падземны ход пад сынагогу ішоў. Дзьверы былі ўнізе і вялі прыступкі. Ну мы выбіраліся ня вельмі далёка. Брат казаў, што яны ішлі даволі далёка, але там было затым засыпана. Нас палохалі, што там чэрці. Казалі, што ход вядзе ў бок Сьвіслачы. Скляпеньні цагляныя. З чырвонай цэглы. І гэтыя падвалы сынагогі, калі пачалі яе бурыць… То прыехалі два габрэі, пэўна з-за мяжы. Вельмі старыя. І яны папрасілі экскаватарніка: «Вы нам прабіце ў гэтым месцы зямлю». Там, кажуць, падвалы сынагогі. Прайсьці праз катакомбы было ўжо немагчыма. І яны прасілі прабіць. «Вы нам, калі пралезеце туды, дайце толькі кнігі. Старадаўнія манускрыпты. А астатняе можаце забраць сабе. Хопіць вашым унукам». Што там было? І ён колькі ні біў, прабіў адно невялічкую дзірку. Не паддалося…

Старыя няміжцы пакідалі свае старыя дамы з радасьцю. Іх можна было зразумець. Яны ехалі туды, дзе вада ў кране, а не ў калёнцы. Дзе цёплая прыбіральня ў хаце. Дзе зімою грэюць батарэі. Дзе больш жыльлёвай плошчы. Асноўная частка былых жыхароў Нямігі апынулася ў хрушчоўках Курасоўшчыны. І на сёньняшні час гэта б нагадвала дэпартацыю. А тады… Тады ў мікрараён заходзілі дзікі і ласі з бліжэйшага лесу, каля дамоў расьлі грыбы, і ўчорашняе жыцьцё на Нямізе шмат каму здавалася такім незваротна далёкім…

*2004, кастрычнік*

# Вуліца ў форме літары S

У 1967-м Менск адзначаў свой дзевяцісотгадовы юбілей. Менавіта тады ўлады прынялі рашэньне пра поўны знос самай старажытнай вуліцы, якую не закранула нават вайна, самай легендарнай менскай вуліцы, ад назвы якой і пайшло летазьлічэньне сёньняшняй беларускай сталіцы. Лепшага «падарунку» гораду-юбіляру савецкая ўлада прыдумаць не магла. І вось, калі ўдарылі першыя чыгунныя бабы, на месцы гэтага працяглага зносу штодня стаў зьяўляцца адзін менскі школьнік. Ён нібы вычуваў, што творыцца нешта непапраўнае. Але зрабіць нічога ня мог. Ён нават ня меў фотаапарата. Адзінае, на што спадзяваўся, гэта на сваю дзіцячую памяць. Яго праганялі бульдазэрысты, вуліца ператваралася ў руіны, а ён кожны дзень пасьля ўрокаў сьпяшаўся на Нямігу.

Імя гэтага хлопчыка ў Беларусі вядомае. Гэта Ўладзімер Бярбераў, кіраўнік фольк-гурту «Ліцьвіны». У ягонай кватэры, застаўленай старымі грамафонамі, народнымі музычнымі інструмэнтамі, рарытэтнымі тэлевізарамі ды радыёламі, я слухаў успаміны пра Менск, якога ўжо няма й ня будзе.

— А была выдатная вуліца, у форме лацінскай S, тыповая барочная. Было вельмі шмат маленькіх двароў, і ўсе нейкай незвычайнай формы. Цяпер калі паглядзець, за крамай «Па-

насонік» стаіць мур. А гэта ж цэнтральны мур дому, які я цудоўна памятаю. За ім — другая палова дому, яна й цяпер стаіць. А з гэтага боку зьнесьлі. І бачна, што гэты дом быў убудаваны ў гарадзкі вал, ад якога сёньня не засталося нічога. Зьлева ад дому ёсьць пагорак. Дык вось калі на гэты пагорак забрацца, тады й відно, што гэта малюсенькі фрагмэнт валу. А тады на гэты пагорак вяла лесьвіца. Драўляная лесьвіца ішла зьлева ад дому. І ўсё гэта было далёка ў двах. Калі была Няміга, трэба было адзін двор прайсьці, у другі перайсьці й апынуцца перад гэтым домам, лявей якога лесьвіца. Па ёй падняцца. І далей чалавек апынаўся на драўляным памосьце, які быў над дваром ужо па вуліцы Рэвалюцыйнай. І памост таксама мацаваўся ў мурох дамоў. На ўзроўні трэцяга паверху. Чалавек памостам праходзіў крышку над дваром (яшчэ з памосту можна было паглядзець на дахі аднапавярховак) і спускаўся драўлянай жа лесьвіцай у двор — вузенькі, шырынёй з грузавік, дворык. І там была ўваходная брама. Здаецца, каб не было высакавата, можна было б не ісьці праз браму, а з памосту скочыць у гэты дворык. Увесь дварок быў зарослы бур’яном. Але ж самае цікавае — арка. Усё зьверху замкнута, завершана, як трэба. Выразна. Маўляў, калі цябе туды ня клічуць, дык і не ўваходзь.

Колькі разоў я чуў ад многіх паважаных мною менчукоў, што ня варта ліць сьлёзы па Нямізе. Маўляў, у архітэктурным пляне яна

была мала цікавая. Ня кажучы ўжо пра якасьць жыцьця. Што яна нават як турысцкі аб'ект ня вытрымала б канкурэнцыі з Траецкім прадмесьцем альбо зь Верхнім горадам. Што яна даўно й заслужана згубіла права называцца галоўнай вуліцай сталіцы на карысьць галоўнага праспэкту. Але Няміга — ня вуліца. Гэта ўнікальны раён. Калі глядзець на фатаздымкі Нямігі, зробленыя зь верхніх паверхаў Белпрампраекту, бачыш, што амаль усю прастору пахаванага раёну займаюць двары. Вузкі ручай вуліцы цячэ праз награмаджэньні дамоў.

— Прахаднымі былі абсалютна ўсе двары. Але большасьць двароў былі замкнёныя. І іх можна было зачыніць зь дзьвюх вуліц адначасова. А было шмат двароў і абсалютна замкнёных. Калі вароты ў арцы дому зачыненыя, дык усё, трапіць туды немагчыма. Пад'езды былі ўсе з двара. І ў адным двары быў, напрыклад, пад'езд, які меў мармуровую лесьвіцу, што проста з двара й пачыналася. Ад парогу і — пайшла на другі паверх. І ніякіх дзьвярэй. А нашто дзьверы? Двор жа замыкаецца. Таксама на Нямізе былі і драўляныя дамы. Сярод усёй гэтай досыць цеснай забудовы трапляліся звычайныя драўляныя аднапавярхоўкі, даўжынёй, можа, са дзьве хаты нармальныя.

Зайдзіце за дом Мусінскага. Там, дзе ў двор упіраецца вуліца Віцебская. Дом № 21, як бачыце, рэзка сыходзіць управа, у бок Рама-

наўскай слабады. Насупраць гэтага будынку стаяў іншы.

— За Нямігу ішлі дзьве вуліцы. Яны, дарэчы, скрыжоўваліся пад вельмі вострым кутом і зьліваліся далей у адну. І там, дзе яны зьліваліся, стаяў трыкутны двухпавярховы дом. Толькі востры кут у яго быў зрэзаны — роўна настолькі, каб там памясьціліся дзьверы. Гэта быў уваход у пад'езд. Прычым гэты дом меў лёджыі. Драўляныя, праўда, і ўсе яны ўяўлялі сабой адну суцэльную канструкцыю. Адна драўляная канструкцыя пакрывала ўвесь фасад.

Я гутару з чалавекам, старэйшым за мяне гадоў на дзесяць. А адчуваньне такое, быццам паміж намі — не адно стагодзьдзе. У якой яшчэ сталіцы магчымы падобны эфэкт? Я слухаю й жыва ўяўляю сабе і гэты лябірынт маленькіх двароў, і той трыкутны дом зь лёджыямі, і тыя сутарэньні, што падчас паводкі затапляліся вадой, бо за стагодзьдзі значна падрос культурны пласт зямлі. Не людзей, на жаль.

— Я сустракаў на свае паходы дзьве рэакцыі людзей, што жылі ў гэтым раёне: абыякавасьць і агрэсія. Некаторым гэта страшэнна не падабалася, маўляў, можа я злодзееў наводжу. А іншыя лічылі, што я шукаю нечага, каб паказаць замежнікам, каб дыскрэдытаваць сваю дзяржаву. Ну а трэцім падавалася, што вось такія цікавяцца, кажуць, што тут помнікі архітэктуры, але праз іх мы каторы год ня можам кватэры атрымаць. Дамы ня зносяць, і мы вымушаныя

ў іх жыць. Шчыра кажучы, я ня бачу тут ніякай лёгікі. Дай адразу кватэру таму, хто жыве пад аркай. Бо ён жыве ў нежылым памяшканьні. Фактычна ён ня мае кватэры. Звычайна пад аркай існаваў пакойчык, і вакно выходзіла ў арку. Дзьверы найчасьцей таксама. Гэта ўжо пры саветах сталі кватэры. А ў дарэвалюцыйны час гэта быў службовы пакой для таго, хто ў гэтую ноч дзяжурыць. Для вартавога.

Уяўляю сабе жыцьцё ў тым пакоі вартавога, у старым горадзе, на вуліцы, якой не відаць канца. Бо пэрспэктывы абмежаваныя паваротамі Нямігі. А над усім краявідам пануе Петрапаўлаўскі сабор…

— Пачалі зносіць Нямігу разам з чэхаславацкімі падзеямі. 1968 год. А зносілі так. Калі ісьці ад Траецкага, дык за Белпрампраектам увесь гэты бок зносіўся найперш. Годзе ў 1971-м ужо зносілі правы бок. Капітальныя дамы з чырвонай цэглы. Такія крэпасьці. З кованымі бальконамі. Памятаю кованы балькон з драўлянай падлогай… Шыкоўна выкаваны. Калі зносілі, было відно, што гэты дом стаяў тады, калі суседняга яшчэ не было. Бо былі закладзеныя дзьверы, такі выразны фігурны дзьвярны прахон. Былі й легенды. Быў, напрыклад, адзін дзядзька, які сьцьвярджаў, што калі ён быў малы, ён мог падваламі прайсьці праз усю Нямігу. Тут, у раёне цяперашняга Дому мадэляў, спусьціцца ў падвал і выйсьці амаль што насупраць «Валадаркі». Было такое ўражаньне, што

Менск будаваўся паводле прынцыпу «месца не павінна пуставаць». Хоць малюсенькі дамок ды ўставіць, калі ёсьць куды. Але за што можна ўхваліць продкаў — ім не прыходзіла ў галаву, што трэба нешта зьнесьці, каб новае збудаваць. Зносілі толькі драўляныя хаты ці будынкі, якія не маглі адрамантаваць. А больш капітальныя дамы заставаліся і з бакоў абрасталі дамамі наступнай эпохі. У 1974-м тое, што засталося, а заставалася прыкладна дзьве трэці забудовы, гэта ўсё за адну ноч узарвалі сапёры. Усё адразу. І той трыкутны дом таксама.

Колькі разоў я чую ад людзей рознага веку, але аб'яднаных жаданьнем любіць Менск, прыкладна такую фразу: «Ах, які б мог быць наш горад! Калі б…» Далей звычайна ідуць варыянты. Калі б царскія намесьнікі не былі такімі актыўнымі ў сваім жаданьні бачыць за вокнамі родны Тамбоў. Калі б фашысты з саветамі не бамбілі горад з такой інтэнсіўнасьцю. Калі б Менск не перайшоў мільённы рубеж у колькасьці няроднага сабе насельніцтва. Калі б ня ўзьнікла патрэба пашырыць Нямігу дзеля стварэньня паралельнай праспэкту магістралі. Калі б не прыйшлося будаваць мэтрапалітэн і новы вакзал. І яшчэ дзясяткі «калі б».

А які прыгожы быў бы горад, калі б у ім зусім не было жыхароў. Нядаўна я ўбачыў яго такім. На карціне мастака Язэпа Драздовіча «Горад Палацаў». На гэтым палатне пануе дрымучы лес да самага далягляду. І нібы напаміны аб былых

цывілізацыях ці сьляды якіх прышэльцаў над цёмным неаглядным лесам белымі прывідамі ўзвышаюцца дахі сьветлых палацаў. Але карціна мастака ўразіла мяне ня столькі фантасмагарычным сюжэтам, колькі выяваю палацу пасярод гэтага лесу. Палац — ледзь ня копія сёньняшняга Палацу Рэспублікі. Што гэта? Адно толькі чыстае супадзеньне? Ці геніяльнае прароцтва мастака?

*2001, студзень*

***

Аднойчы на старым фота я не пазнаў Менску. Настолькі ён быў непадобны да самога сябе. Дакладней, я не пазнаў Мінск. На здымку, зробленым з вышыні птушынага палёту, я бачыў стары эўрапейскі горад. Зьвілістыя вуліцы сьцякаліся да вялікага пляцу, на якім дамінаваў велічны сабор са званіцаю. Падказку я знайшоў у будынку Марыінскага касьцёлу. У астатнім горад з вышыні нагадваў хутчэй сёньняшнюю Вільню. Здымак быў зроблены нямецкім лётнікам 25 чэрвеня 1941 году, на чацьвёрты дзень вайны. Нават пасьля жудаснага нямецкага бамбаваньня горад захаваў сваю мудрагелістую структуру, якая складалася стагодзьдзямі.

Апошні раз жывая Няміга мільганула ў фінале кінакарціны Віктара Турава «Праз могілкі». Дабівалі яе кіношныя немцы ўжо ў іншым фільме — шматсэрыйным палатне Віталя Чацьверыкова «Руіны страляюць».

На паваенных карцінах, прысьвечаных адбудове новай сталіцы, муляры і тынкаркі выяўленыя маладымі, з шырокімі ўсьмешкамі на шчасьлівых тварах. На гэтых палотнах сацрэалісты схлусілі толькі часткова. Ня выявіўшы побач з радаснымі будаўнікамі сацыялізму сумных мужчын у паношанай нямецкай уніформе. А яшчэ… Няўжо з такімі самымі ўсьмешкамі руйнавалі ацалелыя кварталы Ніжняга рынку, узрывалі дамініканскі сабор, трушчылі Халодную сынагогу? Цікава, палонныя немцы таксама ўдзельнічалі ў тым руйнаваньні?

Менск саступаў месца Мінску. Але як не бывае Масквы без Арбату ці Вільні бяз Замкавай, як няма Кіева без Андрэеўскага ўзвозу, так ня будзе і Менску безь Нямігі і Ніжняга рынку. Ніводзін аматар мінскай чысьціні не пераканае мяне ў адваротным. Таму калі і вернецца Менск, любімы сваімі жыхарамі, дык пачынаючы са зьменаў на сваёй самай легендарнай вуліцы.

Стоячы некалькі гадоў таму перад старажытнымі спарудамі ў Эгіпце, як сумленны турыст я намагаўся ўразіцца. І, як эгіпецкі вярблюд, сузіраючы велізарныя скульптуры Люксару, зусім нічога не адчуваў. Мяне не кранالі тыя тысячы гадоў, што прамінулі ад часоў стварэньня гэтых храмаў. Я заставаўся халодным да маштабу фараонскае пыхі. Але кожнага разу хвалююся, калі пабачу невядомы здымак зьнішчанае Нямігі. І, як відаць з жывасьці гэтай тэмы ў сеціве, Няміга хвалюе не аднаго мяне.

Зрэшты, аднаўленьне ўжо пачалося. Ідзе абмеркаваньне будучыні раёну. І цікавяцца найперш тыя, хто старую Нямігу ніколі ня бачыў, але каму ня ўсё адно, у якім горадзе жыць. Архітэктар Уладзімер Папруга зрабіў дэталёвы плян рэгенэрацыі старога гораду з вынасам за ягоныя межы дзьвюх транспартных артэрыяў. І мне лягчэй уявіць адбудову ў будучыні Старога гораду зь Нямігай, з Замчышчам і Казьмадзям'янаўскай, чым абураных мінчан, што паўстануць на абарону выдатнага помніка архітэктуры канца XX стагодзьдзя «Гандлёвы дом на Нямізе». Вуліца вернецца ў свае берагі разам са зьяўленьнем карэнных менчукоў.

А пакуль што пакажу фокус. Як адчуць сябе ў Старым горадзе. На ўсходнім баку Нямігі пабудаваны гандлёвы комплекс з паркінгам. Называецца «Ўспамін пра Нямігу». Дэкаратыўныя фасады «пад старыну» ўзьнятыя на шэрыя слупы. Больш слушнай назвай была б «Памяці Нямігі». Але ёсьць месца, дзе гэтая канструкцыя глядзіцца проста ідэальна. Зайдзіце ў Петрапаўлаўскі сабор. І паглядзіце ў вокны, што з правага боку. Звыродлівай пляцформы не відаць. У вокнах толькі дахі несапраўдных дамоў. І з вокнаў царквы лінія дахаў глядзіцца так, нібы дамы стаяць не на супрацьлеглым баку вуліцы, а на Ракаўскай. Як некалі і было.

# Паказьнік імёнаў, мясьцінаў, прадметаў і зьяваў

# Пра аўтара

Зьміцер Бартосік нарадзіўся ў 1968 годзе ў Рыбінску (Расея) у сям’і рэжысэра і акторкі драматычнага тэатру. Разам з бацькамі шмат вандраваў па абшарах савецкай імпэрыі. У школу пайшоў у казахстанскім Усьць-Каменагорску (Эскемене). Працягнуў вучобу ў расейскім Горкім (Ніжнім Ноўгарадзе). У 1979-м сям’я пераехала ў беларускі Гомель, дзе ў школе аўтар быў вызвалены ад вывучэньня беларускай мовы. Што ўрэшце карэнным чынам паўплывала на яго далейшы лёс. Цікавасьць да беларускай культуры як глыбока несавецкай зьявы прывяла аўтара спачатку ў віленскую рэдакцыю «Нашай Нівы», а пасьля і на Радыё Свабода. Выдаў кнігу апавяданьняў з уласнага жыцьця «Чорны пісталет» (2002) і два альбомы сваіх песень. Папярэдняя кніга падарожжаў «Быў у пана верабейка гаварушчы…» (Бібліятэка Свабоды, 2016) прынесла аўтару прэміі Аляксандра і Марыі Стагановічаў (за непрыдуманую літаратуру), Алеся Адамовіча (Беларускага ПЭН-цэнтру) і Ежы Гедройця. Паводле кнігі быў пастаўлены спэктакль беларускага Свабоднага тэатру.

## Summary

Belarusian bard, writer and journalist Źmicier Bartosik was born in Rybinsk, Russia in 1968 into a family of theatrical professionals. He is the author of a book of autobiographical essays ("The Black Pistol," 2002), and has released two albums of songs which he composed and performs himself. Bartosik's affiliation with Radio Liberty's Belarus Service began in 1997 as a contributor to the long-running cultural series "Vostraja Brama". Since 2013, he has bylined the service's popular "Liberty Excursions" travelogue.

Bartosik lives in Minsk with his wife and four children.

Bartosik's previous book was culled from the "Liberty Excursions" travelogue and bore the title "And the Master Had a Talking Sparrow." (Liberty Library, 2016.) It earned the author widespread critical acclaim, as well as the the Alaksandar and Maryja Stahanovič Award for non-fiction, the Belarusian PEN Center's Aleś Adamovič Award, and the prestigious Jerzy Giedroyc Prize for best book of the year. The renowned Belarus Free Theater staged an eponymous play based on Bartosik's book.

In this his latest book, "Clinic of a Chinese Dentist," the author takes the reader on a journey to various "forgotten venues" of Belarusian culture. With a magic wand inscribed with the names of

famous personages, Bartosik brings back to life whole eras, and revisits themes and passions with a sense of discovery. He traces the footsteps of the Frenchman Apollinaire in Belarus, as well as those of the Belarusian Rypinski in Tottenham. Alternately curious, frightening, and funny are the stories he tells about renowned Belarusian writers, chief among them the revered late-soviet author Uladzimier Karatkievič. In chapters about "Lenin's Daughter" and the "Cold Synagogue," Bartosik resurrects scenes of the Belarusian capital of Minsk as it was long ago and is no more. Tomorrow, all of these venues, all of these addresses, will doubtless become tourist destinations, stamped as they will be by Źmicier Bartosik's unique take on them. It is by visiting these places that the author reassesses his own life journey and point of view, and offers a prognosis for the fate of Belarus — as a country, a nation, and a culture.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.* **Імёны Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.* **Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.* **Мой шыбалет.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы
Радыё Свабода.
Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў.**
**Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар.
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.*
**Птушкі пералётныя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.**
Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Сто адрасоў Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.**
Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка.**
**Сто песень.**
**2010-2012.**
Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/ Радыё Свабода, 2012




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.*
**Справа Бяляцкага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.*
**Турма і здароўе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.*
**Хто ўзарваў менскае мэтро?**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.*
**Жывая мова.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.










**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.

*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.

*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :)**
**вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015.
668 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 324 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 722 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 364 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 544 с.: іл.




**Светлана Алексиевич на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 744 с.: іл.

